№1 (964) 11 студзеня 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# ГОД НАВУКІ

500 гадоў таму Беларусь была ў ліку перадавых краін, першай з краін рэгіёна надрукавала Біблію. А цяпер марым пра заробак па 500…





1517—2017

**Сонца навукі скрозь хмары цёмныя**
**Прагляне ясна над нашай ніваю,**
**І будуць жыці дзеткі патомныя**
**Добраю доляй — доляй шчасліваю!..**

Янка Лучына (1892)

# Дзякуй чытачам-фундатарам «Нашай Нівы»

У мінулым месяцы «Наша Ніва», акрамя звычайнага збору грошай на выпуск праз АРІП, правяла краўдфандынгавы збор грошай праз інтэрнэт.

Мы асцярожна вызначылі суму збору — 10 тысяч рублёў. Аднак чытачы пераўзышлі ўсе нашыя чаканні. Было сабрана 16470 рублёў — гэта 165% ад запытанай сумы!

Гэта знак таго, што людзі разумеюць жыццёвую неабходнасць захаваць для сябе і наступных пакаленняў незалежную беларускамоўную прастору. Найлепшы спосаб для гэтага — падтрымліваць беларускамоўныя прадукты ўласнымі грашыма.

Праз платформу «Талакі» нас падтрымала амаль 300 чалавек, прычым абсалютная большасць з іх вырашыла не хаваць сваіх імёнаў. Яшчэ некалькі дзясяткаў чытачоў пераводзілі грошы праз АРІП. Мы ўдзячныя кожнаму з вас. У найбліжэйшы час мы апублікуем на сайце інфармацыю, як будзе адбывацца раздача абяцаных падарункаў і бонусаў.

Паколькі збор сродкаў праз «Талаку» адбываўся публічна, то мы прыводзім імёны (псеўданімы) ахвярадаўцаў і ахвяраваныя сумы. Толькі ў выпадках, калі ахвярадаўца прасіў ананімнасці, мы абазначаем яго як «Ананім». Пасля імені прыводзіцца лічба ў рублях.

jk 70
Уладзімір Траццяк 20
Ягор Падлуцкі 20
Яўген К 100
Mihas Boutylin 50
Alex N 10
Андрэй Касцевіч 100
Ева Гілевіч 10
Максім Ключнік 20
Наталля Рыбко 100
Ян Бурак 50
Сяргей Руноў 50
Павел Іваноў 10
Mikhail Milaserdny 10
Uladzimir Dzenisevich 10
Viktar Maslouski 10
Аляксандр Касач 50
(Ананім) 20
Аляксей Буй 10
Мікіта Семяненка 10
Valery Busel 10
Антон Бастынец 10
Паліна Валер'еўна 50
Ірына Зімнева 100
Dzmitry Aleinik 10
Hanna Lukashevich 100
Ales Krasouski 20
Pavel Piatruk 20
Уладзімір Дуброўскі 20
Аляксандр Снежны 10
Ales Alachnovic 100
Валерый Шафрановіч 20
Tamara Filanovich 10
Мікіта Лапуцька 20
(Ананімна) 20
(Ананімна) 50
(Ананімна) 100
Аліна Вашчыла 500
Maria Osipova 10
(Ананімна) 10
Павел Ганчар 100
(Ананімна) 10
Уладзімір Шабуня 20
Мікалай Мярчук 20
Аляксандр Чубрык 50
Aliaksandr Kamiahin 10
Сяржук Чайка 100
Francisak Viacorka 100
Аляксей К. 10
Канстанцін Мароз 50
Алесь Неберай 20
Natalia Yushkevich 20
Alex Kholodok 20
Тамара Русальская 20
Наталля Пархомчык 10
(Ананімна) 20
Ales Herasimenka 10
(Ананімна) 20
Yaugen Krachkouski 40
Алесь К. 400
(Ананімна) 20
Denis Nasuro 100
Ilya Butkin 100
Сяргей С 100
Mikhail Pl 100
Аляксандр Вілкоў 100
Юры Станько 10
Кірыл Юркоў 20
VS 20
Sergei Kemezhuk 10
(Ананімна) 10
Аўстрыяк Аўстрыяк 20
(Ананімна) 20
Андрэй Колас 10
Андрэй Лянкевіч 10
(Ананімна) 50
Яўген Вашчылка 20
Галіна Пархімчык 20
Alena Prymak 20
Арцём Когут 20
Сяргей Шулейка 10
Мікалай Максімовіч 10
(Ананімна) 10
Vouka Starykovich 20
Halina Jascanka 1000
Уладзімір Алейнік 20
(Ананімна) 20
Miroslav Tarazevich 20
Віталь Барушка 10
Alexander Ivanow 20
Анатоль Цераш 50
(Ананімна) 20
Генадзь Янукевіч 10
Рыгор Л 20
Vitali Sonchyk 20
Raman Krot 10
Арцём Котаў 20
Maryna Batujeva 100
Юрый Бараноўскі 10
Yauhen Khatsuk 50
Alena Paleika 10
Сакрэт Сакрэт 50
Андрэй Касцевіч 10
Uladzimier Harlac 10
Taras Lisouski 100
Mag Sim 100
Андрэй Тутэйшы 500
Alyaksandr Staravoitau 10
Андрэй Смірноў 10
Maksim Navakouski 50
Дзяніс Варошка 10
Аляксандр Салаўёў 20
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
Сяргей Лісічонак 50
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
(Ананімна) 20
Andrey Harbuz 10
(Ананімна) 50
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
Дзмітрый Папоў 10
Vytautas Skurko 10
Дзяніс Ляўданскі 20
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
Ivan Papko 10
Уладзімір Бутар 50
Aliaxandr Kryshalovich 10
Сяргей Рудзік 10
(Ананімна) 100
Сяргей Макрэнка 10
(Ананімна) 50
Pavel Kharytonau 10
Aliaksei Tsitovich 20
(Ананімна) 10
Andrei Ivanchykau 100
Alesya Muravieva 10
(Ананімна) 10
Сяргей Сарокін 50
Іван Кобзік 100
Olga Zhd 10
(Ананімна) 10
Konstantin Morozov 20
Максім Цылько 20
Уладзіслаў Баравік 20
Ігар Кавалеўскі 50
(Ананімна) 100
(Ананімна) 100
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
Уладзіслаў Суша 100
Станіслаў Ражанскі 20
Антон Карабун 10
Andrei Boika 20
Аляксей Шырко 20
Антон Лявіцкі 100
(Ананімна) 10
Віталь Будзько 20
(Ананімна) 10
(Ананімна)50
Эдуард Пальчыс 20
(Ананімна) 100
Dzmitry Haurychenka 20
Yury Polyakov 100
Pavel Koshaleu 20
(Ананімна) 10
Vadzim Smok 10
Улад Уласенка 10
Таццяна К 10
(Ананімна)20
(Ананімна) 100
Мікіта Броўка 20
(Ананімна) 10
Сяргей Клемянок 10
Alexander Lemiasheuski 100
Uladzimir Manulenka 20
Павел Белавус 20
Nicolia Tolstique 20
Andrei Novikau 10
Andrei Yurkevich 50
Dmitry Ivashkevich 100
Yury Melnichek 1000
(Ананімна) 200
(Ананімна) 10
Ілья Малчанаў 20
Valery Vitko 100
(Ананімна) 10
Зміцер Бесаў 20
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
Zoja Bartosh 50
(Ананімна) 50
Andrew Shved 20
Дзяніс Б 10
Igor Stalchinski 150
Андрэй Мірон 10
Andrei Yausei 20
Андрэй Евік 10
Яўген Шыдлоўскі 10
Ілля Кульбіцкі 50
(Ананімна) 20
Станіслаў Лабада 10
Paval Batujeu 100
Дзмітры Гарачка 100
Olga P 10
Гота Дзяніс 10
(Ананімна) 100
(Ананімна) 10
Jauhien Piatlicki 100
(Ананімна) 20
Eugene Semchenko 20
Марына Галубей 100
Юрась Шумовіч 100
Віктар Місько 10
Андрэй Конан 10
Аляксандр Холін 10
Галіна Грабоўская 10
Yahor Shumski 20
(Ананімна) 20
(Ананімна) 50
Лойка Кірыл 20
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
Andrei Ivanouski 20
Herman Saroka 10
Мікалай Смірноў 10
(Ананімна) 10
Nataliya Pliskouskaya 20
Siarhei Bahdanovich 100
Siarhiej Mudracenka 20
(Ананімна)20
(Ананімна) 50
Міхась Карпешка 100
Ania Gerasimova 20
(Ананімна) 10
Зміцер Баніфацьеў 10
Таня Жураўлёва 20
Dzmitry Shyshkou 10
Кірыла Анохін 20
Аляксей Гардзееў-Рыжык 20
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 50
(Ананімна) 50
(Ананімна) 10
(Ананімна) 20
(Ананімна) 100
Ihar Kruhlik 50
(Ананімна) 50
(Ананімна) 10
Viktar Khadasevich 10
Vitali Neviarouski 10
Andrei Rantsevich 100
Аляксандр Папко 10
Taras Klaskouski 50
(Ананімна) 50
Dzmitry Vensko 20
Dmitry Olenev 20
Віктар Краўчанка 10
(Ананімна) 100
(Ананімна) 50
(Ананімна) 100
(Ананімна) 10
Ільья Ц 20
Yury Lavresh 50
(Ананімна) 50
Віталій Сцяпанаў 10
Аляксей Чумакоў 20
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
Андрэй Дайнека 20
Alexander Lapko 20
Yauheni Hvozdz 10
Alexander Sergeev 50
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
(Ананімна) 10
Kirill Abrazhevich 20
Aksana Rudovich 10
Zmicier Narkievic 20
(Ананімна) 100
Ryhor Astapenia 10
(Ананімна) 10

**Праз АРІП прыслалі грошы на выпуск НН у снежні 2016:**

Алесь
DK
Анан І.М.
Астравецкі А.А.
Марамой
Яўген Чыгір
ЦВ
Сяргей Грэська
Zolak from Minsk
Уладзімір Макуленка
Лукшыц І.Ю.
Капарыха П.А.
Рыбачонак А.
Скамянава Алена
Жабрак
Мануленка Б.В.
Bekarevich
С
Narassle Davanni
Aliaksej
Бука А.В.
Таня
Маркелава І.Д.
Salash Siarhiej
Вашкевіч Андрэй
Зміцер Р.І.
Ю.Ю.
П.В.В.
Дарэўскі А.В.
Талака
Разумоўскі К.А.
Віленчык Уладзімір
Маўчун
Макіявелі Н.Б.
Сяргей Ш.
Сацук Вольга
Жылінскі А.А.
Sha
Валера Я.
Лукашова Паліна
«За расследаванні НН!»
Анатоль
Kurliankou
Алесь з Горадні
Галінка Г.
Наварыч І.М.
Вячаслаў Кіпрыяновіч
П.Н.
Viktar Lukashenka
Аляксандр Т.
Ушацкі
Іванавіч
Буры І.У.
Ніна С.
Максімовіч
Пятрук Г.П.
Кліманскі В.Н.
Зюзя
Цімур В.
Афанасенка Уладзімір
Лявонік А.А.
Шалайка Аляксандр
Градзіцкі Н.А.
Алесь
Раман Б.
«Працуйце плённа!»
Беларус В.М.
Козіч А.А.
Андрусь

## Сцісла

### Аўтары «Рэгнума» сядзяць

Пад вартай застаюцца тры аўтары расійскага шавіністычнага сайта «Рэгнум». Паўлаўца, Шыптэнку і Алімкіна арыштавалі ў снежні. Двух першых — у Мінску, трэцяга — у Брэсце. Іх абвінавацілі ў распальванні міжнацыянальнай варожасці, пісанні заказных артыкулаў. Напрыклад, вартаўнік адной з берасцейскіх школ Алімкін пад псеўданімам Ала Бронь сцвярджаў, што Беларусь — гэта зварʼяцелая недадзяржава, а беларуская мова — прыдуманая, і нават акцэнт беларускі — прыкмета «нізкага паходжання».

Гэта першы выпадак такой рэзкай рэакцыі праваахоўных органаў на антыбеларускія публікацыі.

### Відэа, як мінчук б'ецца з дыванам, стала хітом

«Як у мяне за акном вяліся баявыя дзеянні», — карыстальніца інтэрнэту зняла на відэа і выставіла ролік, як мужчына на снезе б'ецца з скручаным дыванам, нібы са спарынг-партнёрам. Не заўжды перамагае спартовец, часам кілім валіць яго на зямлю.

За чатыры дні відэа на *Youtube* паглядзелі паўтара мільёна чалавек.

### Беларус няўдала пагуляў у «рускую рулетку»

Цела 37-гадовага беларускага грамадзяніна было знойдзена 9 студзеня ў адным з дамоў вёскі Цімоніна Валакаламскага раёна ў Падмаскоўі, паведамляе тэлеканал РЕН-ТВ.

Паліцэйскія высветлілі, што мужчына ў той вечар прыехаў у госці да свайго знаёмага. Яны выпілі, госць дастаў свой сігнальны рэвальвер, перароблены пад стральбу баявымі патронамі, пасля чаго зрабіў некалькі стрэлаў у столь. Затым мужчына раскруціў барабан зброі і, прапанаваўшы згуляць у «рускую рулетку», зрабіў стрэл сабе ў скронь.

Цяпер праводзіцца праверка, ці ўсё праўдзіва расказвае той знаёмы.

УШ

## Апытанне на nn.by

### Ваш заробак у 2016...

| | | |
|---|---|---|
| вырас | 184 | 13% |
| паменшаў | 750 | 54% |
| застаўся такі самы | 270 | 20% |
| я ўжо / яшчэ не працую | 182 | 13% |

Усяго прагаласавала 1386 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за снежань 2016

1 «Наша Ніва» здабыла новыя шакуючыя ФОТЫ «бацюшкі са свастыкай»
2 «Прачытала навіну пра знос БелЭКСПА ля Свіслачы, і такая злосць заняла, што не магу маўчаць»
3 Жонка мужчыны, уджаленага скарпіёнам, прыйшла ў «Еўраопт» і выварвала членістаногае ФОТА
4 Таямніца біяграфіі Аляксандра Косінца
5 Лявон Вольскі абвесціў пра змену статусу — ФОТА Мар'яны Вольскай
6 Такога вы яшчэ не бачылі: ФОТЫ гамельчука, які зняважыў беларускую мову
7 Коля Лукашэнка расказаў пра сябе і адказаў на пытанне, ці хацеў бы стаць пераемнікам бацькі
8 «Ала Бронь»: у Брэсце затрыманы аўтар артыкула пра Беларусь як недадзяржаву
9 Хто хоча зрабіць з Беларусі Заходнюю Расію — дасье
10 Сын міліцэйскага ідэолага стаў скандальным беларускім рэперам ВІДЭА

# Год культуры, а шэдэўраў няма

У Беларусі кожны год мае сваю «спецыялізацыю». Былі «год навядзення парадку на зямлі», «год гасціннасці» — а мінулы быў «год культуры». Напачатку 2017-га час падсумаваць, што ж зроблена за год культуры.

На паперы дык шмат чаго планавалася: «Нацбанк праводзіў урокі фінансавай пісьменнасці сярод школьнікаў», «павышана наведвальнасць рэгіянальных навінавых сайтаў...»

Але якія шэдэўры напісаны за мінулы год? Якія шлягеры прагрымелі? Якія фільмы знятыя?

### «Мы 25 гадоў будуем дзяржаву, а радуемся вышыванкам»

«Што запомнілася? А вось неяк і зусім мала што запомнілася, — паставілі мы ў тупік мастацтвазнаўцу Сяргея Харэўскага. — У адрозненне ад папярэдніх гадоў, калі былі каласальныя выставы, напрыклад «10 стагоддзяў беларускага мастацтва», сёлета знакавых выстаў не адбылося. Хіба што фэст «Вуліца-Бразіл» у Мінску прыгадваецца, ды скандал з муралам».

Праўда што, дадаў Харэўскі, у Ватыкане прайшла выстава беларускіх абразоў — важная падзея для вобразу нашай краіны ў свеце.

«Канцэртныя праграмы беларускіх творцаў? Таксама не прыпомню, каб мяне нешта ўразіла».

«Год культуры? У нашай краіне тысячы помнікаў даўніны ў катастрафічным стане. Колькі з іх рэстаўравана за «год культуры»? Колькі новых тэатраў адкрыта?» — пытаецца Харэўскі.

«У такія гады мусяць быць прэм'еры! У краіне існуе цэлая кінастудыя «Беларусьфільм». І што ж ён зняў за год культуры? Я нічога не заўважыў.

Добра, у тэатры імя Янкі Купалы пастаўленыя «Дзве душы» Гарэцкага — хоць спектакль бясспрэчна добры, але пастаноўка класіка ў акадэмічным тэатры не цягне на падзею года.

А што ж падзея года? Можа быць, гэта Месяц фатаграфіі ў прасторы «Цэх», — мяркуе Харэўскі.

На думку Харэўскага, дзяржава паказвае сябе негатовай да святкавання юбілеяў знакавых фігур айчыннага мастацтва.

«А новыя помнікі? Манюшку і Дуніну-Марцінкевічу — адзінае за год на маёй памяці!» — кажа Харэўскі.

## Каля 7% беларускай мовы — дык гэта не беларусізацыя, гэта абсурд

Дарэчы, гэтыя помнік паўстаў з ініцыятывы Мінскага гарвыканкама, а не Міністэрства культуры. Міністр Святлоў нават не быў заўважаны на адкрыцці.

«А тэлебачанне? Паглядзіце на беларускія каналы ў год культуры. З'явіліся нейкія цікавыя перадачы? Гледача прыцягнулі да экранаў расказамі пра нашых выбітных дзеячаў? Пераклалі на беларускую мову папулярныя фільмы? Стварылі беларускамоўны канал мультфільмаў? Не! Можа, новых перадачы для дзяцей па-беларуску ўласнай прадукцыі? Не! Усе гэтыя калыханкі — прафанацыя. Там дзве хвіліны па-беларуску, а далей — рускамоўны савецкі мульцік. Колькі на дзяржаўных тэлеканалах беларускага? Каля 7% беларускай мовы — дык гэта не беларусізацыя, гэта абсурд. Мы 25 гадоў будуем сваю дзяржаву, а радуемся вышыванкам і дзвюм беларускамоўным касам у гастраноме. Нягледзячы на абяцанкі міністра адукацыі, выкладанне гісторыі і геаграфіі на беларускую мову не вярнулі. Ніводнай новай беларускамоўнай школы не адкрылі, беларускамоўных дапаможнікаў у профільныя школах не хапае! Дык якой культуры гэта быў год?» — Сяргей Харэўскі лічыць 2016-ы годам расчаравання.




У 2016 бюджэт Міністэрства культуры склаў каля 95 мільёнаў рублёў (новымі), з іх на кінематограф — каля 7,6 мільёнаў.

Саюз пісьменнікаў Мікалая Чаргінца атрымаў з бюджэту каля 266 тысяч рублёў.

**Барыс Святлоў (у цэнтры) і былы міністр Леанід Гуляка (злева).**

### «А прэзідэнт — максіміліст»

Адрознае бачанне мае Мікалай Чаргінец — старшыня Саюза пісьменнікаў.

«Год дазволіў зрабіць рэвізію ў галіне, — сказаў ён. — Мы намагаліся прывучыць да культуры дзяцей, цаніць само слова «культура». Яно шматбаковае: тое ж паляпшэнне адносінаў з Еўропай — гэта праява нашай палітычнай культуры».

Чаргінец мяркуе, што год адзначыўся шэрагам «значных» літаратурных матэрыялаў.

«Вячаслаў Бандарэнка выдаў дзве кнігі пра Першую сусветную вайну — там ён расказаў пра тое, што адбывалася на тэрыторыі краіны ў той час. Пісьменнік Матвіенка выдаў кнігу «Авіяносцы адмірала Калчака» — праўда, былі сумневы, ці варта называць тых асобаў, хто пасля аказаўся ў контррэвалюцыі, але назвалі ўсіх. Цікавыя кнігі атрымаліся», — сказаў Чаргінец.

Кніга Бандарэнкі расказвае пра расійскіх салдат, якія загінулі на тэрыторыі Беларусі, а «Авіяносцы адмірала Калчака» — гэта фантастыка пра тое, як Калчак стварыў караблі і яны «адправілі на дно гісторыі Брытанскую Імперыю зла», а далей паплылі ваяваць з Амерыкай.

«У год культуры зроблены ўнёсак у песенны жанр, — працягнуў старшыня саюза пісьменнікаў. — Мы пашырылі спаборніцтва паміж тройкамі: паэт, кампазітар і выканаўца. Напрыклад, Юркін, Ярмоленка... Яны зрабілі каля сотні найцікавейшых песень для Беларусі. Па-беларуску, ёсць і па-руску, і атрымалі прэмію Саюзнай дзяржавы.

Таксама Мікалая Чаргінца цешыць з'яўленне ў год культуры новых маладых пісьменнікаў, якія «пішуць пра памяць тых, хто ваяваў, пра сваіх бабуль і дзядуль, пра сваё бачанне гісторыі Беларусі».

Кніг Горвата і Віктара Марціновіча, праўда, старшыня праўладнага Саюза пісьменнікаў не чытаў.

«А калі прэзідэнт кажа, што не дай Бог, каб наступны год навукі прайшоў гэтак жа, як год культуры, то тут трэба разумець: ён максіміліст. І калі ён сказаў, што не ўсё зрабілі, дык гэта пасыл, што ў год навукі мы павінны дасягнуць не меншых вынікаў, не трэба даслоўна ўспрымаць яго крытыку», — падсумаваў Чаргінец.

### «Дзяржава не замінала»

З ацэнкай Чаргінца не супадае меркаванне старшыні Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэя Хадановіча.

«Сітуацыя ў літаратуры такая ж, як была апошнія два дзесяцігоддзі, — сказаў ён «Нашай Ніве». — Літаратура — занятак досыць індывідуальны. Напісаць у стол балет ці скульптуру цяжэй, чым напісаць раман. І максімум, які рабіла дзяржава, — гэта не замінала працаваць найлепшым празаікам, паэтам і перакладчыкам. Найлепшыя кніжныя вынікі атрымаліся за межамі дзяржаўнай кампетэнцыі. Калі казаць пра канкрэтныя вынікі, то для мяне здаецца найлепшай кнігай паэзіі — «Маё невымаўля» Кудасавай, а проза — «План Бабарозы» Касцюкевіча.

Найцікавейшае ў кніжным годзе — гэта кнігавыдавецкая ініцыятыва Змітра Коласа. З'явілася серыя перакладной сусветнай паэзіі: Сапфо ў перакладзе Баршчэўскага, Гайнэ ў перакладзе Крэбса... Але ў чым тут роля дзяржавы? Ні ў чым».

### А што вы хацелі?

Аналітык «Ліберальнага клуба» Вадзім Мажэйка надае вялікую ролю Кодэксу аб культуры і «мяккай беларусізацыі».

«Галоўнае дасягненне года культуры — не дзяржаўныя, гэта варта прызнаць. Але ж мяккая беларусізацыя працягваецца. Праўда, працягваецца збольшага высілкамі грамадскіх актывістаў, якія не паніжалі абаротаў: *Symbal.by*, «Будзьма». Калі паглядзець на дзяржаву, то вынікам стаў Кодэкс аб культуры. Ён задае рамку для культурнай палітыкі», — кажа Мажэйка.

«Для 2016-га ўласціва праблема ўсіх тэматычных гадоў — няма падсумавання. Няма і фінансавага ўнёску. «Славянскі базар» і «Ноч музеяў» — гэтыя праекты былі занесеныя ў план года, а што, яны не адбыліся б проста так? З такім падыходам вялікай аддачы чакаць не выпадае», — скончыў думку Мажэйка.

### Занятыя

Патэлефанавалі мы маэстра Міхаілу Фінбергу, каб спытацца, якія шлягеры былі створаны за мінулы год, якія песні мінулага сезона стануць народнымі. Аднак маэстра спаслаўся на занятасць і адмовіўся ад гаворкі.

Профільны год мусіў адзначыцца выбітнымі мерапрыемствамі, а скончыцца яскравай «кропкай». Аднак такога не прыгадаеш. Наадварот, запомніўся выступ міністра Святлова перад пустой у спёку плошчай на «Дзень вышыванкі» — для птушачак, як той казаў.

Між тым былі творы і праекты, якія звярнулі на сябе ўвагу, якія пакладзіся цаглінкамі ў будынак нацыянальнай культуры. Быў поспех кніг Андруся Горвата («Радзіва Прудок»), Віктара Марціновіча («Возера радасці») і Машы Чараковай («Гэта Беларусь, дзетка»), быў выпакутаваны альбом Вольскага, прэм'ера фільма «Party-zan» Курэйчыка, ажыятаж на «Мове нанова» і Месяцы фатаграфіі, былі запоўненыя залы на беларускамоўных прэм'ерах «Кінаконга». Вось толькі пытанне ў тым, што ніводнаму — ні аднаму! — з пералічаных праектаў дзяржава не дапамагла ні капейкай, ні тэлевізійным асвятленнем, дзяржаўныя СМІ многія з гэтых спраў проста замаўчалі (гэта выпадак, калі маўчанне тоеснае шкодзе). Дзейнасць міністэрстваў як культуры, так і інфармацыі, а таксама дзяржаўнага тэлебачання ў пытаннях культуры характарызуе інертнасць, няўменне бачыць новае, перадавое, нешаблоннае, няўменне падхапіць, падтрымаць ініцыятыву людзей, асабліва моладзі. Культурна, па-мастацку маштабнага не бачаць цяперашнія кіраўнікі.

Больш за тое, не рэалізаваныя і праекты па ўдасканальванні інфраструктуры: спарткомплекс Універсітэта культуры не дабудаваны, рамонт вучэльні імя Глебава недароблены...

Шмат хто ставіць гэта ў дакор міністру Барысу Святлову, яго называюць «безыніцыятыўным». Вось і ацэнак — ці маўчання — апытаных «Нашай Нівай» экспертаў выходзіць, што па выніках «года культуры» пахваліцца яму як міністру няма чым. Зрэшты, ягоным намеснікам таксама.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Беларусь адкрываецца свету

**Уводзіцца бязвізавы рэжым для грамадзян 80 краін, у тым ліку ЕС і ЗША.**

Аляксандр Лукашэнка 9 студзеня падпісаў указ № 8 «Аб устанаўленні бязвізавага парадку ўезду і выезду замежных грамадзян». Дакументам уводзіцца бязвізавы парадак уезду ў Беларусь на тэрмін не больш за 5 сутак пры ўездзе праз пункт пропуску «Нацыянальны аэрапорт Мінск» для грамадзян 80 дзяржаў, паведамляе прэс-служба кіраўніка Беларусі.

Указ распаўсюджваецца на 39 краін Еўропы, уключаючы ўвесь Еўрасаюз, а таксама Бразілію, Інданезію, ЗША, Японію і іншыя дзяржавы.

У першую чаргу гэта спрыяльныя ў міграцыйным плане краіны, стратэгічныя партнёры Беларусі і дзяржавы, якія ў аднабаковым парадку ўсталявалі бязвізавы рэжым у дачыненні да беларускіх грамадзян. Новыя правілы ахопліваюць таксама такую катэгорыю, як неграмадзяне Латвіі і асобы без грамадзянства Эстоніі.

Дакумент накіраваны на актывізацыю падарожжаў бізнэсменаў, турыстаў, прыватных асоб, якія маюць агульнаграмадзянскія пашпарты, і не будзе распаўсюджвацца на замежнікаў, якія ажыццяўляюць службовыя паездкі: дыпламатычныя, службовыя, спецыяльныя пашпарты пад увагу браца не будуць.

Для ўезду ў бязвізавым рэжыме неабходна мець пры сабе сапраўдны пашпарт ці іншы дакумент для выезду за мяжу, які замяняе яго, грашовыя сродкі (на кожны дзень знаходжання суму ў валюце або ў беларускіх рублях, эквівалентную не менш чым дзвюм базавым велічыням), медыцынскі страхавы поліс на суму не менш за 10 тысяч еўра, які дзейнічае ў Беларусі.

Для грамадзян В'етнама, Гаіці, Гамбіі, Гандураса, Індыі, Кітая, Лівана, Намібіі, Самоа абавязковым дадатковым патрабаваннем з'яўляецца наяўнасць у дакуменце для выезду за мяжу сапраўднай шматразовай візы дзяржаў ЕС або Шэнгенскай зоны з адзнакай аб уездзе на іх тэрыторыю, а таксама авіябілетаў з пацвярджэннем у іх вылету з Нацыянальнага аэрапорта Мінск на працягу 5 дзён з даты ўезду.

Парадак бязвізавага перамяшчэння не распаўсюджваецца на асоб, якія прыбываюць у Беларусь авіярэйсамі з Расіі, а таксама якія маюць намер ажыццявіць вылет у аэрапорты Расіі (дадзеныя рэйсы з'яўляюцца ўнутранымі, памежны кантроль на іх не ажыццяўляецца).

Указ уступіць у сілу праз месяц пасля афіцыйнага апублікавання.

**Сяргей Гезгала**

# Расійскія СМІ зноў атакуюць Уладзіміра Макея



На сайце *EurAsia Daily* з'явіўся аналітычны артыкул дырэктара цэнтра па працы з выпускнікамі Вышэйшай школы эканомікі (Масква) Дзмітрыя Балкунца «Як дзейнасць кіраўніка МЗС Беларусі ўплывае на адносіны Мінска і Масквы».

Можна сказаць, што ў расійскай прэсе працягваецца серыя ачарняльных матэрыялаў у дачыненні да Уладзіміра Макея. Яшчэ летам шэф-рэдактар «Рэгнума» Юрый Баранчык пісаў, што Макей рыхтуе Майдан на вуліцы Зыбіцкай.

Балкунец у сваіх меркаваннях пайшоў следам за старэйшым таварышам. «Ёсць падставы меркаваць, што пры ўдзеле Макея вядзецца планамерная работа па неканстытуцыйнай змене ўлады ў рэспубліцы па ўкраінскім сцэнары», — лічыць эксперт. На чым грунтуецца такая выснова? Усё вельмі проста: Макей — міністр замежных справаў, а Парашэнка займаў такую самую пасаду ва Украіне.

«Дзеянні Уладзіміра Макея не толькі наносяць шкоду расійска-беларускім адносінам, але і ўводзяць у зман еўрапейскіх партнёраў Беларусі. Рэспубліка выстаўляецца ў ролі жабрака і пасмешышча, а яе замежная палітыка носіць дэструктыўны характар», — рубіць Балкунец.

Вялікае абурэнне маскоўскага палітолага выклікае той факт, што цяпер вядуцца перамовы пра ўзнаўленне працы пасольства ЗША ў Мінску. Як бачым, кагосьці прынамсі ў Маскве вельмі нервуюць гэтыя перамовы.

Дзмітрый Балкунец заяўляе, што толькі за снежань Макей быў у эпіцэнтры трох скандалаў. Першы з іх — арышт прарасійскіх публіцыстаў за распальванне міжнацыянальнай варажнечы, што пісалі пад псеўданімамі на расійскіх імперскіх сайтах.



Дзмітрый Балкунец (справа) з георгіеўскай стужкай замест гальштукана парадзе 9 Мая ў Маскве.

ФОТА З FACEBOOK.COM

«Пры гэтым беларуская ўлады не звяртаюць увагі на адкрытыя русафобскія публікацыі ў дзяржаўных і незалежных СМІ», — як элегантна аўтар паставіў у адзін шэраг усе беларускія СМІ. Калавур! Русафобія на ўсіх узроўнях!

Два іншыя скандалы — гэта нота пратэсту расійскаму боку ў сувязі з заявай Леаніда Рашэтнікава адносна беларускай мовы і дзяржаўнасці, а таксама наведванне Макеем «лініі акупацыі» ў Грузіі.

«Уладзімір Макей на сустрэчах з еўрапейскімі і амерыканскімі дыпламатамі замоўчвае аб грамадзянах Беларусі, якія, дзякуючы ў тым ліку і яго намаганням, пазбаўленыя магчымасці наведваць рэспубліку. Візіты ў краіну для іх вельмі небяспечныя, інакш можна пасяліцца ў «амерыканцы» (турма КДБ) або атрымаць «укол парасонам», — відаць, Балкунец мае на ўвазе сябе і Юрыя Баранчыка.

«Мінск мае патрэбу ў нармалізацыі адносін з краінамі ЕС і ЗША, але не цаной здрады нацыянальным інтарэсам рэспублікі і разбурэння расійска-беларускіх адносін», — турбуецца аналітык.

Дзмітрый Балкунец паходзіць са Слоніма, яму 33 гады. У Беларусі вучыўся ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Потым скончыў магістратуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Літва). У 2013 скончыў аспірантуру пры Вышэйшай школе эканомікі ў Маскве (ВШЭ). У ВШЭ працуе і Андрэй Суздальцаў, грамадзянін Расіі, якога некалі дэпартавалі з Беларусі.

Намаганнямі Балкунца і Суздальцава ў ВШЭ рэгулярна праводзяць сустрэчы і канферэнцыі на тэму Беларусі. Іх наведваюць як апазіцыйныя палітыкі, накшталт Таццяны Караткевіч і Вольгі Карач, гэтак і заходнерусісты кшталту Льва Крыштаповіча.

Артыкул Балкунца сведчыць аб адарванасці аналітыка ад беларускіх рэалій, няведанні ўнутранага жыцця краіны і чынавенства. А можа разглядацца як сігнал, што Масква патрабуе адстаўкі Уладзіміра Макея. Як бы тое ні было, але механізм дыскрэдытацыі міністра замежных справаў, запушчаны яшчэ летась, працягвае набіраць абароты.

**Зміцер Панкавец**

## Падпісаны ўказ аб зменах у правілы прыёму ў ВНУ

**Зараз можна будзе здаваць 4 ЦТ, а не 3.**

У Беларусі змяняюцца правілы прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Адпаведны ўказ падпісаў Аляксандр Лукашэнка, паведамілі БелТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.

Асноўнымі навўвядзеннямі з'яўляюцца магчымасць здачы цэнтралізаванага тэставання па чатырох вучэбных прадметах, пашырэнне тэрміну дзеяння сертыфікатаў ЦТ да двух гадоў, арганізацыя да трох рэзервовых дзён ЦТ.

У адпаведнасці з дакументам уводзяцца льготы для профільных класаў педагагічнага кірунку пры паступленні на педагагічныя спецыяльнасці: залічэнне на дзённую бюджэтную форму атрымання вышэйшай педагагічнай адукацыі выпускнікоў такіх класаў па выніках сумоўя, пры гэтым тэрмін наступнай абавязковай працы па размеркаванні складзе не менш за пяць гадоў.

Акрамя таго, створаны роўныя ўмовы конкурсу пры паступленні на сельскагаспадарчыя спецыяльнасці ва ўсе ўстановы вышэйшай адукацыі. Для тых, хто паступае ў скарочаны тэрмін ва ўстановы вышэйшай адукацыі ўсіх профіляў, прадугледжана два ўступныя іспыты па дысцыплінах вучэбнага плана сярэдняй спецыяльнай адукацыі, што вызначаюцца прыёмнай камісіяй ВНУ.

Таксама ўдакладнены асобныя працэдурныя і тэхнічныя пытанні прыёмнай кампаніі

## Студэнтам прапануюць спісаць хвасты за стварэнне масоўкі на хакеі

Студэнты Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта размясцілі ў інтэрнэце прапанову прапусціць заняткі ўзамен на падстрахоўку стварэння масавасці на «Калядным турніры аматараў хакея».

Прапанова сыходзіла ад выкладчыка кафедры інфарматыкі Рамана Азарчыка.

Гэты факт дэвальвацыі вышэйшай адукацыі ў Беларусі настолькі абурыў былога выкладчыка інфарматыкі Белдзяржуніверсітэта Змітра Валотку, што той вырашыў схадзіць на прыём да кіраўніцтва БДТУ.

Свае прыгоды падчас размоваў з адміністрацыяй універсітэта былы выкладчык — а сёння праграміст — апісаў у сваім блогу.

Гісторыя на гэтым не скончылася. Як расказаў «Нашай Ніве» блогер, на наступны дзень невядомыя зламыснікі спрабавалі ўзламаць яго паштовую скрыню і атакавалі сайт.

«Хто гэта рабіў, я пакуль не высветліў, — сказаў нам Зміцер. — Я адправіў запыты ўладальнікам тых IP-адрасоў, з якіх ішла атака».

Атрымаць каментар ва ўніверсітэце «Нашай Ніве» не ўдалося. «Мы гэта не каментуем», — сказаў дэкан факультэта інфармацыйных тэхналогій Дзмітрый Шыман.

**АЯ**

# Апошні шанец ці апошні цвік

**Чым стануць змяненні ў закон «Аб абароне правоў спажыўцоў» для роднай мовы?**

Мова існуе і завучваецца, пакуль з ёй сутыкаюцца. Цяпер заканадаўства такое, што ў беларускіх крамах прадаюцца прадукты з надпісамі па-казахску, пагрузінску... Бо ўсе гэтыя дзяржавы абавязваюць наяўнасць надпісаў на сваіх мовах. Але не Беларусь.

У найбліжэйшы час у беларускім парламенце мае адбыцца разгляд змяненняў і дапаўненняў у закон «Аб абароне правоў спажыўцоў». Міністэрства гандлю і антыманапольнага рэгулявання, якое рыхтавала праект змяненняў, адмовілася выпраўляць сітуацыю, калі руская мова на нашых таварах з'яўляецца абавязковаю, а беларуская можа быць дададзена толькі пры асаблівым жаданні вытворцы. Ці атрымаецца правесці праз парламент рашэнні, скіраваныя на рэальнае моўнае раўнапраўе і абарону правоў беларускамоўных спажыўцоў?




**Унікальны ў свеце выпадак: на прадуктах няма надпісу на нацыянальнай мове, бо нацыянальны закон таго не патрабуе!**

## Падтрымка вядомых вытворцаў

Калі Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю накіроўвала адказ на зварот каардынатара грамадзянскай ініцыятывы «Справаводства па-беларуску» Ігара Случака з прапановамі заканадаўчага замацавання нормы, якая б патрабавала абавязковай прысутнасці на таварах інфармацыі аб іх на абедзвюх дзяржаўных мовах, яно паказала меркаванні вытворцаў занадта аднабакова. У адказе ведамства сказана, што на думку цэлага шэрагу дзяржаўных ведамстваў прапанова аб змяненні артыкулаў 7 і 8 Закона «Аб абароне правоў пакупнікоў» з мэтай ураўнавання дзвюх дзяржаўных моваў і іх носьбітаў у правах «з'яўляецца эканамічна неабгрунтаванай і немэтазгоднай».

У той жа час многія вытворцы ў сваіх адказах на аналагічныя звароты Ігара Случака даслалі адказы з падтрымкай ягоных прапановаў. Напрыклад, такі вядомы дзяржаўны вытворца побытавай тэхнікі, як ААТ «Гарызонт», якому ў выпадку рэалізацыі прапаноў давядзецца абнавіць не толькі пакаванку сваёй прадукцыі, але і тэхнічныя пашпарты і інструкцыі па эксплуатацыі, «лічыць прапанову аб неабходнасці інфармавання спажыўцоў аб тавары і яго вытворцах на беларускай мове справядлівай і абгрунтаванай». Гэтае прадпрыемства пастаўляе сваю прадукцыю і на рынкі самых розных краін СНД. Магчыма, таму яно разумее каштоўнасць нашай нацыянальнай мовы для нашага народа, гэтак жа як моў іншых краін для іх.

«Гарызонту» кідаецца ў вочы абдзеленасць беларускай мовы і беларускамоўных грамадзян. «Увядзенне такой нормы будзе садзейнічаць поўнаму забеспячэнню правоў беларускіх спажыўцоў», — сцвярджае ў лісце ад імя прадпрыемства намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях А.Зайчанка.

ААТ «Кандытарская фабрыка «Слодыч» таксама падтрымлівае прапановы аб моўным раўнапраўі ў аздабленні сваёй прадукцыі, пры тым што многія тавары, якія выпускае прадпрыемства, пакуюцца ў даволі дробныя пачакі, але ўжо цяпер маюць інфармацыю па-беларуску.

«Некаторыя вытворцы па сваёй ініцыятыве даволі актыўна і паспяхова робяць намаганні па ўжыванні беларускай мовы ў працы і рэкламе сваёй прадукцыі. І што самае галоўнае — гэта сустракае ў асноўным прыязнае стаўленне спажыўцоў», — піша ў сваім адказе ААТ «Белрыба». Прадпрыемства паведамляе, што лічыць прапановы па змяненні закона, накіраванага на пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў аздабленні тавараў, неабходнымі і своечасовымі.

Аператары мабільнай сувязі таксама ўхваляюць паданне інфармацыі аб сваіх паслугах на абедзвюх дзяржаўных мовах. «Пералічаныя прапазіцыі заслугоўваюць увагі», — лічыць прадпрыемства «Вэлком», якое апошнім часам дастаткова актыўна і паспяхова вядзе беларускамоўныя рэкламныя кампаніі і спрыяе многім праектам, якія пашыраюць нашу мову. «МТС падтрымлівае патрэбу абароны правоў спажыўцоў, незалежна ад ужыванай імі мовы», — сцвярджае СТАА «Мабільныя тэлесістэмы».

І такіх адказаў ад найбольш паспяховых і крэатыўных беларускіх вытворцаў у Ігара Случака маецца дастаткова шмат. Прынамсі, аб тым, што для складання тэксту на дзяржаўнай мове нашай краіны, ды яшчэ і нацыянальнай мове нашага народа, спатрэбіцца «ліцэнзаваны перакладчык», паслугі якога выклічуць дадатковыя фінансавыя страты, не паведаміла ніводнае з прадпрыемстваў, што адказалі Случаку. Відаць, такія сур'ёзныя праблемы з беларускай мовай маюцца толькі ў ААТ «Савушкаў прадукт», меркаванне якога прыводзіла ў сваім адказе Мінгандлю.

Калі ў супрацоўнікаў «Савушкавага прадукту» сапраўды ўсё гэтак кепска з валоданнем беларускай мовай, то менавіта з гэтага прадпрыемства і трэба пачынаць даданне нашай мовы на пакаванкі, пакуль ягоныя супрацоўнікі канчаткова не забыліся, да якога народа яны належаць і ў якой краіне працуюць.

Варта адзначыць, што, нягледзячы на тое, што Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю рыхтавала праект зменаў у закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», аб саміх спажыўцах яно ўвогуле не думала. Прапановы абаронцаў моўнага раўнапраўя яно разглядала выключна з пазіцыяў вытворцаў. Нават у пераліку ўдзельнікаў так званай Грамадска-кансультацыйнай рады пры міністэрстве і ведамстваў, меркаванне якіх Мінгандлю палічыла дастатковым для ігнаравання моўных правоў спажыўцоў, аніводнага прадстаўніцтва гэтых самых спажыўцоў няма.

Тым не менш гэтыя аб'яднанні ў сваіх адказах актывісту «Справаводства па-беларуску» падтрымалі ягоныя прапановы. Напрыклад, Мінскае гарадское таварыства абароны спажыўцоў даслала вельмі змястоўны адказ: «На наш погляд, недахопам Закона «Аб абароне правоў спажыўцоў» з'яўляецца тое, што ў ім прапісана альтэрнатыўнасць выкарыстання альбо беларускай, альбо рускай мовы, а не абавязковасць выкарыстання абедзвюх моваў або мовы, абранай грамадзянінам. Такім чынам, у ім выпусташаная самая прававая сутнасць, дух і літара закона аб абароне правоў грамадзяніна на адну з дзяржаўных моваў.

... Відавочна, што для забеспячэння рэальнай роўнасці моваў неабходнае, у першую чаргу, прыняццё зменаў у заканадаўстве».

Асноўная рэспубліканская арганізацыя, якая бароніць правы спажыўцоў, таксама за тое, каб дзве дзяржаўныя мовы мелі роўны статус. Грамадскае аб'яднанне «Беларускае таварыства абароны спажыўцоў» піша ў сваім лісце, што яно «падтрымлівае такую папраўку, аднак правам заканадаўчай ініцыятывы не валодае».

## Надзеі на дэпутатаў

Такім правам валодаюць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Прычым для гэтага ім не трэба збіраць тысячы подпісаў, як звычайнаму грамадзяніну.

«Я, безумоўна, падтрымліваю пашырэнне ўжывання беларускай мовы і лічу, што дзве дзяржаўныя мовы павінны мець роўны статус, — кажа дэпутатка ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганна Канапацкая. — Але цяпер у нас у краіне такая няпростая эканамічная сітуацыя, што ў гэтай справе трэба кіравацца найперш эканамічнымі цікавасцямі. Нельга, каб вытворцы неслі неапраўданыя выдаткі.

Таму я падтрымаю такую рэдакцыю зменаў у закон, якая б прадугледжвала абавязковае паданне інфармацыі аб таварах, работах і паслугах, а таксама аб іх вытворцах, выканаўцах і прадаўцах, на абедзвюх дзяржаўных мовах у тым выпадку, калі гэтыя тавары ці паслугі рэалізуюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Калі ж партыя тавару прызначана для рэалізацыі на экспарт, то тут мову, на якой павінна падавацца згаданая інфармацыя, лічу, варта пакінуць на выбар вытворцы».

А прапанаваць змены ў закон, у сваю чаргу, мае намер дэпутатка ад Стаўбцоўскай акругі — Алена Анісім, намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Яна паабяцала ўнесці адпаведныя прапановы на разгляд профільнай камісіі. Разам з гэтым Алена Анісім паведаміла «Нашай Ніве», што ўжо цяпер яна ўнесла ў адпаведныя парламенцкія камісіі прапановы аналагічных зменаў у законы «Аб дзяржаўных закупках» і «Аб якасці і бяспецы прадуктовай сыравіны і харчовых прадуктаў для жыцця і здароўя чалавека».

**Андрусь Гаёвы**

# Стваральнік Maps.me Юрый Мельнічак апісаў будучыню Беларусі і чалавецтва



Беларускі праграміст Юрый Мельнічак, сузаснавальнік картаграфічнага сэрвісу MAPS.ME, які мае досвед працы ў кампаніях Google, eBay і Mail.Ru Group, стварыў новую праграму на аснове нейронных сетак для апрацоўкі выяў Fabby. «Наша Ніва» пагутарыла з ім пра гэты праект, а заадно і пра глабальны кантэкст.

Пакуль што дадатак працуе толькі на *iOS*, але праз некалькі месяцаў з'явіцца версія і для прылад на *Android*. Інвестыцыі ў праект склалі да 1 мільёна даляраў.

**— Юрый, што на сёння ўяўляе з сябе ваш новы праект?**

— Мы выпусцілі мабільны дадатак, які апрацоўвае вашы фотаздымкі і дазваляе мяняць іх фон. Напрыклад, вы можаце стылізаваць свае фоты пад коміксы. У будучыні праграма будзе працаваць і з відэа. Канечне, на сёння гэта больш забаўляльны дадатак. Але мы працуем і над тым, каб тэхналогія мела і больш практычнае прымяненне. Уявіце, што вам неабходна зрабіць важны відэавыклік, напрыклад, начальніку, а годнага фону няма. Дадатак дазволіць зрабіць гэта ў любых абставінах.

**— Гэта, напэўна, карысная рэч. Але ж з нейроннымі сеткамі можна рабіць і нешта іншае?**

— Так. Канкрэтна гэты праект часткова забаўляльны, часткова вырашае праблему камунікацыі.

Але ў перспектыве мы хочам пабудаваць у Беларусі цэнтр кампетэнцыі, які будзе займацца даследаваннем нейронных сетак і прымяненнем гэтых даследаванняў у прыкладных прадуктах.

*Fabby* — гэта наш пілотны праект. Але мы верым, што ўсё будзе пашырацца і развівацца і ў іншых кірунках.

**— Чым нейронныя сеткі змогуць дапамагчы чалавецтву? Як яны зменяць наша жыццё?**

— Нейронныя сеткі — гэта такая матэматычная мадэль, натхнёная тым, як створаны наш мозг. Яна дазваляе камп'ютару добра вырашаць задачы, якія да гэтага яму не даваліся. Напрыклад, адрозніць на відэа катоў ад сабак, ідэнтыфікаваць чалавека, распазнаць галасы спікераў, канвертаваць аўдыёзапіс у тэкст.

Задачы, якія зараз выконваюцца людзьмі, у далейшым будуць актыўна выконвацца машынамі. Адрозніць прыгожае ад непрыгожага, бяспечнае ад небяспечнага... Раней мы не маглі такое даручыць камп'ютару, а зараз яны змогуць лёгка гэтаму даваць рады.

Працяг на старонцы 11.

# Пяць фактаў пра новага міністра адукацыі Ігара Карпенку

Новым міністрам адукацыі нечакана стаў лідар Камуністычнай партыі Беларусі Ігар Карпенка, які да нядаўняга часу працаваў намеснікам па ідэалогіі старшыні Мінгарвыканкама. «Страшна за дзяцей» — самы залайканы каментар на сайтах з гэтай нагоды. Але ці сапраўды такі ўжо страшны новы міністр? «Ні беларусафобам, ні русафілам ён не з'яўляецца. Сумнеўная нават яго вера ў камуністычную ідэю. Ён кар'ерыст і выканаўчы адміністратар. Дарэчы, нядрэнны адміністратар», — мяркуе пра яго аналітык Андрэй Паротнікаў.

«Наша Ніва» актуалізавала пяць фактаў пра новага міністра.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Цытаты Ігара Карпенкі**

Калі казаць пра рэйтынг палітыкаў ХХ стагоддзя, то, безумоўна, першае месца займае Уладзімір Ленін… Краіна, у якой палова насельніцтва не ўмела чытаць і пісаць, у лічаныя гадыператварылася ў самую чытаючую краіну … Менавіта дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы з'явіліся такія нацыянальныя дзяржавы, як Украіна, Беларусія (менавіта так — «НН»), Фінляндыя і іншыя.

Будучыня за сацыялістычнай мадэллю. Гэта пацвярджае і сацыялістычны выбар Кітая, В'етнама, Кубы і шэрагу іншых краін Лацінскай Амерыкі.

Пад саюз Расіі і Беларусі закладзена ліберальная міна.

Ельцынска-пуцінская Расія — гэта дзяржава рэстаўрацыі капіталізму.

### Узняўся на выхаваўчай рабоце ў Педуніверы

Ігар Карпенка нарадзіўся ў 1964 у Новакузнецку. Гэта сібірскі горад непадалёку ад Казахстана і Манголіі.

Пасля школы Карпенка адслужыў у войску (1982—1984), і толькі тады апынуўся ў Мінску.

Будучы міністр скончыў Педуніверсітэт па спецыяльнасці «гісторыя і замежная мова», у выніку ў гэтай навучальнай установе і застаўся.

З 1989 да 2001 года быў сакратаром камітэта камсамола, начальнікам аддзела выхаваўчай работы ў БДПУ, пасля на пару гадоў стаў начальнікам упраўлення выхаваўчай работы і яшчэ на год — прарэктарам па выхаваўчай рабоце.

Гісторык Ігар Мельнікаў, які вучыўся ў Педуніверсітэце, узгадвае, што ў тыя часы Карпенка не праяўляў ніякай антыбеларускасці, не прапагандаваў камуністычных ідэалаў ці прарасійскіх поглядаў. Ён узначаліў створаны пры БДПУ паспяховы навучальны цэнтр «Сучасны свет», які прапаноўваў дадатковую платную адукацыю па замежных мовах, а таксама камп'ютарныя курсы.

Карпенка выкладаў «Культуру маўлення» і выглядаў нашмат больш сучасным і еўрапейскім выкладчыкам, чым яго замшэлыя калегі.

### Уся кар'ера на плошчы Незалежнасці

У 2004 годзе Карпенка абіраўся ў парламент. Ён балатаваўся па Ясенінскай акрузе як беспартыйны і, паводле афіцыйнай інфармацыі, набраў 52%. Тром ягоным канкурэнтам-апазіцыянерам запісалі па 13—14% кожнаму.

У парламенце трэцяга склікання Карпенка ўвайшоў у камісію па ахове здароўя, фізкультуры, справах сям'і і моладзі.

На наступных выбарах Карпенка ўжо прадстаўляў Камуністычную партыю. Афіцыйныя вынікі далі яму 66,5%, а ягонай суперніцы Валянціне Свяцкай ад БНФ (яна супрацьстаяла Карпенку другі раз запар) — 20%. У гэтым скліканні новаспечаны камуніст заняўся міжнароднымі справамі і сувязямі з СНД. Напрыканцы тэрміну ён узначаліў адпаведную камісію.

«Вобразна кажучы, я ўжо не школьнік, каб мне з ПАРЕ пагражалі пальцам, што мы нешта не так робім, — заяўляў ён падчас візіту ў Францыю. — У нас створана працоўная група, якая вывучае пытанне ўвядзення мараторыю на смяротнае пакаранне. Рэзалюцыя ПАРЕ толькі наносіць шкоду вырашэнню гэтага пытання. У нас ёсць пэўная грамадзянская і чалавечая годнасць, якая не дазваляе трываць настаўленне збоку».

Педуніверсітэт знаходзіцца на плошчы Незалежнасці ў Мінску. У суседнім будынку працуюць урад і парламент, праз дарогу знаходзіцца Мінгарвыканкам. За 30 гадоў жыцця ў Беларусі Карпенка ні разу не працаваў нідзе, апроч плошчы Незалежнасці!

### З выбарчай камісіі ў галоўныя ідэолагі Мінска

Падчас прэзідэнцкай кампаніі-2010 Карпенка, які адкрыта заклікаў сваю партыю падтрымаць Лукашэнку, узначаліў Мінскую выбарчую камісію.

Ён асабіста прыходзіў на сустрэчы апазіцыйных кандыдатаў з выбарцамі і папярэджваў пра незаконнасць такіх акцый.

У выніку Мінская выбарчая камісія зафіксавала, што ў сталіцы за Лукашэнку прагаласавала больш за 67%. Місія Карпенкі была паспяхова выкананая.

На наступны год камуніст стаў намеснікам старшыні Мінгарвыканкама. У сферу ягонага ўплыву ўвайшлі пытанні ідэалогіі, адукацыі, аховы здароўя, спорту, турызму і сацыяльнай абароны.

### Марная барацьба з лацінкай

Чым запомніўся Карпенка на пасадзе галоўнага ідэолага сталіцы, дык гэта барацьбой з беларускай лацінкай у метро. Чыноўнік патрабаваў спыніць транслітарацыю геаграфічных назваў, у тым ліку, напрыклад, станцый метро, з беларускай мовы. Аднак эксперты заўпарціліся і прымусілі Карпенку адступіць, прынамсі часова.

Іншая яго ініцыятыва — прапанова ўвесці адказнасць за фальсіфікацыю гісторыі Другой сусветнай вайны. «Магчыма, надышла неабходнасць на заканадаўчым узроўні замацаваць пэўную адказнасць за фальсіфікацыю гісторыі Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны, паставіць заслону недарэчным выказванням хаця б у памяць пра загінулых і з павагі да ветэранаў», — тлумачыў ён.

«Мы хочам сёння сысці ад перайменавання вуліц, гэты перыяд мы прайшлі ў пачатку 1990-х», — расказваў ён. На пытанне, чаму ў сталіцы няма вуліцы Васіля Быкава, Карпенка адказваў, што ўшанаванне памяці не абавязкова павінна адбывацца праз назвы вуліц: «Я б не драматызаваў гэтую сітуацыю». Затое вуліца Карла Маркса, на яго думку, патрэбная, бо ягоныя працы вывучаюцца ў многіх універсітэтах свету. Ахоўвае ён і скульптуры Леніна: «Помнікі зносяцца для наступнай фальсіфікацыі гісторыі спецыяльна». Больш за тое, на вачах мінчукоў з'яўляліся нават новыя леніны. Згадайма скандал на 7 лістапада, калі помнік выставілі на плошчы перад прахадной МТЗ.

### Быў галоўным камуністам Беларусі

У беларускіх чыноўнікаў не прынята знаходзіцца ў шэрагах палітычных партый. А Карпенка не проста партыец, а яшчэ і з'яўляўся сакратаром (кіраўніком) пралукашэнкаўскай Камуністычнай партыі Беларусі. Арганізацыю ён узначаліў у 2012 годзе. Праўда, пасля прызначэння міністрам адукацыі яму давялося пакінуць гэты пост.

«Несумненна, у аснове нашай праграмы ляжыць тэорыя марксізму-ленінізму... Гэта партыя, якая сёння прапагандуе ідэі грамадства сацыяльнай справядлівасці, на мой погляд, мы павінны заняць левы фланг палітычнай дзейнасці ў нас, у Беларусі», — заявіў ён пасля абрання.

Сёлета Карпенка лятаў з сяброўскім візітам у... Сірыю. Галоўны камуніст Беларусі сустрэўся з Башарам Асадам і падарыў яму карціну «Дзень Перамогі».

Супадзенне ці не, але многія сталічныя школы апошнім часам сталі выпісваць партыйную газету «Камуніст Беларусі». Работнікі адукацыі тлумачаць, што нібыта робяць гэта з уласнай ініцыятывы.

«Поспех падпісной кампаніі заключаецца ў цесным узаемадзеянні Мінгарвыканкама, раённых адміністрацый ды ідэалагічнага актыву з друкаванымі выданнямі, грамадскасцю, працоўнымі калектывамі», — расказваў Карпенка пра распаўсюд дзяржаўных СМІ.

**Ягор Марціновіч**

# Літоўскія памежнікі адправілі беларуса назад на радзіму праз савецкую сімволіку на машыне




Памежнікі Літвы адмовілі беларусу ва ўездзе ў краіну: на аўтамабілі мужчыны меліся налепкі з савецкай сімволікай. Здымаць іх беларус адмовіўся, таму прыйшлося вяртацца на радзіму. Падрабязнасці паведамляе Дзяржаўная памежная служба Літвы.

У панядзелак, 9 студзеня, пры праходжанні мяжы быў спынены аўтамабіль *Peugeot 405*, якім кіраваў 21-гадовы беларус. Увагу памежнікаў прыцягнулі налепкі з савецкай сімволікай на задняй шыбе машыны.

У прыватнасці, адбітак чырвонай зоркі і сярпа з молатам. Згодна з заканадаўствам Літвы, там забароненая публічная дэманстрацыя савецкай і нацысцкай сімволікі.

У мужчыны была магчымасць прыцягнуць падарожжа пешшу або зняць налепку, але кіроўца адмовіўся і вярнуўся назад.

Кодэксам аб адміністрацыйных парушэннях Літвы за дэманстрацыю або распаўсюд нацысцкай ці камуністычнай сімволікі, іншых знакаў або формы прадугледжаны штраф у памеры ад 150 да 300 еўра.

У гэтым выпадку мужчына пазбег выплаты штрафу, бо фактычна не быў дапушчаны на тэрыторыю Літвы.

# Пяць фактаў пра новага галоўнага пагранічніка Анатоля Лапо

Напярэдадні Новага года Аляксандр Лукашэнка зрабіў шэраг кадравых прызначэнняў. Адно з іх датычылася сілавога блока. У адстаўку па ўзросце быў адпраўлены кіраўнік Памежнага камітэта, 67-гадовы Леанід Мальцаў. Спадар Мальцаў — вайсковец і да Памежнага камітэта да 2013 года не меў ніякага дачынення. Яго адправілі ў пагранцы, калі з працай не справіўся Аляксандр Боечка. Цяпер Мальцаў перадаў свае абавязкі Анатолю Лапо, які да апошняга часу быў намеснікам у камітэце.



### Родам з вёскі, але ў дзяцінстве пераехаў у Магілёў

Анатоль Лапо нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Кулакоўка Бялыніцкага раёна. На сёння гэта ўжо зусім малое паселішча ў некалькі двароў. А некалі тут нават была свая школа. У ёй працавала маці Анатоля Лапо, выкладала мовы, яна па адукацыі філолаг. Бацька быў кіроўцам у калгасе.

Некалі прозвішча Лапо насіла ледзь не палова вяскоўцаў, пры гэтым далёка не ўсе яны паміж сабой сваякі. Прыкладна ў 1973—1974 сям'я з'ехала ў Магілёў. Анатоль быў першынцам у сям'і, потым з'явіліся яшчэ двое дзяцей. Брат Вячаслаў не так даўно памёр ад раку. А сястра Ларыса жыве з сям'ёй у Бялынічах. У раённым цэнтры таксама жывуць бацькі Анатоля Лапо.

«Канечне, абрадаваўся, калі пабачыў па тэлевізары, што яго прызначылі. Вельмі ён да бацькі падобны», — расказаў нам аднавяскоўвец.

«Выключна добры хлопец», — адрэкамендавала свайго колішняга вучня настаўніца матэматыкі Тамара Аляксандраўна Валюжэніч.



«Мой дарагі татуля», — так падпісала здымак Вольга Лапо.

ФОТА З VK.COM.

### Мяжа ў Батумі, вучоба пад Масквой

У адным з інтэрв'ю Анатоль Лапо ўзгадваў, што жыццёвы шлях абраў падчас тэрміновай службы ў войску. Ён трапіў на мяжу, у Батумі. І менавіта з мяжой вырашыў звязаць свой далейшы лёс.

У 1986 годзе ён скончвае Галіцынскае вышэйшае пагранічнае вайскова-палітычнае вучылішча КГБ СССР імя Варашылава пад Масквой. Сёння гэтая ўстанова носіць назву Пагранічны інстытут ФСБ Расіі. Справа ў тым, што ў савецкія часы памежнікі падпарадкоўваліся «чэкістам», такая самая структура захаваная ў сённяшняй Расіі. А вось у Беларусі пагранцы выведзеныя ў самастойнае ведамства.

Па сканчэнні вучобы ён працягвае служыць у Закаўказскай пагранічнай акрузе, даслужваецца да начальніка пагранічнай заставы. Магчыма, узляцеў бы яшчэ вышэй, але акурат у гэты час спыняе сваё існаванне СССР. Лапо ўдзельнічаў у вывадзе савецкіх войскаў з Азербайджана. Узгадваў той час як адзін самых складаных у жыцці.

### Чым ганарыўся на службе ў Смаргоні?

Анатоль Лапо ад 1992 нязменна працаваў у Смаргонскім памежным атрадзе. У 2004 годзе стаў камандзірам атрада. Як сваё дасягненне Лапо называў тое, што пры ім праверка дакументаў у сярэднім стала доўжыцца 1,5—2 хвіліны на чалавека. А яшчэ Лапо вельмі ганарыўся першым у краіне кіналагічным цэнтрам.

У 2001 годзе Анатоль Лапо скончыў Акадэмію федэральнай пагранічнай службы Расіі. Калі глянуць біяграфіі іншых кіраўнікоў Памежнага камітэта, то амаль усе яны скончвалі ВНУ па ўсіх абшарах экс-СССР (Расія, Латвія, Украіна), але не ў Беларусі. Бо ў савецкі час проста не існавала ў БССР сваёй профільнай установы для навучання памежнікаў. Толькі ў 1993 годзе быў створаны факультэт Пагранічных войскаў пры Мінскім вайсковым вучылішчы (пазней пры Вайсковай акадэміі), а ў 2010-м створаны незалежны Інстытут пагранічнай службы. Фактычна выходзіць, што яго выпускнікі яшчэ не паспелі даслужыцца да высокіх званняў.

Анатоль Лапо — другі кіраўнік Смаргонскага пагранатрада, які ўзначаліў Памежны камітэт. Першым быў Васіль Маркоўкін, які ўзначальваў ведамства ад 1994 да 1996.

### Генерал-маёр і чэмпіён па плаванні

У лютым 2010 года Анатолю Лапо было нададзенае званне генерал-маёра. Разам з ім такія самыя пагоны атрымаў, напрыклад, намеснік старшыні КДБ Іван Церцель, таксама выхадзец з пагранічнікаў.

У 2014 годзе Лапо быў прызначаны намеснікам кіраўніка Памежнага камітэта. Гэта праца, якая не вымагае шмат публічнасці. Час ад часу ён з'яўляўся на прысягах пагранічнікаў, адкрыцці памятных знакаў.

На сайце Памежнага камітэта ёсць яшчэ адна цікавая навіна пра Анатоля Лапо. У 2011 годзе ён стаў чэмпіёнам Пагранкамітэта па плаванні ў сваёй узроставай катэгорыі. Агулам у тых спаборніцтвах брала ўдзел 83% супрацоўнікаў камітэта.

### Дачка гадуе хаскі

У Смаргоні Анатоль Лапо жыў на вуліцы Леніна. Яго дочкі хадзілі ў блізкую школу №5. Вользе Лапо 30 гадоў. Яна скончыла Маскоўскі новы юрыдычны інстытут, але не ў Расіі, а аддзяленне ў Мінску, якое знаходзілася на вуліцы Калектарнай.

«Укантакце» адразу па прызначэнні бацькі на высокую пасаду Вольга змяніла сваё прозвішча на «Іванова», аднак забылася прыбраць здымкі з бацькам. Таксама ёсць некалькі фотаздымкаў у пагранічнай форме, праўда, яшчэ старога ўзору.

Настасся — меншая дачка, ёй 24 гады. Яна скончыла Лінгвістычны ўніверсітэт. Замужам таксама за ўраджэнцам Смаргоні. Яе муж займаецца развядзеннем сабак, у прыватнасці хаскі. Старонкі і Насты, і яе мужа заваленыя фотаздымкамі з сабакамі. Відавочна, сям'я надта любіць гэтых жывёлінак.

**Зміцер Панкавец**



Настасся Лапо дапамагае мужу разводзіць шчанят хаскі.

З пошты Рэдакцыі

## «Прачытала навіну пра знос БелЭКСПА ля Свіслачы, і такая злосць заняла, што не магу маўчаць»

Прачытала навіну пра меркаваны знос БелЭКСПА ля Свіслачы, і такая злосць заняла, што не магу маўчаць.

Яны хочуць пабудаваць чарговы гатэль у горадзе, дзе гатэлі перманентна напаўпустыя — бо таму ж еўрапейцу, каб атрымаць беларускую візу, трэба прайсці дзевяць колаў пекла.

Яны хочуць пабудаваць чарговы гандлёвы цэнтр у горадзе, дзе ён нікому не патрэбны — бо тыя, што ёсць, маюць аднолькавы набор цьмяных брэндаў з цэнамі ад самалёта, а частка павільёнаў вечна свеціць пусткамі і аб'явамі «здаецца» (бо кошт арэнды ў гэтых ГЦ таксама ад самалёта).

Яны кідаюцца гучнымі словамі «замежныя інвестыцыі», хоць маўклівыя помнікі гэтым інвестыцыям муляюць вока ледзь не ў кожным раёне Мінска. «Замарожаная» газпромаўская руіна на месцы Маскоўскага вакзала. Закінуты Чэрвеньскі рынак, дзе іранцы так і не пачалі будаваць свой «шматфункцыянальны комплекс». Гмах гатэля Hyatt на Старавіленскай. Недакемпінскі ля цырка, дзеля якога зруйнавалі першую электрастанцыю.

І вось цяпер нас чакае яшчэ адзін арабскі «комплекс» у самым цэнтры сталіцы. Не ведаю, ці было ў гэтага праекта грамадскае абмеркаванне — найхутчэй, не, бо план трымаецца ў «жэстачайшай» камерцыйнай таямніцы. Што будзе з самым зручным месцам для правядзення міжнародных выстаў у горадзе — дакладнай інфармацыі таксама знайсці не ўдалося.

Дык вось, пытанне да чыноўнікаў, якія ўзгадняюць усе гэтыя рашэнні. Колькі яшчэ гэта будзе працягвацца? Колькі можна пляваць мінчукам у твар, распрадаючы тое, што вам не належыць? Чаму ў Нью-Ёрку лічаць кожнае дрэва, чаму ў шматлікіх еўрапейскіх гарадах будоўля ў гістарычным цэнтры альбо забароненая, альбо праходзіць некалькі стадый размаітых абмеркаванняў і ўзгадненняў? І чаму ў нас можна спакойна зруйнаваць будынкі, якія маюць гістарычную каштоўнасць, дзеля чарговага гатэля, ГЦ альбо развязкі (не забываемся пра Асмалоўку і праект БПЦ)? І потым здзіўляцца яшчэ, што да нас не едуць турысты. А на што ім глядзець — на ГЦ і гатэлі? Ці на расцяжку «Квітней, Беларусь!» на плошчы вакол чарговага даўгабуду?..

Бо так абыходзіцца з Мінскам можа толькі той, хто яго зусім, зусім не адчувае. Хто не падстаўляў твар апошнім праменям сонца ў парку Горкага на набярэжнай Свіслачы. Хто марозным ранкам, атрымаўшы доўгачаканую стыпендыю, не бег на кніжную выставу за новым томам упадабанай сагі. Хто не ведае, што такое «ванільны вецер» на Ракаўскай, калі водар свежых булачак ад хлебазавода змешваецца з п'янкім вясновым паветрам. Хто не губляўся ў вулачках за Оперным падчас доўгіх шпацыраў з каханым чалавекам. Хто калісьці прыехаў у сталіцу — і, замест таго, каб палюбіць яе, помсціць ёй… за што? За сваё нешчаслівае дзяцінства?..

Пачварная гаргара закрыла сабой сонца ў парку. Адчуванне такое, што над Горадам Сонца яно хутка зойдзе канчаткова…

**Юлія, Мінск**

# З дэпазітаў больш не пражывеш

Нацбанк працягвае **зніжаць стаўкі.**

Часы, калі, трымаючы некалькі «закладак» (так прафесійныя ўкладчыкі называюць дэпазіты), можна было жыць з працэнтаў, адыходзяць у нябыт.

Назбіраўшы 20 тысяч рублёў ($10 тысяч у эквіваленце) і паклаўшы іх у банк, у найлепшым выпадку штомесяц атрымаеш па 365 рублёў. І пры гэтым яшчэ трэба быць упэўненым, што не пачнецца чарговая дэвальвацыя. Калі ж пакласці грошы ў далярах, атрымаеш з такой самай сумы $30—35.

Да таго ж, з даходаў яшчэ і вылічваецца падатак.

Беларускіх дэпазітчыкаў такім раскладам сілаў прывабіць усё цяжэй, хоць у еўрапейскіх краінах з іх трывалымі валютамі такія стаўкі глядзеліся б надзвычай выйгрышна.

Нацбанк спрабуе зрабіць фінансавую сістэму Беларусі больш канкурэнтаздольнай, і таму працягвае зніжаць стаўкі. Логіка простая: даступныя крэдыты змогуць даць штуршок эканамічнай актыўнасці.

Стаўка рэфінансавання ад 18 студзеня апускаецца да 17% гадавых. Гэта найменшы паказчык ад лета 2011 года, хоць Беларусь па-ранейшаму застаецца ў топ-10 нестабільных краін свету па велічыні гэтай стаўкі.

**Ягор Марціновіч**

**Найлепшыя прапановы**

2000 рублёў на год:

безадзыўны — МТбанк («МТБелкі» — 21,9%)

адзыўны — Белаграпрамбанк («25 гадоў разам» — 17,2%)

$1000 на год:

безадзыўны — БелВЭБ («Юбілейны» — 4%)

адзыўны — Банк Масква — Мінск («Прагрэсіўны» — 3%).

(стаўкі без уліку падаходнага падатку)

## Летась самым выгадным быў расійскі рубель

Нацбанк вызначае курс беларускага рубля амаль да 80 валют свету. Да папулярных штодня, да іншых — штомесяц. «Наша Ніва» параўнала афіцыйныя курсы за пачатак студзеня 2016 і 2017 гадоў.

Найбольш умацаваліся ў адносінах да беларускага рубля грошы наступных краін:

| Краіна | Валюта | Умацаванне валюты | |
|---|---|---|---|
| 1 | Расія | Рубель | 27,1% |
| 2 | Бразілія | Рэал | 23,9% |
| 3 | Ісландыя | Крона | 19,2% |
| 4 | Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка | Рэнд | 17,7% |
| 5 | Кыргызстан | Сом | 15,2% |
| 6 | Чылі | Песа | 11,2% |
| 7 | Калумбія | Песа | 10,7% |

Агулам падаражалі 54 валюты, курсы якіх вызначае Нацбанк. Сярод іх даляр (на 5,5%) і еўра (усяго на 0,7%).

Беларускі рубель, у сваю чаргу, найбольш умацаваўся да наступных валют:

| Краіна | Валюта | Умацаванне валюты | |
|---|---|---|---|
| 1 | Егіпет | Фунт | 56,8% |
| 2 | Сірыя | Фунт | 55% |
| 3 | Венесуэла | Балівар | 33,6% |
| 4 | Нігерыя | Найра | 31,1% |
| 5 | Манголія | Тугрык | 15,4% |
| 6 | Турцыя | Ліра | 13,1% |
| 7 | Аргенціна | Песа | 15,4% |

Табліца не ўлічвае «чорныя курсы», якія існуюць у некаторых краінах: Узбекістане, Венесуэле і іншых.

Для параўнання, у 2015 годзе самымі выгаднымі былі саудаўскі рыял, ганконгскі даляр і даляр ЗША, у адносінах да якіх беларускі рубель дэвальваваўся на 30%.

**ЯМ**

# Цэны на кватэры блізкія да мінімуму


Самыя танныя кватэры без аддзелкі ў Мінску каштуюць ад $29 тысяч

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Самая дарагая кватэра сталіцы

Самае таннае жыллё ў Мінску **апускаецца да $30 тысяч.**

Пасля восеньскага падаражэння нерухомасць у Беларусі зноў пачала таннець. Спачатку вектар цэнаў змяняецца ў Мінску, а праз месяц-два імпульс даходзіць і да абласных цэнтраў.

Паводле звестак Нацыянальнага кадастравага агенцтва, у снежні 2016 года кватэры ў сталіцы купляліся ў сярэднім па $1123 за квадратны метр. Для параўнання, у лістападзе цана складала $1156.

Першыя дні студзеня — не надта прэзентабельны паказчык, але за першы тыдзень года кватэры прадаваліся ўсяго па $1082. Гэта сведчыць пра тое, што трэнд за далейшае зніжэнне цэнаў працягваецца.

Іншы надзвычай важны паказчык — цана прапановы. Гэта тыя грошы, якія хоча атрымаць гаспадар кватэры, хоць пасля і скідвае некалькі працэнтаў.

Па стане на пачатак студзеня прапанова складала $1191 за квадратны метр. Калі гэтая лічба апусціцца яшчэ на $20, будзе дасягнуты мінімум за апошняе дзесяцігоддзе.

Самая танная кватэра, выстаўленая на продаж на другасным рынку, каштуе $31,5 тысячы. Гэта маласмейка агульнай плошчай менш за 22 метры.

А вось у новабудоўлях можна знайсці кватэры, таннейшыя за $29 тысяч, але гэта будзе жыллё без аддзелкі.

Самая дарагая кватэра ў Мінску прадаецца за $1 мільён. Гэта ўнікальнае чатырохузроўневае жыллё ў адным са старых дамоў па вуліцы Камуністычнай. Гаспадару ўдалося (на фота) аб'яднаць цокаль, падвал, а таксама першы і другі паверхі.

**ЯМ**

## Па ашчаджэннях беларусы перадапошнія ў Еўропе

Спецыялісты швейцарскага банка *Credit Suisse* склалі штогадовы рэйтынг, у якім падлічылі ашчаджэнні жыхароў розных краін.

Сярод еўрапейскіх краін Беларусь заняла перадапошняе месца. У сярэдняга дарослага адкладзена $1259. Горш толькі ва ўкраінцаў, прычым усяго на $5. А вось трэцяе месца з канца ў малдаванаў, якія маюць па $3212.

Нашыя суседзі нашмат багацейшыя. У сярэдняга паляка «на кніжцы ляжыць» $24,6 тысячы, у латвійца і літоўца — $22,4 тысячы, у расіяніна — $10,3 тысячы.

Наперадзе ж рэйтынгу — жыхары Швейцарыі. У кожнага з іх адкладзена па $562 тысячы.

## Дзе ў Беларусі найлепш расце бульба?

Сярод краін СНД Беларусь лідзіруе па вытворчасці мяса, малака, яек... Але сімвалам краіны многія лічаць бульбу. Летась на кожнага беларуса вырасцілі па 632 кілаграмы!

«Наша Ніва» апрацавала рэгіянальныя статыстычныя зборнікі Белстата і склала спіс раёнаў Беларусі па ўраджайнасці бульбы. Дзе яна расце найлепей, а дзе найгорш?

Адзначым, што ў цэлым па Беларусі ўраджайнасць бульбы на калгасных палях за год павялічылася з 215 да 250 цэнтнераў з гектара.

**Топ-7 раёнаў з найлепшай ураджайнасцю бульбы (цэнтнераў з гектара)**

1. Лагойскі — 539
2. Нясвіжскі — 505
3. Гродзенскі — 482
4. Талачынскі — 440
5. Клічаўскі — 381
6. Смалявіцкі — 370
7. Шчучынскі — 369

**Топ-7 раёнаў з найгоршай ураджайнасцю бульбы (цэнтнераў з гектара)**

108. Маларыцкі — 107
109. Мёрскі — 100
110. Брагінскі — 97
111. Браслаўскі — 77
112. Шаркаўшчынскі — 77
113. Докшыцкі — 70
114. Лёзненскі — 67

А вось СПК Касцюковіцкага, Круглянскага, Нараўлянскага, Ушацкага раёнаў бульбы сёлета не вырошчвалі.

**ЯМ**

## Сцісла

### Сербы забудуюць Кастрычніцкую плошчу

Да 2020 года на цэнтральнай плошчы Мінска павінен быць пабудаваны комплекс «БК Капітал Цэнтр», які паўстане на месцы знесенага музея Вялікай Айчыннай вайны. У яго склад увойдуць «адміністрацыйныя і гандлёвыя памяшканні, бізнэс-апартаменты, памяшканні для размяшчэння прадпрыемстваў грамадскага харчавання, падземны паркінг». Праект коштам каля $40 мільёнаў будуць рэалізоўваць сербскія бізнэсмены браты Карычы, якія былі блізкія да колішняга прэзідэнта Сербіі Слабадана Мілошавіча. Яны таксама будуюць «Мінск-Мір» за Нацыянальнай бібліятэкай.

### Падаткавікі адправілі паведамленні 250 тысячам «дармаедаў»

Па стане на канец 2016 падаткавікі адправілі паведамленні аб неабходнасці заплаціць падатак за «няўдзел у фінансаванні дзяржфінансавання» ўжо 252 тысячам «дармаедаў». Удалося спагнаць, праўда, усяго $2,5 мільёна.

### У Беларусі знайшлі новае радовішча нафты

Яно знаходзіцца на тэрыторыі Гомельскай вобласці і атрымала назву Вугальскае. Нафта знаходзіцца на вялікай глыбіні — больш за 5200 метраў. Геалагічныя запасы новага радовішча ацэньваюцца на 1,7 мільёна тон нафты.

**ЯМ**

# Вядомы беларускі пекар пераехаў працаваць у Вільню: «У Беларусі цябе заганяюць у кут»

Ужо восем месяцаў Кастусь Ларкоў жыве і працуе ў сталіцы Літвы. На радзіме бывае некалькі разоў на месяц. Новы год пекар сустрэў у Мінску разам са сваімі сябрамі. Перад яго ад'ездам мы пагутарылі пра тое, як яму жывецца і працуецца ў Вільні, ці не шкадуе, што з'ехаў, і ці збіраецца вяртацца.

Слава знайшла Кастуся, яшчэ калі ён працаваў на хлебазаводзе ў Верхнядзвінску. Яму замаўлялі караваі на святы і ўрачыстасці, вяселлі, падчас прыезду ў раён важных гасцей. Пекар сваю справу ведае і любіць, у кожны каравай укладвае душу і кожнаму імкнецца надаць сімвалічнасць, таму хутка да яго пачалі звяртацца не толькі з усёй Беларусі, але і з замежжа.

«Верхнядзвінск трэба было кідаць, бо далей не было куды расці, — тлумачыць пекар. — Гэта адзіны хлебазавод у горадзе, і я адпрацаваў на ім 16 гадоў. Былі пэўныя перасцярогі, што пакідаю родную хату, бацькоў, але ехаў з энтузіязмам».

Спачатку Кастусь накіраваўся ў Мінск, дзе амаль год загадваў пякарняй у супермаркеце.

«Пасля таго, як я пераехаў у Мінск, на заводзе ў Верхнядзвінску заставалася працаваць дзяўчына, якая добра рабіла караваі. Аднак праз год і яна перабралася ў беларускую сталіцу, — дадае адмысловец. — Пэўна, гэта праз малыя заробкі. Калі б жыццё было добрае, не думаю, што хтосьці б з'язджаў».




У хуткім часе Кастуся запрасілі ў Вільню, дзе якраз адкрывалася новая фірма па выпечцы пірагоў, шукалі адмыслоўцаў. Умовы былі прывабныя, таму ён пагадзіўся.

«Збольшага падабаецца, адназначна лепей, чым у Беларусі, дзе сістэма збудавана так, што цябе заганяюць у кут і ты пры ўсёй адданасці працы не ў стане выканаць усе патрабаванні да цябе. У Вільні галоўная ўстаноўка — якасць. Лепш зрабіць меней, але якасней. Гэта таксама і мой прыярытэт», — распавядае адмысловец.

Працуе Кастусь уначы, прыходзіць каля 22 ці 23 гадзін і бярэцца за работу. Да раніцы ўсё павінна быць гатова, таму працоўны дзень у яго заканчваецца, калі ў большасці яшчэ не пачаўся, — у 5—6 гадзін. Праўда, дыскамфорту ён не адчувае, у Верхнядзвінску было тое самае. У Мінску працаваў удзень, але зразумеў, што гэта для яго не найлепшы графік.




«Калі я працаваў у Беларусі, у мяне была мэта надаць вырабам урачыстасць, бо звычайна я пёк іх да нейкага свята. У Вільні я раблю пірагі для ежы, — адзначае пекар. — Тут мне давялося гатаваць піражкі кібіны. Цеста нагадвае пясочнае, але яно несалодкае. Піражкі вельмі сытныя, іх робяць з мясам, тварагом, капустай. Дарэчы, вельмі смачныя. Увогуле, у сэнсе ежы літоўцы больш капрызныя, чым беларусы».

Пірагі Кастуся ў Вільні цэняць, купцы перадаюць яму паклоны. Ужо пачалі і запрашаць яго даваць майстар-класы.

«Адна жанчына ўбачыла маё відэа ў інтэрнэце, знайшла мяне ў фэйсбуку і напісала, — прыгадвае адмысловец. — Як яна была здзіўленая, дазнаўшыся, што я ў гэтую хвіліну ў Вільні! Запрасіла мяне даць майстар-клас, я не адмовіў».



У Вільні прыгожы стары горад, але спальныя раёны ў Мінску выглядаюць прывабней

НАСТАССЯ РОЎДА

Чужым у Вільні Кастусь сябе не адчувае, вакол шмат беларусаў. Дзве дзяўчыны, што працуюць побач з ім, таксама беларускі. Ды і ў многіх іншых яго калег беларускія карані.

Да пераезду Кастусь ніколі не быў у Літве, але краіна яго не асабліва здзівіла.

«Літоўцы жывуць прыкладна як беларусы, не адчуваю вялікай розніцы. Моцна грашыма не раскідваюцца, спрабуюць эканоміць, бачна, як рэагуюць на акцыі ў крамах, — адзначае пекар. — Што тычыцца самой Вільні, то прыемна ўразіў стары горад, але спальныя раёны вока не парадавалі. Падаецца, у Мінску яны выглядаюць прывабней».



Так выглядаюць кібіны.

Пра Беларусь Кастусь думае, на радзіму цягне, хлопец мяркуе, што праз нейкі час вернецца. Але на мару адкрыць штосьці сваё глядзіць цвяроза.

«У Беларусі гэта складана, — лічыць адмысловец. — У Літве патрабаванняў нашмат менш, гэта адчуваецца, у бюракратычным плане працаваць прасцей. У Беларусі калі і адчыніць штосьці сваё, то ад творчасці будзеш далёка. Давядзецца займацца нейкімі паперамі, а не любімай справай. Гэта не зусім мой варыянт. Кожны дзень абавязкова павінен быць нейкі час, нейкая хвіліна, прысвечаная выпечцы».

**Настасся Роўда**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Расійская аперацыя ў Сірыі: маштабы і вынікі

Масавыя пратэсты ў Сірыі пачаліся ў 2011 годзе і хутка перараслі ў грамадзянскую вайну, у якой удзельнічаюць урадавыя войскі, розныя групоўкі сірыйскай апазіцыі, «Ісламская дзяржава» і сірыйскія курды. Баявыя дзеянні на тэрыторыі краіны вядуць таксама войскі Расіі, Турцыі, ЗША, Ірана. Па розных ацэнках, вайна прывяла да гібелі ад 300 да 430 тысяч чалавек, 5—7 мільёнаў сталі ўцекачамі.

Для Расіі кідок у Сірыю стаў другой па чарзе вялікай ваеннай аперацыяй пасля анексіі ўкраінскага Крыма і баявых дзеянняў на Данбасе.

### Савецкая спадчына

У лістападзе 1970 года ў Сірыі адбыўся чарговы пераварот — недзе сёмы за 25-гадовую гісторыю незалежнасці гэтай краіны. Да ўлады прыйшоў вайсковы лётчык Хафез Асад, які кіраваў дзяржавай да сваёй смерці ў 2000 годзе.

Непрымірымае стаўленне Дамаска да Ізраіля яшчэ ў 1960-я гады зрабіла Маскву галоўным партнёрам і апекуном Сірыі. Пасля таго, як у 1970-я гады Егіпет перайшоў пад патранаж ЗША, менавіта Сірыя стала галоўным апірышчам СССР на Блізкім Усходзе.

Савецкія войскі з'явіліся ў краіне яшчэ ў 1956 годзе, спачатку як «Група савецкіх вайсковых спецыялістаў ва Узброеных сілах Сірыі», а потым, ужо ў часы Асада, кантынгент быў пашыраны за кошт рэгулярных частак Савецкай арміі. Вельмі актыўна дзейнічала савецкая разведка — у тым ліку радыёэлектронная, генералы і афіцэры ўдзельнічалі ў распрацоўцы аперацый сірыйскай арміі супраць Ізраіля, удзельнічалі ў арганізацыі і кіраванні сірыйскай супрацьпаветранай абароны, у тым ліку падчас баявых дзеянняў.

Па няпоўных дадзеных Генштаба РФ, з 1956 па 1991 год толькі па лініі Мінабароны СССР у Сірыю было накіравана 16.282 чалавекі, у тым ліку 294 генералы. Максімальная колькасць савецкіх вайскоўцаў, якія знаходзіліся ў Сірыі, згодна з дадзенымі Інстытута вайсковай гісторыі Міністэрства абароны Расіі, — 8.000. Загінула і памерла ад ран і хваробаў — 44 чалавекі.

Пасля 1991 года актыўнасць Расіі ў Сірыі знізілася на фоне паляпшэння расійска-ізраільскіх адносін, аднак у краіне заставаліся некалькі вайсковых аб'ектаў, самым важным з якіх была 720-ы пункт матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ВМС РФ у горадзе Тартус.

### «Аперацыя ВКС»

30 верасня 2015 года афіцыйна пачалася аперацыя Вайскова-касмічных сіл (былых Вайскова-паветраных) Расеі ў Сірыі. Па меркаванні многіх экспертаў, прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін хацеў такім чынам стаць хаўруснікам ЗША і зноў вярнуць сабе замежнапалітычныя пазіцыі, страчаныя ў сувязі з захопам Крыма і агрэсіяй супраць Украіны на Данбасе.

«Ад пачатку аперацыі расійская авіяцыя зрабіла 18.800 вылетаў і нанесла 71 тысячу ўдараў па інфраструктуры тэрарыстаў», — сказаў міністр абароны Расеі Шайгу. Па яговых словах, «асноўныя задачы, якія былі пастаўленыя Узброеным сілам перад пачаткам аперацыі ў Сірыі, былі выкананыя».

Міністр амаль слова ў слова паўтарыў заяву Пуціна 17 сакавіка 2016 года, калі той сказаў, што расійскія войскі «карэнным чынам пераламалі сітуацыю» ў Сірыі, і «задачы, якія ставіліся, у цэлым вырашаныя». Тады кіраўнік РФ паведаміў, што прынята рашэнне вывесці з Сірыі істотную частку расейскіх вайскоўцаў і баявой тэхнікі.

Аднак ужо ў верасні было зноў афіцыйна прынята рашэнне павялічыць расійскую авіяцыйную групоўку ў Сірыі штурмавікамі Су-25 і шматмэтавымі Су-34.

Афіцыйна бай вядуць толькі самалёты і верталёты расійскай авіяцыі, таксама выкарыстоўваюцца дальнабойныя крылатыя ракеты ВМФ РФ, аднак у паведамленнях прэсы, у тым ліку дзяржаўнай, згадваюцца аперацыі Сухапутных войскаў, марской пяхоты ВМФ і Сіл спецыяльных аперацый (ССА) РФ.

З афіцыйных крыніц вядома толькі пра дзеянні ў Сірыі падраздзяленняў сапёраў, а таксама пра ахоўны кантынгент, які абараняе авіябазу Хмеймім — галоўнае апірышча расійскай авіяцыі ў краіне.

### Палігон

Ад экспертаў неадназрова гучалі меркаванні, што Масква выкарыстоўвае грамадзянскую вайну ў Сірыі, як калісьці СССР і Нямеччына выкарыстоўвалі грамадзянскую вайну ў Іспаніі ў 1936—1939 гадах — для выпрабавання і адпрацоўкі новых узбраенняў, для трэніроўкі сваіх войскаў.

«162 узоры сучаснага і мадэрнізаванага ўзбраення апрабіраваны падчас баявых дзеянняў у Сірыі і паказалі высокую эфектыўнасць», — адзначаў Шайгу. Ён згадаў у гэтым канктэксце знішчальнікі Су-30СМ, знішчальнікі-бамбардзіроўшчыкі Су-34, верталёты Мі-28Н і Ка-52.

«Тактычныя характарыстыкі пацвердзілі высокадакладныя боепрыпасы, крылатыя ракеты марскога базіравання, якія ўпершыню выкарыстоўваліся ў баявых умовах», — дадаў міністр.

У той жа час амерыканскі канал Сі-эн-эн паведамляў у кастрычніку 2015 года, што некаторыя з крылатых ракет «Калібр», якія запускаліся з расійскіх караблёў у Каспійскім моры, не даляталі да Сірыі і падалі ў Іране.

Масква нервова адрэагавала на гэтыя заявы, цалкам адмовіўшы «калегам у Пентагоне і Лэнглі» у праўдзівасці, на што атрымала лаканічны адказ ад крыніцы Сі-эн-эн: «Гэта кажуць людзі, якія казалі нам, што зялёных чалавечкаў у Крыме няма».

Пра наяўнасць праблем з іншымі сістэмамі сказаў сам Шайгу: «Выяўленыя недахопы, якія не праяўляліся падчас палігонных выпрабаванняў. Да іх выпраўлення прыпыненая закупка 10-ці ўзораў узбраення».

Акрамя ракет, бомб і самалётаў, у Сірыю адправілі і адпраўляюць і іншыя ўзбраенні — бронетранспарцёры БТР-82А, танкі Т-90, агнямётныя сістэмы ТОС-1А, комплексы супрацьпаветранай абароны С-300, С-400, «Панцыр». Новая бранятэхніка таксама пастаўляецца войскам прэзідэнта Сірыі Башара Асада.

У якасці палігона Сірыя выкарыстоўваецца і марской авіяцыяй Расіі — праўда, расійскі авіяносец «Адмірал Кузняцоў» моцна саступае заходнім аналагам.

### Колькі?

Авіяцыйнай групоўкі ў 60—70 баявых машын было яўна недастаткова, каб падтрымаць аслабленую стратамі, часткова дэмаралізаваную і слаба падрыхтаваную армію Асада. Ужо ў верасні 2016 года колькасць расійскіх вайскоўцаў у краіне склала як мінімум 4.400 чалавек.

Хоць гэтыя звесткі з'яўляліся таямніцай, аднак дзякуючы выбарам у Дзярждуму Расіі, якія адбыліся ў верасні, стала вядома, колькі расійскіх грамадзян прагаласавалі ў Сірыі — пераносной скрыняй, прыпісанай да Слаўгарадскай аднамандатнай акругі Алтайскага края РФ, карысталіся якраз на расійскай авіябазе Хмеймім.

З таго часу на вайне з'явілася групоўка з авіяносца «Кузняцоў» (каля 2000 афіцэраў і матросаў), цяжкага атамнага ракетнага крэйсера «Пётр Вялікі» (1035 чалавек), вялікіх супрацьлодачных караблёў «Віцэ-адмірал Кулакоў» і «Североморск» ( па 293 чалавекі).

Акрамя баз у Хмейміме і Тартусе, з'явіліся расійскія базы на аэрадромах Шайрат і Тыяс, у захопленай, а потым пакінутай Пальміры. Былі разгорнутыя таксама медыцынскія магутнасці Мінабароны РФ.

Аперацыя ў Алепа ва ўмовах слабасці сірыйскай арміі патрабавала актыўнага ўдзелу ў аперацыі сіл расійскага спецназа — як мінімум у ролі наводчыкаў артылерыі і авіяцыі, расійскі тэлеканал «Расія-1» паказаў таксама дзейнасць снайперскіх груп ССА Расіі падчас гарадскіх баёў.

Паведамляецца і пра ўдзел у сірыйскай вайне сакрэтных арганізацый, якія фінансуюца вайсковым бюджэтам Расіі,



Расійскія вайскоўцы ў Сірыі.



Расійскі вайсковы паліцэйскі ў Сірыі.




Афіцыйная статыстыка Мінабароны РФ сведчыць, што ў Сірыі на жывых цэлях масава рыхтуюцца расійскія лётчыкі — баявы досвед там атрымалі 84% лётнага складу ВКС Расіі.

такіх як «кампанія Вагнера». Згодна з інфармацыяй у СМІ, яна ўдзельнічала раней у баях супраць украінскіх войскаў на Данбасе.

Зусім нядаўна было публічна аб'яўлена рашэнне пра накіраванне ў зону канфлікту батальёна расійскай вайсковай паліцыі.

Больш за 10.000 медалёў «Удзельніку ваеннай аперацыі ў Сірыі» замовіла Мінабароны РФ яшчэ вясной 2016 года. Спецыяльныя медалі былі выпушчаныя таксама «За вызваленне Пальміры» і «За размініраванне Пальміры».

Агулам можна лічыць, што не менш за 10.000 расійскіх вайскоўцаў цяпер знаходзіцца ў Сірыі ці на караблях, якія ўдзельнічаюць у аперацыі Масквы на тэрыторыі гэтай краіны. Падобна да таго, што мэдалі для іх будуць замаўляць яшчэ не раз.




**Трафеі «Ісламскай дзяржавы» у Пальміры: захоплены расійскі танк.**

### Што далей

Афіцыйна невядома, колькі каштуе Расіі аперацыя ў Сірыі — яшчэ да прыходу марской групоўкі заходнія аналітыкі ацэньвалі яе ў суму да $4 мільёнаў на дзень.

Расійскія эксперты з «Цэнтра аналізу стратэгій і тэхналогій» толькі арганізацыю лагістычнага забеспячэння сваіх войск у Сірыі назвалі беспрэцэдэнтнай у гісторыі РФ і СССР, адзначыўшы высокую інтэнсіўнасць паставак, што абумоўлена баявымі патрабаваннямі і памерам групоўкі.

Агульную колькасць грузаў, якія перавезлі расійскія караблі ў Сірыю толькі з верасня па снежань 2015 года, ацэньваюць у 150 тысяч тон. Для перавозак былі прыцягнутыя не толькі дэсантныя караблі ВФМ РФ, аднак і іншыя дапаможныя, а потым і камерцыйныя караблі.

Кошт аперацыі ў чалавечых жыццях ацаніць яшчэ больш складана — Мінабароны Расіі імкнецца замаўчаць страты сярод расійскіх жаўнераў. Гэтак, толькі нядаўна стала вядома, што першы расійскі вайсковец, сяржант Эдуард Сакураў, загінуў яшчэ 1 кастрычніка 2015 года — у першыя гадзіны сірыйскай экспедыцыі расійскай арміі. Афіцыйна пацверджана гібель 23 жаўнераў і афіцэраў у Сірыі. Яшчэ 80 вайскоўцаў, большасць з якіх належалі да Ансамбля песні і танца Расійскай арміі, загінулі ў выніку авіякатастрофы 25 снежня па дарозе ў Сірыю. Няма ніякіх дакладных дадзеных пра страты наймітаў.

Маскве ўдалося ўратаваць Башара Асада ад паражэння, аднак праз слабасць сірыйскай арміі партызанская вайна можа працягвацца яшчэ доўгія гады пры фактычным падзеле Сірыі на асадаўскую частку, частку пад турэцкім кантролем, курдскую зону і зону пад уладай ісламістаў «Ісламскай дзяржавы».

Факт прыбыцця расійскай вайсковай паліцыі ў Сірыю пасля доўгай аперацыі па штурме Алепа сведчыць, што сірыйскіх урадавых войск не хапае нават для надзейнага ўтрымання парадку на тых тэрыторыях, якія ўжо пад кантролем Асада, а гэта ўсяго 35—40% тэрыторыі краіны.

Такім чынам, для расійскага кантынгенту можа ўзнікнуць яшчэ адна задача — барацьба з паўстанцамі ў тыле сірыйскай урадавай арміі.

Сірыя, такім чынам, стала найбольшай азіяцкай экспедыцыяй Расіі пасля Афганістана.

**Аляксандр Гелагаеў**

# Стваральнік Maps.me Юрый Мельнічак апісаў будучыню Беларусі і чалавецтва

**Працяг са старонкі 5.**

**— Але што стане з людзьмі? Некаторыя баяцца, што машыны паняволяць свет і месца ў ім чалавеку не застанецца.**

— Думаю, што гэта, хутчэй, пытанне да фантастаў. Пакуль што, на найбліжэйшую перспектыву, камп'ютары ўсё яшчэ вельмі «тупыя». Мадэлі на аснове нейронных сетак проста дазваляюць вырашаць больш сур'ёзныя задачы.

**— То бок яны не наблізяцца да чалавечага мозгу?**

— У найбліжэйшы час — не. Але я веру, што ўрэшце нам усё ж удасца стварыць інтэлект, які істотна дапаўняе наш.

**— Некаторыя лічаць, што са з'яўленнем калькулятара людзі пачалі горш лічыць у галаве. Ці не баіцеся Вы, што калі камп'ютары будуць маляваць карціны, пісаць вершы і музыку, чалавецтва дэградуе, таму што ў чалавека не будзе ніякіх стымулаў для ўласнага развіцця?**

— Прывяду іншы прыклад.

Калі курыца пачала прадавацца ў магазіне — людзі развучыліся паляваць. Але няўжо гэта так дрэнна?

Насамрэч, калі паглядзець на тое, чаму навучыліся камп'ютары ў плане малявання, то яны навучыліся пераймаць стыль мастака. І робяць яны гэта вельмі прымітыўна. Нават выпускнік мастацкага вучылішча можа пераймаць стыль Ван Гога нашмат лепей і разнастайней. Я ўжо не кажу пра стварэнне ўласных стыляў. У гэтым сэнсе мне здаецца, што чалавек наперадзе камп'ютараў у тым, што тычыцца крэатыўнасці і новых ідэй. А ў плане выканання манатоннай працы — так, камп'ютары цалкам зоймуць гэтую нішу і выцісняць чалавека. Робаты-пыласосы ўжо ёсць, беспілотныя аўтамабілі хутка стануць нормай. Але прыдумаць нешта новае камп'ютары не могуць. І пакуль незразумела, як іх гэтаму навучыць.

**— Над новым праектам вы працуеце ў Мінску. Як думаеце, ці зможа IT-сфера стаць лакаматывам росту нашай эканомікі і спрыяць пазітыўным сацыяльным зменам?**



— Я думаю, што калі ў Беларусі IT не зарэгулююць, як гэта адбываецца ў Расіі, то гэтая сфера будзе і далей развівацца.

Ужо зараз маладым людзям, якія сканчаюць школу, зразумела, што калі хочацца жыць у сваёй краіне і пры гэтым атрымліваць годны заробак, то ў Беларусі, напэўна, IT — адзіны варыянт. У гэтым сэнсе IT ужо грае важную ролю. Людзі, якія гатовы натужыцца, ісці вучыцца і развівацца, каб жыць годна — яны маюць магчымасць зрабіць гэта ў нашай краіне, сумленна зарабляючы.

Спрашчэнне вядзення бізнэсу ў нашай краіне толькі б спрыяла развіццю гэтай сферы.

**— Свет вакол нас змяняецца. Якія б асноўныя трэнды вы выдзелілі?**

— Па-першае, значна зменіцца рынак працы. Людзі будуць працаваць менш, каб забяспечыць сабе годны ўзровень жыцця. Альбо будзе скарачацца працоўны тыдзень, альбо павялічыцца беспрацоўе і дзяржава будзе плаціць вялікую дапамогу па беспрацоўі.

**— А канцэпцыю безумоўнага базавага даходу можна будзе рэалізаваць, як гэта спрабавалі зрабіць у Швейцарыі?**

— Гэта адзін з варыянтаў вырашэння праблемы. Я ўсё ж такі думаю, што чалавецтва прыйдзе да іншага. Але ёсць сапраўдная праблема ў тым, што мы зможам аўтаматызаваць шмат работ, якія зараз неаўтаматызаваныя. Зборшчык дэталяў, кіроўца транспарту, грузчык — усе гэтыя прафесіі будуць цалкам аўтаматызаваныя. Людзі будуць працаваць толькі ў такіх сферах, як IT, нейкіх крэатыўных індустрыях, медыцыне. Хаця і з медыцынай ёсць пытанні.

Шмат людзей проста застануцца без працы. І гэтую праблему трэба неяк вырашаць.

Кансерватыўны сцэнар, які, я думаю, адбудзецца, заключаецца ў тым, што працоўны тыдзень будзе скарачацца. Прыкладна з 40 гадзін да 20. Безумоўны базавы даход — альтэрнатыўнае рашэнне.

Другая тэндэнцыя, якую хацелася б выдзеліць, — глабалізацыя бізнэсу.

Калі мы працавалі над *maps.me*, каманда была ў Мінску. У нейкі момант аказалася, што найбольшай папулярнасцю нашы мапы карысталіся на Філіпінах. Ніхто з нас ніколі не гаварыў па-філіпінску, ніхто з каманды ніколі там не быў, мы вельмі дрэнна разумеем культуру гэтай краіны і тое, што там адбываецца. Але фізічна знаходзячыся ў Беларусі, мы зрабілі прадукт, папулярны там.

І я думаю, што такое будзе адбывацца паўсюдна.

Напрыклад, бабуля вяжа шкарпэткі. Яна зможа іх без праблем прадаваць праз сайт у Японію альбо Аляску. Каналы дыстрыбуцыі бізнэсу стануць глабальнымі.

З гэтай глабалізацыяй пакуль незразумела, што будзе адбывацца з дзяржавамі. Гістарычна дзяржавы выконвалі функцыі збору падаткаў, стварэння супольных правілаў гульні і забеспячэння бяспекі.

Цяпер, калі ты падарожнічаеш практычна ў любы пункт свету, ты адчуваеш сябе даволі бяспечна. То бок бяспека ўжо больш-менш забяспечваецца на глабальным узроўні. Таму фактычна дзяржавы становяцца такімі зонамі з рознымі правіламі гульні і спосабамі ідэнтыфікаваць чалавека. Хаця прэрагатыву ідэнтыфікацыі ў дзяржавы зараз адбіраюць сацсеткі тыпу *Facebook*.

Глядзіце, раней пры працаўладкаванні ў чалавека заўсёды патрабавалі працоўную кніжку. А цяпер з'явіліся працадаўцы, якім яна непатрэбная. Пытанне ідэнтыфікацыі і праверкі адэкватнасці чалавека таксама забіраецца ў дзяржавы.

У свеце ёсць афшорныя зоны, якія прыцягваюць да сябе кампаніі з усяго свету нейкімі бонусамі. Атрымліваецца, што ў розных дзяржаў становіцца мала таго, што іх адрознівае адна ад адной. З аднаго боку, канкурэнцыя паміж дзяржавамі павялічваецца, з іншага — адрозненняў паміж імі становіцца менш.

**— То бок усе спробы вярнуць вытворчыя магутнасці ў развітыя краіны, а таксама вярнуцца да канцэпцыі «нацыянальнай дзяржавы» марныя? Глабалізацыя непазбежная?**

— Так, і ўсяму гэтаму ёсць эканамічнае абгрунтаванне. Нават у Расіі ўжо гэта прызнаюць. Калі паглядзець на які-небудзь выцокі прадукт, мы зможам пабачыць, што ён складаецца з выніку працы людзей з усяго свету. Гэта тычыцца і расійскіх пасажырскіх самалётаў, і амерыканскіх аўтамабіляў Tesla, якія збіраюцца з запчастак з усяго свету.

Сама вытворчасць стане больш мабільнай. Калі на заводзе працуюць толькі робаты, прасцей стварыць яго копію ў іншай краіне. Tesla — яркі прыклад гэтых працэсаў. Пры гэтым тэхналогіі, кампаненты і матэрыялы будуць з усяго свету.

Ды і нават вытворчасць кантэнту цяпер — глабальная рэч.

Калі чалавецтва мысліць глабальна — мы рухаемся значна хутчэй. І ўсе спробы абмежаваць гэта і выбіраць толькі нацыянальны прадукт у выніку прыводзяць да неканкурэнтназдольнасці і заняпаду вытворчасці.

**— А як рэгулюючыя органы дзяржаў будуць паспяваць за імклівым развіццём тэхналогій? Напрыклад, мы ведаем, што ў ЗША ёсць праблемы з выкарыстаннем дронаў і беспілотных машын праз адсутнасць неабходнай юрыдычнай базы. Як гэта будзе вырашацца?**

— Як я ўжо адзначыў, дзяржавы будуць канкураваць паміж сабой і імкнуцца стварыць найспрыяльнейшыя ўмовы. Напрыклад, у большасці краін свету забароненыя эксперыменты на чалавечых эмбрыёнах. А ў Кітаі, наадварот, яны дазволеныя. Таму мы і бачым на сёння, што Кітай лідар у гэтай сферы.

Таксама цяпер ствараюцца адмысловыя сістэмы на аснове блокчэйна для праграмавання дамоваў, дзе яны будуць выконвацца аўтаматычна. Адпаведна — у нейкі момант дзяржавы страцяць манаполію на прававое рэгуляванне. А камерцыйныя арганізацыі змогуць дамаўляцца наўпрост, без пасрэдніцтва судовай і арбітражнай сістэм.

**Гутарыў Максім Маханькоў**

# Аўтарка бестселера «Гэта Беларусь, дзетка»:

**Калі пасля заканчэння магістратуры ў Галандыі Маша Чаракова заявіла, што едзе ў Беларусь валанцёрыць, сябры сказалі: «Вар’ятка!» Але дзяўчына не прывыкла адступаць, таму спакавала валізку і накіравалася ў Мінск.**

**Маша Чаракова: «У Галандыі клімат больш мяккі, чым у Беларусі, але там шмат дажджоў, тыднямі можа ліць. Гэта жахліва. Як па мне, то лепш -20 марозу і снег, чым дождж».**

НАСТАССЯ РОЎДА

«Я памятаю, як сышла з самалёта. У мяне было адчуванне, што я дома. Гэта немагчыма перадаць!» — захоплена прыгадвае Маша.

Калі ёй было восем гадоў, сям’я вырашыла пераехаць з Беларусі ў Галандыю, у горад Утрэхт, што ў цэнтры краіны. Маша кажа, што ўсе іх сваякі разбегліся па свеце: хто рвануў у Амерыку, хто ў Германію. У Беларусі засталіся толькі сябры.

«Мы з сястрой [у Машы ёсць сястра-блізнюк Ганна — НН] вельмі хацелі быць галандцамі. Нават з мамай не хацелі па-руску гаварыць, бо лічылі, што галандская мова — першая. Праз паўтара года па-галандску гаварылі як галандцы. Мы, маленькія дзяўчынкі, самі хадзілі ў бібліятэку і часам за тыдзень паспявалі прачытаць па дзесяць кніг. Ужо тады я любіла пісаць. Нядаўна мама адшукала 12 маіх дзённікаў. Вар’яцтва! Я ўзялася іх чытаць і так смяялася: «Я ненавіджу маю сястру! Я ненавіджу маю маму!». Калі табе 10—11 гадоў, ты ўсіх ненавідзіш. Мне трэба гэта чытаць, калі мой сын будзе ў такім узросце», — усміхаецца Маша.

Пасля пераезду ў Галандыю на радзіме сям’я бывала не часта, прыязджалі раз на год наведаць сяброў і бацькоў. Тады Машу Беларусь не асабліва цікавіла, паездкі былі экскурсіяй па родных, дарагіх як маці месцах. Але быў перыяд, калі Маша зірнула на Беларусь іншымі вачыма.

«Маім першым хлопцам, першым каханнем быў Зміцер з Мінска, мне тады было 15. Ён быў з сям’і маміных сяброў, і калі яны прыехалі ў Галандыю, мы са Змітром закахаліся. Нашы адносіны цягнуліся некалькі гадоў, і кожны мой прыезд у Мінск быў сцэнай кахання. Для Ані, маёй сястры, усё ўспрымалася крыху інача, бо яна хадзіла за намі як хвосцік. Калі мы са Змітром разышліся, Мінск ужо не меў для мяне такога значэння», — распавядае дзяўчына.

Пасля магістратуры Маша вырашыла пажыць у «маміным горадзе» і прыехала ў Мінск валанцёрыць.

### Прыехала прасоўваць Галандыю, але вырашыла развіваць Беларусь

Ад валанцёрства Маша была не ў захапленні. Найперш таму, што яго ідэя была ў тым, каб прасоўваць Галандыю ў нашай краіне. Маша ж хацела развіваць Беларусь.

«Калі я бачу нейкую праблему, то хачу яе вырашыць. У мяне былі ідэі, як дапамагчы інвалідам і іншым людзям, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы. Дагэтуль у Галандыі мы з сястрой стварылі арганізацыю, звязаную з сацыяльным прадпрымальніцтвам. Мы дапамагалі будаваць бізнэс, які не толькі прыносіць грошы, але і вырашае пэўныя праблемы грамадства. Я ўжо ведала, як гэта рабіць, і хацела стварыць штосьці падобнае тут», — распавядае Маша.

Пасля года валанцёрства дзяўчына вырашыла застацца ў Беларусі. Яна пазнаёмілася з сузаснавальнікам інтэрнэт-аўкцыёну «Мае Сэнс» Дзянісам Кандратовічам, з якім яны разам стварылі праграму SocStarter па развіцці сацыяльнага прадпрымальніцтва. У ёй узялі ўдзел 60 чалавек, з якіх шасцёра найлепшых прайшлі стажыроўку ў Галандыі.

Цяпер Маша ўдзельнічае ў яшчэ адной падобнай праграме ў Беларусі — Biz4All. Пры падтрымцы Еўразвязу яе ажыццяўляюць адразу чатыры арганізацыі: ОДБ Брусэль (Бельгія), дзе Маша з’яўляецца кансультантам па пытаннях сацыяльнага прадпрымальніцтва, TNU Network University (Нідэрланды), беларускае моладзевае грамадскае аб’яднанне «Новыя твары» і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Праграма будзе цягнуцца дзевяць месяцаў, да ліпеня 2017 года. Ахвотных паўдзельнічаць назбіралася 500 чалавек, але адабралі толькі 133.

«Гэта людзі, якія не проста сядзяць і гавораць, што эканамічны крызіс. Яны хочуць штосьці зрабіць, — адзначае Маша. — Пяць гадоў таму, калі мы толькі пачыналі развіваць сацыяльнае прадпрымальніцтва ў Беларусі, такіх людзей было вельмі мала, мы іх шукалі. Цяпер іх шмат».



**Маша з Джорджам.**



**Фота сясцёр 90-х гадоў. Ганна і Маша (справа).**

### «Што такое Беларусь? Нейкі горад у Расіі?»

Напрыканцы 2014 года Маша Чаракова і Марта Чарнова пачалі весці блог *etobelarusdetka.com*. Маша пісала нататкі пра беларусаў і жыццё ў Беларусі, а Марта ажыўляла іх цікавымі коміксамі. Хутка дзяўчаты зразумелі, што інтэрнэт-прасторы ім мала, і перанеслі блог у кнігу, якая выйшла адразу на дзвюх мовах: беларускай і англійскай. Кніга атрымалася яркай, заўважнай і хутка трапіла ў топы самых прадаваных.

Кнігу перавыдавалі шэсць разоў, цягам года прадалі 20 тысяч экзэмпляраў. «Гэта Беларусь, дзетка» таксама выйшла на рускай і англійскай мовах і ў перакладзе на іспанскую, нямецкую і кітайскую.

«Я бачыла, што ніхто не ведае пра Беларусь. Так было ў Галандыі, у Аўстраліі, дзе я вучылася год па абмене. У мяне пыталіся: «Што такое Беларусь? Нейкі горад у Расіі?» Мяне гэта злавала, я хацела штосьці з гэтым зрабіць, — прыгадвае Маша. — Потым я зразумела, што гэта праблема многіх беларусаў. Кожны раз, калі яны

# У Беларусі я знайшла каханне і натхненне

кудысьці едуць, ім даводзіцца тлумачыць, дзе знаходзіцца Беларусь, што гэта за краіна».

Вось тады Маша і вырашыла, што будзе пісаць блог. Яна разумела, што займае ўнікальную пазіцыю: быццам і не з Беларусі, але разумее, адчувае беларусаў. Якраз у гэты час яна сустрэла Марту, якая ўзялася маляваць да пастоў карцінкі.

«Памятаю, як Марта прыехала да мяне ў Амстэрдам і мы зайшлі ў кніжную краму. Я казала, што тут будзе ляжаць наша кніжка. Яна глядзела на мяне з сумневам, маўляў: «Ага, у гэтай Машы зноў нейкія шалёныя ідэі». І вось мы вырашылі друкаваць кнігу», — распавядае дзяўчына.

Я думала, нічога не атрымаецца, бо адной з умоў было, што кніга выйдзе па-англійску і па-беларуску. Не хацела па-руску, бо лічу, што беларуская мова вельмі важная для беларусаў, ёй трэба ганарыцца і яе нельга згубіць. Тым больш у нас і ў кнізе ідзе гаворка пра беларускую мову, для мяне было б дзіўна і няправільна, калі б кніга выйшла па-руску».

У выдавецтве «Харвест» ідэю ўхвалілі, і хутка кніга з'явілася на паліцах кнігарняў. Поспех натхніў дзяўчат напісаць яшчэ тры кнігі: гістарычную і дзве дзіцячыя. Плануецца, што ўсе яны выйдуць у 2017 годзе. У гістарычнай Маша хоча сабраць знакавыя падзеі ў гісторыі нашай краіны, што адбыліся да таго, як Беларусь стала часткай Савецкага Саюза. Цяпер яна штомесяц размаўляе па скайпе з вядомым беларускім гісторыкам, доктарам гістарычных навук Захарам Шыбекам, які эміграваў у Ізраіль. Маша занатоўвае пачутае, каб потым жыва і цікава пераказаць гэта ў новай кнізе.

Паралельна Маша працуе над стварэннем гіда па Мінску, а летам плануе ладзіць туры па кнізе «Гэта Беларусь, дзетка».

«Ужо два гады мы працуем амаль бясплатна, — адзначае дзяўчына. — Краўдфандынг нам штосьці аддаў, але ж мы павінны плаціць нашым менеджарам. Некаторыя кажуць, што, маўляў, мы сюды прыехалі, каб напісаць кнігу і разбагацець. Але гэта такое глупства! Кнігі — гэта бізнэс, які нічога не дае ў фінансавым плане, але шмат — у сацыяльным».



Маша Чаракова: «Галандцы глядзяць на ровар як на транспарт, гэта дае пэўную свабоду. Я залежу толькі ад майго ровара, з ім усё павінна быць «акей». У нас дома іх шэсць: звычайныя, спартыўныя, мама-байк. Нават калі зіма і на дварэ -15 марозу, мы ўсё адно ездзім на роварах, паіншаму не можам».



Маша з мужам Джорджам і іх сынам Наамам.

### «Беларусы — гэта вялікі сюрпрыз»

Маша не можа сказаць адназначна, што яна беларуска. Не можа назваць сябе і галандкай.

«Я люблю Беларусь, але калі я тут, то адчуваю, што не беларуска. Калі ў Галандыі, адчуваю, што не галандка», — прызнаецца яна.

Дзяўчына кажа, што ў Галандыі жыць лёгка, бо ўсё добра арганізавана. Гэта краіна, дзе амаль усё магчыма, бо, калі штосьці прыдумаў, ажыццявіць гэта не складана. Але што тычыцца ментальнасці, то беларусы ёй бліжэйшыя.

«У галандцаў не гумар, а сарказм. Я не люблю крыўдзіць людзей і не бачу ў сарказме гумару. Беларусы любяць пасмяяцца з сябе, мне гэта падабаецца, я таксама такая. Тут сапраўдная дабрыня, сапраўдныя сябры, якія будуць шчыра дапамагаць. У Галандыі гэта нават не трэба, бо альбо дзяржава ўсё вырашае, альбо сям'я.

Галандцы індывідуалісты, сябры ў іх як забава. Беларусы — гэта вялікі сюрпрыз. Вось ты думаеш: «Яна на мяне так глядзіць, мабыць, хоча забіць». А праз некаторы час вы самыя лепшыя сябры. Ты не можаш нічога сказаць пра беларусаў у першы момант, яны быццам загорнутая кніга, якую трэба разгарнуць. Гэта мне падабаецца», — разважае Маша.

На яе думку, беларусам не хапае ініцыятыўнасці, якая ёсць у галандцаў. Яна часта сутыкаецца з тым, што беларусы не гатовыя вырашаць праблемы, хоць і бачаць іх.

«Сяброўка прыйдзе выгаварыцца, а я не магу яе проста слухаць, мне трэба адразу распрацоўваць план, як вырашыць яе праблему. І вырашыць не праз месяц, не праз год, а заўтра. Я ўжо пяць гадоў у Беларусі і разумею, з кім магу працаваць, хто думае, як я, а хто не. Мне цяпер лягчэй, бо раней я шмат энергіі аддавала на вырашэнне таго, што не магу вырашыць.

Я магу сто ідэй даць, як выправіць сітуацыю, але беларусы не хочуць яе выпраўляць! Вось мы ўбачылі праблему, што пра Беларусь не ведаюць, і напісалі кнігу. Убачылі, што турыстаў мала, а краіну трэба паказаць, і вырашылі ладзіць туры. Людзі кажуць: «Гэта таму, што яна замежніца, думае, што ўсё можа». Але гэта ўсё могуць! Гэта не таму, што я ўнікальная», — узрушаецца Маша

### Пра тое, як знайшла ў Беларусі каханне

Менавіта ў Беларусі Маша зразумела, што Джордж, з якім яна сябравала дзесяць гадоў, для яе больш, чым проста сябар. Яны пазнаёміліся ў Галандыі, куды ён прыехаў са Швейцарыі вучыцца па абмене. Потым вярнуўся на радзіму, але сяброўства захавалася, і яны часта наведвалі адно аднаго.

«Калі я была ў Беларусі, ён вырашыў мяне наведаць, — распавядае Маша. — Хацела звесці яго з маёй сяброўкай, але, калі ён сышоў з самалёта, падумала: «Не, нікуды ты не пойдзеш». Ён быў тут усяго тры дні, але гэта было неймаверна. Потым цягам года мы сустракаліся кожныя два тыдні. Альбо я да яго ехала, альбо ён да мяне, альбо бачыліся ў Вільні. Гэта было вар'яцтва. Мы зразумелі, што так жыць нельга, і паўтара года таму вырашылі дзесьці асесці. У Мінск Джордж не хацеў з-за працы. Выбіралі паміж Амстэрдамам і Швейцарыяй. Я хацела ў Амстэрдам, гэта бліжэй да Беларусі. У нас нарадзіўся сын Наам, цяпер чакаем дзяўчынку».

Сыну Машы і Джорджа год і тры месяцы. Ён адначасова засвойвае чатыры мовы: нямецкую, англійскую, рускую і галандскую. Наам ужо паспеў пабываць у Беларусі, і Маша спадзяецца, што, калі ён вырасце, таксама будзе прыязджаць.

«У Беларусі я знайшла і каханне, і натхненне, — прызнаецца Маша. — Калі я кажу пра Беларусь, то гэта заўсёды «вау», гэта заўсёды энергія».

Цяпер Маша бывае ў Беларусі штомесяц, прыязджае на тры-сем дзён і вяртаецца ў Амстэрдам да сына і мужа.

**Кніга «Гэта Беларусь, дзетка!» паставіла абсалютны рэкорд продажаў: 20 тысяч асобнікаў**




*Настасся Роўда, фота аўтара і з архіва Машы Чараковай*

# Звязацца з Богам, пакінуць памяць, «запосціць коціка»…

На сценах самага старажытнага храма Беларусі, полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы, навукоўцы адкрылі 4000 надпісаў XII—XIX стагоддзяў. Што і дзеля чаго пісалі продкі? Расказвае гісторык **Іна Калечыц**, аўтар манаграфіі пра царкоўныя графіці.





Надпіс-алфавіт: выгляд на сцяне і расшыфроўка.

### Архімандрыт піў і каяўся

Пра тое, што на сценах храма ёсць надпісы, стала вядома ў XIX стагоддзі, калі паабсыпалася алейная фарба, якая іх хавала. Самы ранні датаваны запіс — 1189 год. Гэта запіс пра смерць Паўла — магчыма, святара. Побач запіс «Прэставілася Алена Паўлаўна» — магчыма, яго дачка. Наступныя датаваныя надпісы — з XV стагоддзя. Самы позні запіс — ад 8 жніўня 1832 года.

Надпісы сустракаюцца паўсюль. На ніжнім ярусе царквы — у алтары, ахвярніку, дыяканніку... Вялікая колькасць на слупах — на кожным да шасцісот надпісаў можа быць.

Надпісы ёсць нават у аркасоліях — паўкруглых пахавальных нішах у сценах. Там хавалі ігуменняў, можа, кагосьці з княжацкай сям'і. Самы вялікі аркасолій прызначаўся для пахавання Еўфрасінні, але яна памерла ў Ерусаліме. І ўсё ж у гэтай нішы, магчыма, нехта быў пахаваны. Над пахаваннямі святар павінен быў стаяць і чытаць малітву. На частцы сценкі аркасолііі адкрыта шмат надпісаў, напрыклад, архімандрыта Іаана, які жыў недзе ў XIV стагоддзі. Ён напісаў з памылкай: «Госпадзе, памажы рабу свайму анхімадрэту Іавану», а зверху ёсць прыпісачка: «А піў есмь». То бок архімандрыт выпіваў і каяўся ў гэтым. Надпіс аформлены цудоўна: рамачка ўся ў дыяганальных лініях, гэта значыць, што архімандрыт меў час: стаяў там, маліўся і вось напісаў.

### Надпісы ў келлі Еўфрасінні

Ёсць графіці і на верхнім ярусе царквы. На харах, у дзвюх келлях — недзе па тысячы надпісаў у кожнай. Гэта амаль выключна надпісы шкаляроў, студэнтаў езуіцкага калегіума: лацінскія, канца XVI–XVIII стагоддзяў. Адна з келляў належала прападобнай — месца яе малітваў. Рэстаўратары знайшлі ў келлі балкон — гэта як у вагоне другая паліца. Мяркуюць, што там Еўфрасіння спала, у галавах нават захаваўся вялікі камень.

Пакуль яшчэ не раскрытай ад пазнейшай алейнай фарбы застаецца лесвіца. Ёю будуць займацца расійскія рэстаўратары, яны папрасілі на гэта год-два. Складанасць даследавання лесвіцы ў тым, што там вельмі малая прастора, недзе 60 см, на якой трэба размясціцца, каб здымаць фарбу. Гэта складана, бо праца вядзецца з рэчывамі, якімі цяжка дыхаць.

### Лічылі малітвы за душу

Увогуле, надпісы сустракаюцца ва ўсіх цэрквах. Найчасцей памінальныя: нехта памёр — пішуць яго імя, часам год. Побач маглі ставіць вертыкальныя рысачкі — гэта колькасць малітваў за душу памерлага. Гістарычныя асобы згадваюцца менавіта ў такіх надпісах. Напрыклад, тры полацкія ігуменні, якіх мы не ведаем ні па якіх іншых крыніцах: Ганна, Кацярына, Акіліна. І, магчыма, Уліта, але там імя сапсаванае, і мы дакладна сказаць не можам. Таксама імёны епіскапаў, святароў, вялікай княгіні Ульяны, жонкі Альгерда. Гэта класічныя надпісы, якія пісаліся аднолькава ва ўсіх цэрквах.

Дарэчы, графіці дапамагаюць вызначыць першую назву царквы, эклезіёнім. Бо ў XII–XIV стагоддзях мы не ведаем, як царква называлася. Першая, самая старажытная назва царквы — яна зафіксавана і ў «Жыцці» — Святы Спас. Ёсць надпіс «Крылас Святога Спаса» (кліpac) ці пішуць: «Панамар Святога Спаса», або «пабіце», бо «не ходзіць співаць да Святога Спаса». У гонар Перамянення царква была асвечана ў 1656 годзе. Эклезіёнім ставіць пытанне пра дату першага асвячэння царквы: гэта Спас, але які з трох? Магчыма, 29 жніўня.

Ёсць таксама запісы-алфавіты, ад трох літар і далей. Напрыклад, запіс «абв» ужо абазначаў: я ведаю літары, я пісьменны. На сценах таксама ёсць доўгія шэрагі літар «а»: першая літара, якую чалавек навучыўся пісаць. І вось ён ужо сядзеў і ад душы пісаў гэтую літару, пакуль не атрымаў, магчыма, ад кагосьці *(смяецца)*. Потым ёсць яшчэ надпісы малітоўныя: «Госпадзе, памажы рабу свайму» і імя.

### Сярэднявечны беларускі гумар

Самыя цікавыя — побытавыя надпісы. Яны ж і самыя складаныя для вывучэння. Такія надпісы ёсць у дыякандніку: «Па чэраву па хрыбту Спірыда папа біце пугамі паеў праскур адзін канун» (канун — гэта памінальная вячэра), а далей: «а се пісаў...» Імя аўтара запісу сапсаванае, і імя Спірыда таксама закрэсленае. Хто сапсаваў? Або гэты самы Спірыд, або той, хто пісаў, зразумеў, што не меў рацыі і закрэсліў. Потым надпіс пра панамара Саўку, які мне вельмі падабаецца: «А Саўка панамар Святога Спаса служыць чэраву работае целу». Гэта значыць, што ён любіў паесці і цела сваё песціў. Надпіс старанна закрэслены, аднак ён прадрапаны глыбока, і бачныя ніжнія часткі літар, па якіх можна яго аднавіць.

Таксама цікавы запіс: «Спірыда біце не ходзіць пець да Спаса». Але сустракаліся не толькі суровыя надпісы — на слупе, напрыклад, ёсць запіс: «Спірыд поп добры». І побач тры малюнкі — профілі людзей, магчыма, адзін з іх Спірыд. І яшчэ адзін надпіс, які павесяліў рэстаўратараў, — на акне ў келлі, якое раней было выхадам на галерэю: «Пабіце за злыя ігранія чрэва і хулен смех в келье». Магчыма, «ігранія чрэва» звязваюцца з нейкай ежай, якая ў гэтым чэраве брадзіла.

Таксама ёсць цікавы малюнак — партрэт дыякана з подпісам, а побач чалавек, які працягвае рукі да яго ў малітоўным прашэнні. А побач надпіс: «Дыякану Алешку пёс на шыю». Ёсць жа такі выраз — «навешаць сабак». Вось такі гумар Сярэдніх вякоў. Яшчэ нехта запісаў на сценах царквы сярэднявечную загадку: «Айцец мяне радзіў, я радзіў сабе жану». Адказ — першачалавек Адам.

### «Коцікі»

Калі сустракаем надпісы ў алтары, то амаль дакладна можам вызначыць аўтарства — доступ да алтара мелі найперш святары. Таксама там пісалі служкі і панамары. Гэта звычайна маладыя хлопцы, якія ўдзельнічаюць не ва ўсім богаслужэнні і таму маюць вольны час. І вось у вольны час яны займаліся гэтымі не вельмі добрымі справамі — прадрапвалі надпісы і малюнкі ў ахвярніку (ахвярнік — частка алтарнай прасторы, дзе знаходзіцца стол, на якім рыхтуецца ахвяра для прычасця: хлеб і віно). Там на паўднёвай сцяне ёсць бусел, ёсць паўлін, таксама прадрапаныя плеценыя арнаменты і пачвары, якіх бачылі ў кнігах. Вельмі цікавы малюнак над ахвярнікам: шмат рук, каля сарака, якія павернуты на ўсход як знак блаславлення. Ёсць таксама воін на кані. Ён прадрапваўся з нейкага чалавека, якога мастакі ведалі, таму што ёсць партрэтныя рысы, барада.



Выява ваяра мае партрэтныя рысы.



**Іна Калечыц**

нар. 1973 у Бабруйску. Кандыдат гістарычных навук, эпіграфіст. Працуе ў БДПУ. Аўтарка больш як 50 навуковых публікацый.



**Спаса-Праабражэнская царква**

Пабудаваная ў 1150-я як частка Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Добра захавала да нашага часу рысы дойлідства XII ст. Захавалася імя яе будаўніка — дойлід Іаан. На сценах храма пад слаямі пазнейшай фарбы зберагліся ўнікальныя фрэскі XII стагоддзя і шматвекавыя надпісы палачанаў.



У царкве таксама знаходзяцца самыя раннія выявы катоў на тэрыторыі Беларусі. У праходзе паміж дыяканнікам і алтаром — тры кошкі, і ўсе розныя. Адна паласатая, прычым паласа на хрыбеціне ідзе так, нібыта рэнтген глядзім і бачым, што кошка з'ела рыбу. Кошка ідзе, у яе адна лапка сагнутая, а на пысцы такая шчырая ўсмешка — як у чашырскага ката. Другая котка бачна што калматая, шарсцінкі тырчаць купкамі. А трэцяя, мабыць, была чорная з белымі лапамі, таму што лапы так акрэсленыя, вылучаныя. Гэта маглі быць царкоўныя коткі, чаму не.

Я думаю, што і паўлін, выяву якога мы знайшлі, таксама жыў пры манастыры, і малюнак панамары рабілі з натуры. Таму што ў Ваўкавыску знайшлі косткі паўліна. А ў кнігах ёсць згадкі: «Пісаў павіным пяром». Як цяпер ёсць ручка «Паркер», тады былі пёры паўліна.

### Сярэднявечная мова

Першыя рысы беларускай мовы сустракаюцца ў надпісах XIII стагоддзя. Напрыклад, у ахвярніку знойдзена адно толькі слова — «терам». Цвёрдае беларускае «р» з'яўляецца на пісьме! Адно слова — але яно вартае многіх слоў.

Калі казаць пра імёны, то яны ў Сярэднявеччы пачынаюць перарабляцца. У тагачаснага чалавека было два імені: хрысціянскае, дадзенае па календары, і паганскае, хатняе. Хатняе людзі добра разумелі, а каляндарнае было з чужой мовы. Таму чужыя імёны перараблялі. Напрыклад, Кіпрыяна называлі Купрыян, так пісалі і ў царкве.

У XVII стагоддзі пачынаюць сустракацца імёны, пераробленыя на лацінскі кшталт: Паўлус, Петрус, Базіліус. Адзін шкаляр адзначыўся: у калегіуме вывучалася грэчаская, і вучань падпісаўся Сімон Сіманідас. А яго аднакашнікі дапісалі: «бембеніста, пузаніста, сацыганіста». З «пузаніста» больш-менш зразумела, а накont іншых вызначэнняў трэба яшчэ пакапаць, што яны могуць значыць.



### Жанчыны, салдаты, шкаляры…

На слупах, на сценах пісалі рознымі інструментамі, што мелі пад рукой. Напрыклад, пісалам — прыладай для пісьма: з аднаго боку завостраны стрыжань, з другога — лапатачка, каб пісаць па воску і заціраць.

Таксама пісалі іголкай — тады запісы вельмі тоненькія, ледзь-ледзь бачныя. Ёсць проста каліграфічныя. Напрыклад, «Albertus Kaspersky». Ён напісаў карычневым атрамантам і прадрапаў іголкай. Таксама рабілі запісы нажом — у такіх неахайныя, рваныя абрысы. А студэнты — такое ўражанне, што яны насілі з сабой «кружалы», — цыркулі, бо сустракаецца шмат ідэальна роўных акружнасцяў.

Аўтографаў шкаляроў — студэнтаў Полацкага езуіцкага калегіума — вельмі многа. Іх, відаць, вывозілі сюды ў час вакацый, бо ўсе запісы з красавіка, мая і летніх месяцаў. Яны пелі песні на беразе Палаты, гулялі, ну а храм, магчыма, быў нядзейным, бо ў дзейным храме яны не маглі б так сябе паводзіць. Большасць пісала проста «тут быў ...», але нехта і адчуваў святасць месца — сярод шкалярскіх подпісаў ёсць звароты да Бога: памяні, Госпадзе, пазбаў кар нябесных. Магчыма, гэта быў студэнт-уніят. Таксама быў выпадак звароту да Бога і кірыліцай, і лацінкай — відаць, каб Бог дакладна зразумеў: «Памяні Госпадзе Pomin Hospody». Таксама шкаляры запісвалі свае тытулы, якія атрымлівалі ў калегіуме за поспехі. Напрыклад, званне аўдытара, пасля атрымання якога маглі правяраць хатняе заданне ў іншых. Адзін такі шкаляр напісаў: «Philippus Azarovicz auditor poetas» — то бок ён аўдытар паэтыкі, а іншы аўдытар рыторыкі, красамоўства: «Laurentius Kowalsky auditor eloquentiae».



Запіс архімандрыта Івана, які грэшнай справай выпіваў.

У царкве сустракаюцца запісы часоў войнаў. Напрыклад, на ўсходняй сцяне: «Часу абляжэньа Полоцка» — падчас аблогі Полацка. Літары нахіленыя ў розныя бакі. Я ўяўляю, як чалавек там сядзеў пад гарматамі і пісаў. Таксама ёсць запіс на лацінцы, які чытаецца: «Места Полацкае пад Масквой». У 1579 годзе ў Полацку спыняюцца войскі Стэфана Баторыя. Пасля гэтага і яны, і мясцовыя ўжо пішуць дзе хочуць — у алтары, у келлях, на слупах, прычым існуе пэўная мода: усе пішуць па-лацінску «тут быў» — «hic fuit...» — і сваё імя ды прозвішча. І цікава: ёсць такі прамежак, прыкладна ад 1581 да 1584 года, калі там стаялі наёмнікі. У графіці сустракаюцца галандскія, нямецкія імёны, напрыклад, Герт Фагет, ці Іахім Зонэнбом, ці Лудэр Ронэкен. 20 лютага 1584 яны склалі вялікі спіс з 14-ці імёнаў — і ўсё. Магчыма, гэта дата іх сыходу.

Жаночых імёнаў — не ў памінальных запісах, а ўласнаручна выкананых — сустракаецца няшмат. Зоф'я, Хрысціна, Апалонія Цэханавецкая, якая ў подпісе адзначыла, што яна «ваяводжанка» — дачка ваяводы. Ёсць таксама кранальны запіс, які, магчыма, зрабіў святар па сваёй жонцы: «Мая Феўронія» і шмат памінальных рысак.

### Звязацца з Богам

Людзі выбіралі найлепшае месца для надпісу. Пісалі па разгранках — стужках паміж іканапіснымі сюжэтамі, пісалі па німбах фрэсак, па вачах, па тварах... Калі кірылічныя надпісы ніколі не сустракаюцца на выявах святых, дык познія, лацінскія, ідуць і па ліках, і па фігурах... Каталікі і ўніяты ўжо не баяліся пакрыўдзіць святых у праваслаўным храме.

Дзеля чаго рабіліся запісы? Пазнейшыя — з мэтай пакінуць памяць пра сябе: тут быў... Вось у XVII стагоддзі быў такі Геліяш Шэвердзіч ці Шэвердзіц — ён піша сябе па-рознаму. Гэты Геліяш распісаўся ў царкве некалькі разоў — на слупах і на хорах, каб памяць пра яго дайшла. Адзін раз напісаў дакладна і дату — 15 сакавіка 1661 года.

З'яўленне самых старажытных запісаў звязваецца з тым, што людзям хацелася, каб стан чалавека пасля смерці палепшаў. Што трэба рабіць? Маліцца за душу, памінаць. А матэрыялаў для пісьма было няшмат. І імёны наносіліся на сцяну, сцяна выступала нібы матрыцай падчас богаслужэння, Бог мог счытаць з яе інфармацыю. Магчыма, было такое ўяўленне, але дакладна мы казаць не можам.

Я падрыхтавала манаграфію пра ўсе гэтыя запісы. Патрэбна, каб выйшла тамы чатыры, бо будзе шмат ілюстрацый: кожнае графіці расчытанае, апісанае, сфатаграфаванае і прамаляванае. Гэта будзе выбух гістарычных крыніц, патрэбных усім: і гісторыкам, і філолагам... Пакуль што гэты скарб у мяне, я яго трымаю, сяджу на ім *(смяецца)* і хачу падзяліцца.

**Запісала Паўліна Купрысь**



### Лявон Вольскі абвесціў пра змену статусу

Лявон Вольскі змяніў свой статус у фэйсбуку на «ў адносінах». Ягонай сяброўкай стала 26-гадовая дзяўчына з Мінска, якую завуць Мар'яна.

Цікавае супадзенне — па прозвішчы яна таксама Вольская. Праўда, у літаратурных колах яе ведаюць яшчэ як «Яню Ядвабную».

У сваіх сацыяльных сетках Мар'яна мае таксама фоты з архідэямі і яблыкам.

Жонка Вольскага Ганна памерла ў сакавіку гэтага года ад анкалагічнага захворвання.

Ёй 51-гадовы Лявон прысвяціў пранізлівую песню «Маё каханне».

# Белавежская Атлантыда

**У Белавежскай пушчы на мяжы Польшчы і Беларусі знайшлі старажытныя збудаванні. Гэта каменныя створаныя людзьмі канструкцыі розных памераў, якія цяпер маюць вышыню 20-30 сантыметраў.**




Іх знайшлі польскія навукоўцы, дзякуючы лазернаму сканаванню паверхні пушчы.

Гэтыя лініі і лабірынты з каменя і зямлі займаюць тэрыторыю ў дзясяткі сённяшніх лясных дзялянак і размешчаныя ў асноўным на ўзвышаных месцах. Археолагі, якія даследавалі гэтыя загадкавыя аб'екты, кажуць, што ў аснове каменныя канструкцыі маюць дзенідзе два метры ўшыркі. Як мяркуюць польскія даследчыкі, гэта, хутчэй за ўсё, рэшткі межаў сельскагаспадарчых палёў.

«Не менш цікавы той факт, што дадзеныя канструкцыі ў некаторых месцах залягаюць пад археалагічнымі аб'ектамі (могільнікі, курганы і г. д.), датаванымі раннім Сярэднявеччам (V—XII ст. н. э.), што кажа пра больш ранняе паходжанне», — паведамляецца на сайце нацыянальнага парку «Белавежская пушча».

У бліжэйшай будучыні навукоўцы Польшчы паспрабуюць высветліць дакладную датыроўку гэтых аб'ектаў і іх функцыі, а таксама дэталёва вывучыць змесціва ўнутры лінейных канструкцый.

Магчыма, удасца даведацца болей пра народы, якія два тысячагоддзі таму жылі на месцы сённяшняй Белавежскай пушчы.

**СМ**

# «Палын-палын»: чаму Пазняк не стаў беларускім Джойсам

**У №28 НН за 2016 год мы публікавалі рэцэнзію Віктара Шукеловіча на раман Зянона Пазняка «Палын-палын», у якой аўтар высока ацэньвае раман. Антон Лявіцкі, беларус-аспірант, які цяпер вучыцца ў Нямеччыне, даслаў нам сваё, больш крытычнае, прачытанне твора.**
**Не так шмат у нас выходзіць раманаў па-беларуску, а тым больш раманаў аўтара Зянона Пазняка. Таму мы вырашылі апублікаваць і другую рэцэнзію.**
**Антон Лявіцкі бачыць у рамане вялікае спрашчэнне, чорна-белую карціну жыцця. Тупіковым як эстэтычна, так і палітычна падаецца Антону Лявіцкаму і пагардлівае стаўленне да «мангольскай Масквы» і «мільённай дзяроўні». Менавіта ў гэтай ідэалагічнай абмежаванасці бачацца Лявіцкаму прычыны паразы Пазняка Лукашэнку ў 1990-х. Зрэшты, чытайце самі.**






*A great man once said, everything is about sex. Except sex. Sex is about power.*
**House of Cards**

*Джойс таксама не атрымаў Нобеля.*
**Аляксандр Лукашук**

Джэймс Джойс (James Joyce) — ірландскі пісьменнік, які нарадзіўся ў адзін год з Янкам Купалам і памёр у год нападу нацысцкай Нямеччыны на СССР. Гадаванец езуітаў, Джойс з цяжкасцю (бо апавяданні не вылучаліся патрыятычным пасылам) выдаў зборнік навел «Дублінцы» на бацькаўшчыне. Не прымаючы культурнай атмасферы «вострава святых», пісьменнік падаўся на выгнанне.

У кантынентальнай Еўропе Джойс стварыў «Уліса», поўнага аўтабіяграфічным жыццесцвярджэннем і еўрапейскай культурай, але найперш — ірландскімі нацыянальнымі наратывамі. Мадэрнізм Джойса жывіўся вытанчанымі канфліктамі — паміж рэлігіяй і верай, нацыяй і індывідуальнасцю, Англіяй (англійскай мовай, культурай) і нацыянальным вызваленнем Ірландыі.

Гэтаму канфлікту ўласцівая пругкая выразнасць, якую Васіль Быкаў, магчыма, назваў бы праўдай. Адзін з герояў Джойса мог роспачна выгукнуць: «мне даўно ўжо нудна ад маёй нацыі, нудна». І гэта не замінала пісьменніку ганарыцца тым, што паводле ягонага «Уліса» Дублін мог быць дакладна адноўлены пасля поўнага знішчэння.

* * *

У красавіку 1996-га Пазняк канчаткова пакінуў Беларусь. У ЗША лідар Народнага Фронту павёз неймаверны для беларускага палітыка сімвалічны капітал «бацькі беларускага Адраджэння» і шматгранны жыццёвы досвед. Выдатны зыходны пункт для таго, каб пераўтварыцца ў «героя беларускай культурнай прасторы»: у выпадку паспяховай далейшай «капіталізацыі» гэтых актываў раман Зянона цяпер перакладаўся б на «асноўныя мовы Еўропы».

Але гэты сімвалічны капітал быў Пазняком размантачаны на малапплёнвую прапаганду, якая з унутранай неабходнасцю прывяла яго на трывожную мяжу, за якой пачынаецца расізм. Пры ўсёй ідэалагічнай нагружанасці гэтага паняцця, якое стала часткай штодзённага словаўжывання (асабліва на Захадзе), практыка-арыентаваная дэфініцыя сутнасці расізму магчымая. Пра гэта можна шмат пачытаць. Тут варта толькі прывесці важную думку сацыёлага Роберта Майлза (Miles): «У канчатковым выніку кожная расісцкая ідэалогія мае на мэце іерархізацыю людзей, прыпісваючы ім большыя ці меншыя здольнасці ў дасягенні пэўных палітычных, культурных ці сацыяльных стандартаў».

* * *

«Палын-палын», акрамя харошай назвы, утрымлівае ў сабе шмат патэнцыялу. Ужо Шукеловіч ненаўмысна акрэслівае каштоўную перспектыву, якая схаваная ў рамане. Крытык параўнаў раман Пазняка з «Каласамі пад сярпом тваім». Ён вёў гаворку пра сюжэт, размеркаванне роляў і функцыяў у раманных сусветах двух аўтараў. Але на гэта можна зірнуць іначай: варта прыгадаць толькі, што Пазняк — герой дзённікаў Караткевіча, а Караткевіч — (контурны) герой рамана Пазняка («як піша адзін наш рамантычны пісьменнік, «і адзін можа», цытуе Людвіся Брылеўская, персанаж «Палыну-палыну»).

Мінск першай паловы 60-х — гэта Мінск Пазняка і Караткевіча, Мінск Стральцова і Адамчыка, Мінск Мележа і Барадуліна. Мінск беларускіх шасцідзясятнікаў, якія жылі ў савецкай сістэме і адначасова — крыху побач, трохі па-за ёй, напаўняючы сталінскія культурныя ўстановы, інстытуты нацыянальнай рэпрэзентацыі новымі сэнсамі.

Рэшткі гэтай эпохі відаць у Пазняка. У 60-х ён пачаў сваю біяграфію абаронай Нямігі — і ўвага да гістарычна-культурнай спадчыны Беларусі (асабліва сталіцы) стала прысутнічае ў рамане. «Дамініканец», Няміга, царква Звеставання ў Віцебску — як страты; Нясвіжскі касцёл і парк, віленскія муры — як навочныя сімвалы гістарычнай пераемнасці. Акрамя таго, праз раман праходзіць пытанне «як?». Як павінны дзейнічаць людзі, чыё мэтавызначэнне і спадзяванні на будучыню прынцыпова разыходзяцца з праграмай кампартыі? Як можна суаднесці маральнае патрабаванне няўдзелу са штодзённай залучанасцю ў савецкае грамадства? Героі рамана шмат разважаюць пра гэта, і ў гэных разважаннях рупіць угледзець водгулле аўтэнтычных спрэчак, якія, магчыма, вяліся ў студэнцкіх кампаніях, акадэмічных асяроддзях ці суполках накшталт «На паддашку».

* * *

Гэты Мінск не ў малой ступені — герой Пазняка. «Шэрае сацыяльнае асяроддзе» і «ідэйныя абставіны» ў эпоху савецкай акупацыі, шэрага часу, «вялікага калгаснага перасялення». Ён кажа, у прыватнасці, на памянёнай прэзентацыі: «Мая задача была адлюстраваць той час, тую эпоху, якую я добра ведаю. Бо я не жыў на адным месцы, я ездзіў па Беларусі і жыў у розных сем’ях, розных гарадах. І гэта мне дало досвед. Дык вот, адлюстраваць гэты час у тыпалагічных з’явах». У тэксце рамана рэгулярна спатыкаецца матываваная гэтай задачай квазісацыялогія: «дэфектны народ» упярэмежку з «сацыяльным тыпам», «унутранай эміграцыяй», «геніем сацыяльнага свету» і «сацыяльнымі анальфабэтамі».

Але Мінск 60-х — герой сказжоны, ушчэнт перакручаны, нерэалістычны. І гэта немагчыма даравяць раманісту: пераўтварэнне мастацкага тэксту ў фабрыку ілюзій, заложны механізм (сама) падману. Пазняк, у канчатковым выніку, зноў і зноў тлумачыць, чаму ён асабіста і ягоныя паплечнікі невінаватыя ў палітычных паразах Фронту ў 1994—1995. Дзеля гэтай сваёй задачы ён «здае» шасцідзясятнікаў. Здае свайму рыгарызму, механічнаму маніхейству. Аўтар афарбаваў свет сваіх герояў у два колеры: зусім белыя аматары беларушчыны на адным баку (дзе кожны хлопец — мужны мача, а кожная дзяўчына — кроў з малаком, будучая матрона), чорныя служкі КДБ-Масквы на іншым (побач з імі — мясцовыя запраданцы), усе — бескультурныя, прагныя да ўлады і асабістай нажывы і г.д.

Безумоўна, цікаўны чытач знойдзе ў рамане шмат займальных малюнкаў з жыцця Беларусі «часоў савецкай акупацыі» (падзагаловак рамана). Беларускі

## Пазняк зноў і зноў тлумачыць, чаму ён асабіста і ягоныя паплечнікі невінаватыя ў палітычных паразах Народнага Фронту ў 1994—1995

тэатральна-мастацкі інстытут (БДТМІ) пачатку 60-х, вольны дух гэтай ВНУ — «прыстанішча вальнадумства і свабоды», і ейны разгром («у інстытут набілася розных «зампалітаў» і «ветэранаў партыі» па «хозчасці»); мастацкія дэкарацыі Баразны ў тэатры і натхнёная рэакцыя публікі на іх; Валер Раеўскі, студэнт БДТМІ, памянёны мімаходзь, але шматзначна; «На паддашку» (у рамане — «Вышыня»); беларуская моладзь, якая «павар’яцела» на Багдановічу; адзін вядомы маладзечанскі аматар-гісторык. And so on and so forth.

Шмат увагі Зянон надае таксама і тым, каго сам называе прадстаўнікамі «культурнай гарадской срэды», «зрусіфікаванымі анальфабэтамі», «мільённай дзяроўняй». Яны называюць сваіх дзяцей Жаннамі, Ігарамі, Артурамі, захапляюцца тэлебачаннем («перажывацельныя» фільмы пра каханне і «как в жызні бывает») і малаякаснай літаратурай (тут узнікае Шамякін: «ужасна люблю ліцературу, кагда вот такіе із жызьні взятые, перэжывацельные»), конча цураюцца роднай мовы («беларускій язык некрасівый, грубый язык, на нём гаварыт толька дзярэўня, і нельзя сказаць нічэго чэлавечэскава»).

Гэтыя і іншыя апісанні — прыгожыя, па-майстэрску выкананыя малюнкі, спляжаныя, аднак, «мастацкім вымыслам» з цьмянымі мэтамі. Навошта старшыня калгаса ў рамане распаўсюджвае «Кароткую гісторыю» Власта? Чаму замест паказу рэальнага водгулля ў БССР агульнасаюзнай кампаніі супраць дысідэнтаў у пачатку 70-х Зянон прыдумляе 10-гадовае зняволенне?

Больш цікаўны чытач будзе мець і іншыя гістарычныя прэтэнзіі. Пазняк найбольш ухваляе Мазурава («глядзі, як Беларусь падняў!») і знішчальна крытыкуе Машэрава («гэбоўскі сукін сын»). Пры гэтым першы, паводле сведчанняў Івана Шамякіна, пачаў масава закрываць беларускамоўныя школы, а другі паставіў на чале БТ Бураўкіна — камуніста, але нацыянальнага.

Беларусізацыя Зімяніна зусім не такі бязвоблачны гістарычны эпізод, як гэта маніцца паказаць Зянон (можна пра гэта ва ўспамінах Валянціна Блакіта пачытаць, напрыклад). Нарэшце, некалькі разоў паўтораны тэзіс аб тым, што Масква бязлітасна эксплуатавала БССР. Гэта спрэчная ідэя: як і астатнія рэспублікі Саюза, Беларусь атрымлівала амаль неабмежаваную выгаду ад танных энерганосьбітаў.

Героям Пазняка — аднолькавым лялькам для батлейкі, — у адрозненне ад фігур адысеі Джойса, не дадзеная свабода выбару і дзеяння. Яны вымушаныя бясконца намнажаць мёртвыя формулы з ідэалагічнага слоўніка свайго стваральніка, пра акупацыю і рабоў («Ihm gefiel es, unter der Besatzung zu leben. Er freut sich ein Sklave zu sein»). Усё ў гэтым рамане — наконт беларушчыны, акрамя самой беларушчыны. Беларушчына ў ім парадаксальным чынам — наконт «мангольскай Масквы» («маскоўскіх манголаў»).

Прыхільнікі беларускай культуры абмяркоўваюць нацыянальнае мінулае? Масква ўзнікае абавязкова. Аналізуюць бягучае становішча беларускай мовы і культуры? Масква, Масква. Плануюць далейшую дзейнасць, фарміруюць пазітыўны вобраз нацыянальнай будучыні? «Пакуль будзе існаваць Масква і Расея, датуль галоўным для нас (для ўсіх нас) будзе Беларусь, беларусы і беларуская мова». Гэтая аргументацыя ўжываецца скрозь — не толькі для тлумачэння нацыянальнага шляху, але і прыватных біяграфій. Трагічны лёс выдатнага опернага спевака Зіновія Бабія? Імперская палітыка Масквы, якая не жадае ствараць славу Мінску.

Зноў і зноў станоўчыя героі рамана вяртаюцца да гэтай тэмы. Млосна робіцца ад гэтага шалёнага і ў дачыненні да чытача зусім бязлітаснага скакання ад злачыннай палітыкі КДБ («ідзе вайна супраць нас», «вайна паміж цемрай і святлом», «нябачныя акупацыйныя сілы, на-



**Антон Лявіцкі**

Скончыў гістфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, цяпер вучыцца ў аспірантуры ў Нямеччыне (Graduate School for East and Southeast European Studies Мюнхенскага ўніверсітэта).

вучаныя забіваць») да нечакана прымітыўных разважанняў пра рускі мат («незвязаная колькасць пастаянна паўтараных (не маючых ніякага дачынення да сэнсу і зместу гаворкі) вульгарных назваў і абазначэнняў мужчынскіх і жаночых палавых органаў, вытворных ад іх дзеясловаў, азначэнняў і прыметнікаў»).

Зрэдчас героі рамана выяўляюцца жывымі людзьмі. Ермаковіч, напрыклад, кажа пра «свайго чалавека», які працуе ў выканкаме і дапаможа з тэхнікай для ўстаноўкі помнікаў паўстанцам Каліноўскага. Ужо гэта павінна было б разбурыць дакладна праведзеную лінію фронту ў вечнай вайне імперыі і нацыі, праясніць дынамічную тканіну сацыяльнасці, якая злучала ў «савецкае грамадства» чытачоў Пікуля і Багдановіча. Або старшыня калгаса Дзюбайла, які адмаўляецца пашырадь самвыдат свайго сябра («не буду, не веру і не хачу»). Або Раман Шляхта, які разважае пра Максіма Танка і прычыны, чаму ён выбраў такі псеўданім: «Адчувае адказнасць перад сваім талентам, каб зберагчы яго ў несвабодзе». Але гэта здараецца выключна рэдка, выпадкова, складваецца ўражанне — праз недагляд аўтара, які захапіўся ў дадзены момант чарговай нагодай пераказаць сродкамі мастацкага тэксту свой славуты артыкул пра рускі імперыялізм і ягоную небяспеку.

Можа, адзіны вынятак — Зося Бэлтушка. Яна ў рамане не мае «ідэалагічнай функцыі» (ну, амаль не мае), і таму жыве сама. Асобна ад усёмагутнага Пазняка. І калі, агорнутая жалем, аддае нявестцы свае пацеркі і святочную вопратку — «сімвалы, рэальнасць, як паветра, Сонца і Зямля». Калі разважае, што пры Брэжневу стала лепей жыць, чым пры Хрушчову, бо на аўтобусе можна даехаць, куды хочаш. Калі піша лацінкай лісты свайму байструку Ёську, які стаў у Мінску вялікім начальнікам. І асабліва ў фінале рамана, калі яна пачынае спяваць: «на далёкі лес і ляцючыя хмары».

* * *

Раман напісаны добрай, жывой мовай. Але цікава назіраць, як свайму мастацкаму маўленню дае рады Зянон. Пераважна аднародная плынь рамана паступова разбураецца, выяўляе новыя і новыя разрывы, калі апавядальнік, напрыклад, пачынае звяртацца наўпрост да чытача.

Удачай Зянона варта прызнаць кампазіцыю. Найбольш наструненая ў рамане сюжэтная лінія Зосі Бэлтушкі, і менавіта ёй Зянон надае найбольш увагі ў развязцы твора, дзе ў калейдаскапічнай шчыльнасці адзін за адным прамінаюць нервовыя, зняможаныя рытмам «працы і змагання» пратаганісты, кожны з якіх трапна выражае меланхалічную тугу позняй БССР, як яна адлюстраваная ў дзённіках Караткевіча ці ў лістах Геніюш. Там жа тлумачыцца і назва рамана — адкуль яна паходзіць і што прыблізна абазначае.

Ужо дзеля гэтага раман варты пільнай увагі.

* * *

Джойс ставіўся да Ірландыі супярэчліва. Гэта была ягоная бацькаўшчына, але сельскі ідыятызм ірландскага жыцця быў яму невыносны. Ад яго ён ратаваўся не толькі за мяжой, але і ў сваіх раманах. Груваcткі «Уліс», з якога папраўдзе немажліва выйсці, або напісаныя няіснай, г.зн. фантастычнай, мовай «Finnegans Wake» — гэта таксама свайго роду ўцёкі.

Джойс быў прадстаўніком мадэрнізму.

Пазняк атэстуе свой «метад» як рэалізм. З публікі гучыць жарт: «Сацыялістычны».

Гэта не жарт.

Калі параўнаць герояў Пазняка з героямі Мележа — фармальна прадстаўніка таго самага сацыялістычнага рэалізму, — немагчыма не здзівіцца, наколькі ў Мележа яны самастойнейшыя. За выняткам, можа, Апейкі. Апейка ў Мележа — прадукт іканапісу, а не мастацкай прозы, узорна бездакорны ленінец, трапяткое, нават інтымнае выражэнне прынцыпу партыйнасці. Але прынцып народнасці ў Мележа пачасту перамагае партыйнасць. Міканор, зацяты, ваяўнічы бязбожнік 20-х, сеўшы за стол на Дзяды, раптам адчувае тагабочны змест гэтага звычаю, маўклівую прысутнасць тых, «хто даўно ўжо не прасіў яды». Башлыкоў, спаткаўшы Ганну, доўга і беспаспяхова змагаецца са сваім лібіда — і не паспявае, на жаль (з прычыны ранняй смерці самога Мележа), выблытацца са складанага ідэалагічнага павуціння партыйнай дысцыпліны, добраахвотнага пабытавага аскетызму і «сацыяльнай чысціні біяграфіі».

Мележ высноўвае простую думку аб тым, што калектыўныя ідэнтычнасці — ні ў якім разе не святочная адданасць аднойчы ўкладзенаму запасу ідэяў і прыхільнасцяў. Яны паўстаюць з чалавечай штодзённасці, якая блытае, збівае з панталыку; яны жывяцца са слабасці, з сумнення, з недаверу ў тым ліку. Зянон скарачіў гэтыя крыніцы і незаўважна для сябе скараціў заразом герояў і сюжэтную дынаміку.

У гэтым сэнсе Пазняк — больш сацыялістычны рэаліст, чым Мележ. У Пазняка — не дабраць розуму, як гэта ўвогуле магчыма ў мастацкім тэксце, — ніхто з хваравітых ценяў, якія ўдаюць з сябе персанажаў, — ніводзін не сумняваецца. «У нас, Раймусь, у Вялікім Княстве, было дванцаць адсоткаў шляхты і не было рабоў». На вайне як на вайне. Пад акупацыяй — як пад акупацыяй. Таму калі сказана, што культура — еўрапейская, а рабоў не было, дык прымаецца да ведама і выканання. Пра што спрачацца? Важна «разумець і ведаць душу беларускага народа», «пазнаваць творчасць на ніве роднай культуры».

Асаблівае неўразуменне выклікае сцэна ў цягніку Масква — Мінск. Байструк і начальнік Ёська едзе дадому, з ім у вагоне — маскоўскі дацэнт (натуральна, п'яны), які «к бульбошам собрался», «уму-разуму научить прідурков». У размове раптам высняецца, што нават ворагі беларушчыны вераць у тое, у што верыць Пазняк: у старабеларускую мову як адну з самых старажытных моў, на якой было створана права для ўсёй Еўропы.

* * *

Джойс не спрабаваў сфармуляваць «адзіную праўду». Дэвізам творчасці Джойса быў выраз «Маўчанне, каварства і выгнанне» («Silence, cunning and exile»), а не праўда. Тым не менш менавіта па «Улісе» Дублін можна будзе адбудоўваць наноў і нанoў.

Паводле рамана Пазняка ні Мінска, ні духоўнай атмасферы БССР 60-х не аднавіць.

Затое «Палын-палын» адлюстраваў тыя адмоўныя рысы, якія сёння абцяжарваюць многія творы беларускіх нацыяналістаў: адсутнасць крытычнай дыстанцыі, хранічную нястачу самаіроніі, зацятую адданасць абстрактным наратывам, процістаўленне «дэфектнага народа» шляхетнай эліце. У рамане адлюстраваліся і тыя ідэі, якія прывялі палітычную кар'еру Пазняка да самаразбуральнай дынамікі: яе ў нейкі момант пачала атручваць звычайная ксенафобія. Нібы ў люстэрку, гэтыя ідэі адбіліся ў рамане «Палын-палын».

# Хлопцы з суседняй вёскі

**Пра феномен Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі разважае гісторык Андрэй Вашкевіч.**



**Скідзельскія хлопцы на Каляды 1939-га (здымак з сямейнага архіва Валянціны Фёдараўны Сяўрук). Сярод іх — чатыры удзельнікі будучага Скідзельскага паўстання ў верасні 1939. Двое баранілі Польшчу ад фашыстаў. Чацвёра загінулі на фронце і адзін у нямецкім канцлагеры, адзін быў высланы ў Сібір за ўдзел у «беларускай самаахове», адкуль не вярнуўся.**

Гэтая гісторыя здарылася ў апошні год існавання «панскай» Польшчы ў адным заходнебеларускім мястэчку. Мясцовы начальнік паліцыі сабраў з навакольных вёсак хлопцаў, якія спачувалі камуністам або былі таемнымі сябрамі камсамола Заходняй Беларусі. Выстраіўшы іх у двары пастарунка, ён прачытаў пастанову, фармальна прынятую Камуністычным інтэрнацыяналам, а фактычна асабіста Сталіным, аб ліквідацыі Камуністычнай партыі Польшчы і кампартый Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны як яе складовых частак. Скончыўшы чытанне, паліцыянт сказаў збянтэжаным камсамольцам: «Усё, няма больш вашай партыі. А цяпер — па хатах».

Камсамольцы, канешне, не паверылі польскаму службоўцу. Буржуазная правакацыя! Двое найсмялейшых вырашылі ўцякаць у БССР. Тыдзень дарогі на ўсход — і яны трапілі пад прыцэлы вінтовак савецкіх пагранічнікаў.

Начальнік савецкай заставы паслухаў пра цяжкае жыццё пад панамі, пра камсамольскую працу і сказаў: «Хлопцы, вы больш патрэбныя для рабоча-сялянскай справы там, адкуль прыйшлі». І паслаў пад канвоем назад.

Камсамольцы вярнуліся ў сваю вёску. Паліцыя ўжо ведала пра няўдалы паход, хлопцаў выклікалі да таго самага начальніка, што чытаў ім пра ліквідацыю КПЗБ. Той доўга моўчкі глядзеў на іх і пасля ці то запытаў, ці то канстатаваў: «Ну што, схадзілі?!»

Герояў гэтай гісторыі чакалі цяжкія выпрабаванні: пачатак вайны, партызаншчына, фронт, паўпрымусовыя камандзіроўкі на будаўніцтва прамысловых аб'ектаў на прасторах Савецкага Саюза, але яны ніколі не забылі пра таго суровага начальніка пагранічнай заставы, які, рызыкуючы сабою, адправіў патэнцыйных шпіёнаў назад у Польшчу, выратаваўшы іх ад савецкага лагера або нават расстрэлу.

Гаварыць пра КПЗБ ізноў стала можна толькі пад канец 1950-х, калі нешматлікія ацалелыя партыйцы пачалі патроху хадайнічаць аб персанальных пенсіях (сціплыя 26 рублёў у параўнанні да мізэрных 12 рублёў звычайнага калгасніка) ды выступаць перад мясцовымі піянерамі. Але асаблівага даверу ад уладаў яны так і не дамагліся. Стралок па правакатарах Сяргей Прытыцкі тут, хутчэй, выключэнне з правіла. Нават Уладзімір Царук, капээзбовец, а пасля легендарны партызанскі камандзір Дзядзя Валодзя, пасля вайны быў толькі раённым начальнікам. Рэшта даўжыла ў сваіх вёсках ды гарадках.

А ў 1920-я ж гэтыя заходнебеларускія хлопцы былі ўдарнай сілай «еўрапейскага пралетарыяту». Створаная ў канцы 1923-га Камуністычная партыя Заходняй Беларусі ўвабрала ў сябе пераважна яўрэйскія местачковыя ячэйкі Камуністычнай партыі Польшчы (КПП) ды беларускія вясковыя гурткі эсэраўскай Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі.

У пачатку 1927-га прыкладна з 7 тысяч сяброў КПП уласна да польскай кампартыі належалі 2500 чалавек, сябрамі КПЗУ

# Хлопцы з суседняй вёскі




Сакратар раённай арганізацыі КПЗБ Казімір Рагачэўскі з вёскі Зарубічы каля Індуры да 1933-га некалькі разоў уцякаў ад польскай паліцыі, скалечыўшы і забіўшы некалькі паліцыянтаў. Акружаны, ці то застрэліўся, ці то быў забіты. У праваслаўных вёсках на поўдзень ад Гродна стаў героем, пра яго спявалі песні.




Каб трапіць у турму па палітычным артыкуле, зусім не трэба было быць дарослым капэзэбоўцам. Як прыклад — гэты 13-гадовы Сцяпан Жук.

было каля 1000 асобаў, а вось у КПЗБ было амаль 3500 сялян і рабочых паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы. Выходзіць, што на тэрыторыі, дзе жыло 15% насельніцтва Другой Рэчы Паспалітай, была сканцэнтраваная палова ўсіх фармальных камуністаў краіны.

Гэтыя лічбы сведчаць пра вялікую радыкалізацыю мясцовага насельніцтва і паказваюць, што беларусы былі асноўнай «баявой масай» польскіх камуністаў. Нездарма Міхал Гурын спрабаваў стварыць з КПЗБ асобную камуністычную партыю, падпарадкаваную непасрэдна Камінтэрну. Але Сталін аддаваў перавагу ў кіраўніцтве сваёй кампартыяй палякам, а не нейкім сялянскім радыкалам з Крэсаў. Напрыклад, у 4-м з'ездзе КПП, які праходзіў летам 1927, удзельнічалі 26 палякаў, 11 яўрэяў, 5 украінцаў і толькі 2 беларусы. Няхай часткова КПЗБ на гэтым з'ездзе прадстаўлялі яўрэі, але ж відавочна, што беларуская масоўка ў кіраўніцтве быццам інтэрнацыянальных камуністаў яўна дыскрымінавалася па нацыянальнай прыкмеце.

Тэзу аб апанаванасці кампартыі яўрэямі падхапіла большасць цяперашніх польскіх гісторыкаў-публіцыстаў. Вазьму на сябе смеласць сцвердзіць, што галоўную скрыпку ў КПП і, адпаведна, у КПЗБ ігралі найперш палякі. Наогул, нават БССР першай паловы 1920-х выглядае збольшага як менавіта польскі праект бальшавікоў, такі плацдарм для новага рыўка сусветнай рэвалюцыі на захад.

Ян Ольскі, Вацлаў Багуцкі, Адам Славінскі, Станіслаў Скульскі, Юзаф Апанскі, Станіслаў Пінталь — спіс палякаў-кіраўнікоў БССР можна працягваць, прычым палякі займалі кіруючыя пасады ў сілавых структурах. Беларусам аддавалі ролю масоўкі або культурныя пасады.

Яўрэяў у КПЗБ было сапраўды шмат. І гэта зразумела, бо мястэчковая і гарадская яўрэйская рабочая маса часта станавілася на бок найбольшых радыкалаў. Што ж, цяпер за яўрэяў можна толькі парадавацца, што найлепшыя прадстаўнікі гэтага народа ў свой час зрабілі стаўку не толькі на камунізм, але і на сіянізм. Пра апошняе падумалася, калі я прачытаў артыкул пра ўнучак вядомага гродзенскага капэзэбоўца Лазара Шайкоўскага. Дзяўчаты з'яўляюцца не толькі грамадзянкамі Ізраіля, але і адслужылі ў войску гэтай краіны.

У КПЗБ ішла пераважна моладзь. І то былі дзеці не толькі звычайных сялян, але і цалкам свядомых і актыўных у нацыянальным плане бацькоў. Тут нават удаецца пабачыць некаторы канфлікт пакаленняў. Так, у Падбагонніках на Бераставіччыне жыў былы народны настаўнік і досыць вядомы фатограф Раман Салавей. Ён узначальваў мясцовы гурток Беларускай сялянска-работніцкай грамады і з камуністамі сувязяў не меў, затое ягоны сын Барыс быў камсамольцам. Пасля таго, як моладзь улетку 1929 г. разграміла паліцыю на мітынгу ў Алекшыцах, яму прыйшлося ўцякаць у БССР. Там ён атрымаў адукацыю, працаваў у Крычаве на цэментным заводзе. У адну ноч у сярэдзіне 1930-х гг. Барыс Салавей назаўсёды знік — ці то быў расстраляны, ці то загінуў у лагеры.

Самы цікавы прыклад — сям'я заходнебеларускага паэта Валянціна Таўлая. Малады Таўлай быў сябрам КПЗБ, гады прасядзеў у польскай турме, а ягоны бацька Павел Таўлай узначальваў гурток Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Рудаўцы. Мачаха Валянціна Таўлая кіравала прыватнай беларускай школай, якую фінансавалі ксяндзы Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі.

Моладзь заўсёды была больш гарачай і кідалася ў абдымкі радыкальных арганізацый, накшталт КПЗБ. Моладзі здавалася, што народы «пры Камуне» знікнуць назаўсёды, дый сялянскае жыццё ў малазямельнай беларускай вёсцы не абяцала перспектываў. Польскія ўлады ж вымывалі найбольш пасіянарных персанажаў. Гэта добра бачна па тым, што за забойства падчас бойкі на танцах даваліся значна меншыя тэрміны, чым за «камунізм». Таму самыя гарачыя галовы з камуністаў непазбежна або паміралі ад сухотаў у турме, або ўцякалі ў БССР, або гінулі ў акружэнні польскай паліцыі.

Гісторыяй КПЗБ цяпер сур'ёзна не займаецца ніхто. Старэйшыя даследчыкі адышлі, а ў іх працах КПЗБ падаецца так, нібы ўся яе дзейнасць будавалася выключна на загадах з Масквы. Між тым я перакананы, што гісторыя КПЗБ — гэта частка гісторыі нацыянальна-вызвольнага руху. Капэзэбоўцы былі людзі пераважна вельмі сумленныя, але падманутыя. Найлепшыя з іх заўсёды адчувалі сябе часткай нацыянальных сілаў і заслугоўваюць таго, каб застацца ў нашай гісторыі.

Пілсудзкі арганізуе вайну супроць Савецкага Саюзу. Працоўныя масы на абарону СССР!



На рабочыя дзяржавы,
На расправу камуністаў
Точы зубы гад крывавы.
Зубы гада выб'ем чыста!
Каб ня піў крыві пан люты,
Скрышым мы фашызма путы!




КПЗБ выйгравала барацьбу за масы з «буржуазнымі» беларускімі партыямі. Такімі лістоўкамі, надрукаванымі на дарагой «рысавай» паперы, былі завалены ўсе заходнебеларускія вёскі. Усё гэта друкавалася ў БССР, а пасля нелегальна перакідвалася праз мяжу ў Польшчу. Выдавалася нават спецыяльная газета «Весткі з СССР». Вось што ў пачатку 1936 расказвала на яе старонках сялянка Э.Кульба, цялятніца калгаса «Чырвоныя Скарынічы»: «Я выпрацавала 600 працадзён, дастаю за іх 2100 кілаграмаў рознага збожжа, 1200 кг бульбы і 360 рублёў грашамі. Летась пабудавала новы дом. Купляю: дзіван, добрыя крэслы, шкаф на адзёжу, патэфон, дзіцячы веласіпед для сына Толіка. Будую стадолу для сваёй жывёлы. Зімою буду вучыцца ў калгаснай школе, а вясной — да працы».

# Ксяндзоў расстрэльвалі, каб справакаваць тэрор у адказ

Яшчэ адну старонку паўстання 1863—1864 прыадчыняе гісторык **Васіль Герасімчык.**

*«Палякі не верылі, што я наважуся на гэта; але калі пабачылі выкананне гэтага на справе, а не на словах, усіх іх апанаваў страх».*
**Міхаіл Мураўёў**

За ўдзел у паўстанні 1863 года, згодна з афіцыйнымі звесткамі, расейскія ўлады пакаралі 447 святароў у Беларусі і Літве (сярод іх 14 праваслаўных). Яшчэ сямёра каталіцкіх ксяндзоў былі расстраляныя і адзін павешаны. Паўстанцы адказвалі тым самым: каталі праваслаўных святароў, чатырох забілі. Няма апраўдання гэтым забойствам! Удзельнікі тых злачынстваў назаўсёды заплямілі свае імёны перад нашчадкамі! Аднак першым у спісе вінаватых стаіць імя Міхаіла Мураўёва Вешальніка.



### «Выдаленне штучнага наноса»

Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, якога ў маі 1863 года імператар Аляксандр II накіраваў душыць паўстанне, мэтаскіравана справакаваў гэтыя забойствы. Мураўёў ставіў за мэту не проста «задушэнне мецяжу», а, як сам казаў, «выдаленне штучнага наноса» на тутэйшай «рускай зямлі». Такім наносам яму бачылася мясцовая шляхта польскай культуры. Культуры, праваднікам якой выступала каталіцкае духавенства.

Свае мэты Мураўёў акрэсліў у «Нататках», прадыктаваных незадоўга да смерці. Доўгі час расійскія ўлады не рызыкавалі іх надрукаваць, гэта адбылося толькі праз 14 гадоў. Кніжка — своеасаблівы адпаведнік гітлераўскай «Маёй барацьбы», дзе з халодным цынізмам паказана, як Мураўёў правакаваў паўстанцаў тэрорам на тэрор, каб такім чынам апраўдаць усю ганебнасць метадаў расійскай рэпрэсіўнай палітыкі ў дачыненні да тутэйшага насельніцтва.

Даследчыца Валянціна Яноўская адзначае: «Абвастрэнне дачыненняў паміж праваслаўным і каталіцкім лагерам правакавалі царскія ўлады, каб апраўдаць выкарыстанне суровых метадаў для задушэння паўстання».

Мураўёў разумеў патэнцыял рэлігійнага канфлікту, асабліва ва ўмовах так званага «Северо-Западного края», і імкнуўся на яго глебе падзяліць тутэйшае насельніцтва, каб зняць нават магчымасць салідарнага антыімперскага выступлення ў будучыні. Гэта пацвярджаецца не толькі думкамі Мураўёва, занатаванымі са словаў напаўсляпога генерал-губернатара яго сакратаром незадоўга да смерці. Але і фактамі.

### «Неабходныя ахвяры»

3 чэрвеня 1863 у Вільні расстралялі ксяндза Жалудоцкага касцёла Лідскага павета Станіслава Ішору. У віну яму паставілі чытанне паўстанцкага маніфеста і падбухторванне сялян да супраціву расійскім уладам. Вынікам стала адпаведная рэакцыя: ужо ўвечары па Беларусі шырока пайшла пагалоска, што Мураўёў забівае ксяндзоў. І гэта справакавала (у разуменні Мураўёва — «неабходныя ахвяры»): паўстанцы забілі ў ноч з 3 на 4 чэрвеня праваслаўнага святара Канстанціна Пракаповіча ў Суражы Беластоцкага павета Гродзенскай губерні, а 4 чэрвеня — святара Данііла Канапасевіча ў вёсцы Багушэвічы Ігуменскага павета Мінскай губерні.

5 чэрвеня Мураўёў зрабіў ход у адказ: у Вільні па яго загадзе расстралялі Раймунта Зямацкага. Рэакцыяй паўстанцаў было павешанне 13 чэрвеня псаломшчыка Крыжаўздзвіжанскай царквы вёскі Святая Воля Пінскага павета Мінскай губерні Фёдара Юзэфовіча. Тады 25 чэрвеня ў Лідзе па прысудзе расійскіх уладаў расстралялі ксяндза Адама Фалькоўскага, а 15 ліпеня паўстанцы павесілі ерэя Рамана Рапацкага ў вёсцы Котры Пружанскага павета Гродзенскай губерні.

У далейшым паўстанцы не дазвалялі сабе вешаць праваслаўных святароў, бо зразумелі, што гэта адштурхоўвае ад іх тутэйшае сялянства. Аднак расійскія ўлады, кіраваныя Мураўёвым, працягвалі рэпрэсіўныя дзеянні, намагаючыся справакаваць паўстанцаў да больш радыкальных учынкаў: 14 жніўня расстралялі ксяндза Ісідора Нарэйку, 23 жніўня — Тэафіла Рачкоўскага, 19 кастрычніка — Антонія Гаргаса. Як кажа паданне, ксяндзы Нарэйка і Гаргас добраахвотна пайшлі на смерць замест паўстанцаў, у якіх былі сем'і.

28 снежня быў павешаны адзін з лідараў паўстання — ксёндз Антоній Мацкевіч, а апошнім у гэтым ліку стаў расстраляны 13 красавіка 1864 у Сувалках Ежы Дайліда.

### «Скаланулася ўся Вільня»

Ксяндзу Жалудоцкага касцёла Станіславу Ішору, які стаў першай ахвярай сярод каталіцкага кліру, было 25 гадоў. Ён нарадзіўся ў 1838 у вёсцы Цасарка Віленскага павета ў сям'і Станіслава Ішоры і Марыі Шантыр. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, пасля заканчэння якой паступіў у Пецярбургскую духоўную семінарыю. У 1861 быў высвечаны на вікарыя ў парафіі Жалудок Лідскага павета. Менавіта тут 8 лютага 1863 ён зачытаў паўстанцкі маніфест, пасля чаго далучыўся да атрада Людвіка Нарбута.

Улады абвінавацілі ў чытанні маніфеста пробашча Жалудоцкага касцёла, якому пагражала цяжкае пакаранне. Таму Ішора, каб зняць прысуд з невінаватага чалавека за свой учынак, добраахвотна здаўся ўладам. Пасля арышту яго асудзілі на 5 гадоў катаргі. Але Мураўёў асабіста замяніў яму катаргу на расстрэл.

«Акружаны салдатамі, бадзёра ішоў высокі малады ксёндз прыемнай знешнасці», — узгадваў сведка тых падзей, інспектар Віленскай гімназіі В. Кулін.

Ішору правялі па вузенькай Дамініканскай вуліцы пад канвоем жандармаў і казакоў. На відовішча прыйшло паглядзець 20 тысяч чалавек. «Скаланулася ўся Вільня. З самага ранку па вуліцах, кірмашах і плошчах б'е барабан: абвяшчаюць пра смяротнае пакаранне — яно будзе сёння ж. На вуліцах незвычайны рух — усе імкнуцца ў адзін бок, на прадмесце Лукішкі, дзе павінна адбыцца пакаранне. З натоўпам народу бягу туды ж. Вось і плошча з фатальным слупам — уся залітая народам; на акаляючых яе вышынях бачныя шматлікія групы жанчын у жалобе. Пачуліся воклічы: «Вядуць, вядуць!» Наступілі страшэнныя хвіліны. Сэрца б'ецца пачашчана, цяжка дыхаецца. Чытаюць прысуд; шматтысячны натоўп як бы анямеў. Раздаўся залп, за імі стогны жанчын...»

Адразу ж на загад Мураўёва вестка пра кару была распаўсюджаная па Беларусі і Літве. У спецыяльна аддрукаваных аб'явах на рускай і польскай мовах Станіслаў Ішора называўся адным з завадатараў паўстання, які «забыў святое сваё прызванне, прысягу на вернападданства і святы свой абавязак садзейнічаць ураду ва ўсталяванні парадку і спакою ў краі», «прапаведуючы нянавісць да ўрада, падманам і паклёпам распальваючы ў сваёй пастве запал, не толькі дабраслаўлялі яе на забойства, але самі, са зброяй у руках, з'яўляліся на чале мяцежніцкіх хеўраў».

### Другая ахвяра

Усяго праз два дні, 24 мая, у 11 гадзін на Лукішскай плошчы былі расстраляныя ксёндз Лідскага павета Раймунд Зямацкі і шляхціц Альберт Лясковіч, таксама абвінавачаныя ў чытанні сялянам паўстанцкага маніфеста. 53-гадовы ксёндз быў арыштаваны 4 сакавіка лідскім вайсковым начальнікам падпалкоўнікам Пініцкім. У следчай камісіі Зямацкі спрабаваў даказаць, што дзейнічаў не па сваёй волі. Два сведкі пацвердзілі, што ксёндз чытаў маніфест пад пагрозай смерці. Але Мураўёў не ўбачыў падстаў для змякчэння прысуду. Відавочца ўспамінаў: «...Зямацкі — высокі, прыгожы ксёндз з блакітнымі вачыма, у якіх блішчала натхненне... памёр мужна, ён увесь час ішоў цвёрдым крокам, не глядзеў ні на кога, толькі на неба, і да апошняй хвіліны то ціха, то гучна маліўся». Палкоўнік Лосеў узгадваў: «У час хады злачынцаў на месца пакарання, сабралося шмат народу, асабліва польскіх жанчын, якія крычалі, плакалі і падалі, страціўшы прытомнасць, але парадку нічым не парушалася». «Але пакаранне гэтае не мела на жыхароў такога ўражання, як першае».

Пасля гэтага пакарання Мураўёў падпісаў «Аб'яву сельскім абывацелям губерняў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай», паўтары тысячы копій якой былі распаўсюджаныя толькі на Гродзеншчыне. У ёй скарыстаныя найлепшыя метады піяру: з аднаго боку, Мураўёў заклікае сялян не падпарадкоўвацца памешчыкам у сувязі з тым, што ласкаю імператара дараваная воля пасля адмены прыгоннага права, а з другога — залічвае да ворагаў гэтай волі не толькі «памешчыкаў польскага паходжання», але і ксяндзоў, заклікае сялян неадкладна выдаваць вайсковым камандам гэтых падбухторшчыкаў, а таксама аб'ядноўвацца ў каравулы.

### «Укінулі цела ў яму і залілі вапнай»

А 24 чэрвеня ў Лідзе быў пакараны смерцю 53-гадовы ксёндз Ішкальдскага касцёла Адам Фалькоўскі, ураджэнец Бельскага павета. Апісанне пакарання, зробленае ксяндзом-дэканам Гіпалітам Баяўрунцам, прыводзіць у сваёй новай кнізе «Паўстанчы дух» знаўца гісторыі Лідчыны Леанід Лаўрэш: «...каля 6 гадзін раніцы с.п. ксёндз Адам Фалькоўскі ішоў на месца страты засяроджаны і чытаў малітвы з кантычкі. Яго прывялі з Лідскай вязніцы да месца, дзе была выкапана яма і падрыхтавана свежая вапна ў вялікай бочцы. Яму зачыталі смяротны вырак, пасля чаго прывязалі да слупа і завязалі вочы. Грымнуў залп з казацкіх карабінаў. Ксёндз абвіс, мёртвы, потым яго адвязалі, укінулі цела без труны ў яму і залілі вапнай. Магілу закапалі, эскадрон казакаў на конях зацёр усялякі след магілы. Наш люд ціха назіраў і, стоячы ў розных пунктах, перасячэннем ліній акрэсліў месца магілы, а пасля адыходу катаў абклаў магілу камянямі. Паліцыя шматкроць раскідала каменне, але наш добры народ заўсёды пазначаў тое месца чатырохвугольнікам з камянёў... У 1919 годзе лідскія чыгуначнікі пры ўдзеле лідскіх абывацеляў задумалі ўшанаваць магілу ксяндза і паставіць помнік. Чыгуначнік Стэфан Лоўкс зрабіў крыж з жалезных труб і падрыхтаваў цэмент. Трэба было адшукаць магілу. Жывыя сведкі падзей сталі на тыя самыя месцы, як у 1863 годзе, і на скрыжаванні ліній знайшлі магілу. Пры капанні ямы пад фундамент помніка натрапілі на камяні, а глыбей — на вапну». З прыходам Савецкай улады помнік гэты быў разбураны і адноўлены толькі ў 2010.

### Касцёл на мяжы выжывання

Мураўёўскі тэрор паглыбляўся, і кіраўніцтва Каталіцкай царквы не знайшло нічога лепшага, як звярнуцца да сваёй паствы з заклікам: «Безумоўна скарайцеся волі Усеаўгусцейшага Нашага Манарха, памятаючы заўсёды: што край наш складае адно непадзельнае цэлае з Расіяю. Пакіньце ўсялякі супраціў і непаслушэнства...»

Перад Касцёлам стала задача захаваць сваю структуру ў Беларусі і Літве. У дачыненні да яго святароў прымяняліся больш жорсткія пакаранні, чым у адносінах да свецкіх асобаў за тыя ж самыя ўчынкі. Нават веданне пра ўдзел прадстаўнікоў паствы ў паўстанні ставілася ў віну святарам. Так, ксёндз Горы-Горацкага земляробчага інстытута Аляксандр Манюшка, які ведаў праз споведзі маладых людзей пра падрыхтоўку выступлення, але не данёс уладам, быў пазбаўлены сану і высланы ў Томскую губерню. І такія выпадкі былі скрозь.

Згодна з падлікам даследчыка Уладзіміра Зайцава, быў пакараны кожны 16-ты прадстаўнік каталіцкага кліру на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Паўстанне 1863—1864 гадоў прывяло Касцёл на мяжу выжывання. Цяпер не магло ісці гаворкі нават пра найменшыя праявы нелаяльнасці да ўлады Расійскай Імперыі.



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Навагодняя ноч

Піша **Зміцер Дашкевіч**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Зімой у ізалятары часовага ўтрымання большасць арыштантаў ходзіць у камеры без абутку. Бо заўсёды зімовы абутак мае супінатары — жалезныя пласціны на падэшве, якія служаць умацаваннем канструкцыі. Наглядчыкі прапаноўваюць кожнаму затрыманаму выламваць супінатары ці забараняюць хадзіць у камеры ў абутку. Лічыцца, што будучы зэк можа ў камеры дастаць супінатар, зрабіць з яго зброю, ці прарэзаць ім дзіру ў сцяне ды збегчы, ці перарэзаць канваіраў і яшчэ раз збегчы.

Мне драць боты было шкада, і я хадзіў у камеры босы. Вядома, гэта трохі непрыемна, тым больш калі камера брудная. «Бруд можна адмыць!» — скажа рафінаваны чысцюля. Я і сам чысцюля, хоць і не рафінаваны. Я спрабаваў мыць. Спачатку я адмыў першую камеру і зажыў шчасліва. На наступны дзень мяне перавялі ў іншую, загаджаную яшчэ болей, — я сумна агледзеўся і ўзяўся мыць наноў. На трэці дзень мяне перавялі яшчэ раз, і я пераканаўся, што з мяне проста здзекуюцца. А можа, начальства кічы[1] проста прасекла, што ў ізалятары з'явіўся дарэмны прыбіральшчык і ім можна перамыць усе 40 камер. Але я абазліўся і больш нічога не мыў, а мяне ўсё працягвалі пераводзіць з камеры ў камеру ледзь не штодня.

31 снежня, на 14-я суткі, мяне закінулі ў камеру на першым паверсе, хаця дагэтуль увесь час я прасядзеў на трэцім. І якая ж была мая радасць, што на ўваходзе ў яе наглядчык не запытаўся пра супінатары ў ботах, і я праскочыў у клетку абуты. Гэта была камера на два месцы, таму святлейшая і чысцейшая за ўсе астатнія, у якіх я быў. Апроч мяне, у новай хаце[2] больш нікога не было, і я пачаў радасна праходжвацца ў чаканні таго, з кім сустрэну новы, 2011, год. Сустрэць Новы год у ботах і ў камеры, дзе не вісіць два метры дыму, — гэта быў сапраўдны падарунак турэмнага лёсу. «Эх, яшчэ б і кабанчык[3] зарохкаў пад дзвярыма — было б зусім шыкоўна!» — падумаў я грэшным чынам.

– Дашкевіч! — прапішчаў жаночы голас у толькі што адчыненую кармушку.

— Зміцер Вячаслававіч! — падскочыў я радасна ў прадчуванні навагодняе перадачы.

Трэба сказаць, што ў камеры перадача — гэта перадусім не ежа. Тым больш калі цябе зусім нядаўна пасадзілі і ты шчэ не паспеў скінуць дваццаць працэнтаў вагі. Перадача — гэта вітанне ад родных і сяброў. Гэта напамін пра тое, што цябе любяць, пра цябе памятаюць, за цябе змагаюцца. А ў гэтыя акаянныя дні снежня 2010-га перадача — гэта яшчэ і інфармацыя аб тым, хто застаўся жывы на фронце. Спіс атрымоўваўся не самы вясёлы, і ў ім за 14 сутак назбіралася тры прозвішчы: Марына Лобава — маці сябра майго Эдуарда, з якім мяне і арыштавалі; Наталля Ясевіч — маці майго брата Змітра Ясевіча; і Таццяна Шапуцька — маладафронтаўская зорка, якая на волі, відаць, толькі таму, што муж ейны, Глеб Лабадзенка, ні на крок на Плошчы-2010 ад жонкі сваёй не адыходзіў.

— Ад каго перадача? — прагучала заўсёднае пытанне.

— Адкуль я ведаю?! — нервова ўсіміхнуўся я, нахіліўшыся да кармушкі.

Пытанне гэтае вырубала мяне заўсёды: адкуль я ці любы іншы арыштант мог ведаць, ад каго перадача?

– Ад любай? — не ўгамоньвалася канваірка.

— Можа быць, — яшчэ больш нервова адказаў я.

— А што, хіба не я твая самая любая?! — абурылася паненка на прадоле[4].

Дзеля такой справы я прысеў на кукішкі і лацвей выглянуў у кармушку. На калідоры стаяла наглядальніца па мянушцы Бандыты. Яна заўсёды, калі раздавала ежу, адчыняла вочка дзвярэй і крычала з таго боку калідора: «Бандыты, колькі вас тут?» Потым, разліваючы суп у алюмініевыя шлёмкі[5], казала: «Бандыты, мыйце за сабою талеркі!» Пры добрым настроі магла прапанаваць: «Бандыты, каму дабаўкі?» Так яе і празвалі — Бандыты.

Я акінуў вокам постаць «бандыткі». Хударлявая дзяўчына ў міліцэйскай форме стаяла трохі павярнуўшы і адставіўшы ўбок правую нагу, левую руку паклала на сцёгны, а ў сагнутай правай руцэ трымала цыгарэту, ад якой белай тонкай стужкай струмяніўся дымок. Гледзячы на мяне, яна зацягнулася, выдыхаючы дым, прыплюшчыла адно вока і перапытала яшчэ раз, жартаўліва гледзячы на мяне зверху ўніз:

— Што, не я самая любая?

— Канечне, ты, — расплыўся ва ўсмешцы і я ды, вытрымаўшы паўзу, каб гэта не выглядала нахабна, працягнуў думку: — Давай перадачу.

Бандытка спрактыкаваным рухам рукі ляснула назад кармушкай, пазвінеўшы засаўкамі, адчыніла дзверы і, паказваючы на пакунак ля камеры, усё з той жа ўсмешкаю дала дазвол:

— Забірай!

— Дзякуй! — падміргнуў я ёй і ўцягнуў у хату цёпленькага кабанчыка.

Спіс мой папоўніўся чацвёртым імём — Касі Галіцкай (цяпер яна Васільева). Кася ўваходзіла ў групу «пантэраў» — так Павал Севярынец акрэсліў сяброўскае кола Касі Галіцкай, Касі Красновай, Людвісі Атакулавай і Насты Палажанкі, якія цягам 2007 года ўзвалілі на свае дзявочыя плечы поўную адказнасць за Малады Фронт. Пакуль сам я прахалоджваўся першым тэрмінам у Шклоўскай калоніі, дзяўчаты з падраздзялення «Пантэры» праводзілі пікет за акцыяй, а акцыю за пікетам — і на сутках за паўтара гадочкі выкацілі столькі, колькі многія барацьбіты з рэжымам за ўсю сваю біяграфію не выкатвалі. І хто-хто, а Кася дакладна ведала, што і ў якой колькасці трэба арыштанту.

Я перабіраў перадачу, радаваўся тапкам — цяпер няма патрэбы хадзіць босым, захапляўся кнігаю пра сабачак — зараз я буду ведаць усё пра пароду хаскі з 5-ай групы FCI, плакаў над мандарынамі — будзе і ў мяне сапраўдны Новы год. Я нават не адразу пачуў ціха адчыненую кармушку.

– Дашкевіч! — прыкрыкнуў прадольны.

— Зміцер Вячаслававіч, — азваўся я, падскочыўшы да кармушкі.

— Перапісвай усё ў двух асобніках, — паклаў ён на кармушку дзве паперкі, — што не запішаш, тое на этап не прапусцяць.

Я ўзяў невялікія аркушыкі, і кармушка ляснула. Гэта былі адмысловыя бланкі вопісу маёмасці перад этапам. Гэта азначала, што дарэмна я ствараў святочную атмасферу і раскладваў мандарынавыя лупіны па камеры — новы год я буду сустракаць зусім у іншым месцы, мяне чакае этап.

* * *

З торбаю ў руцэ я зайшоў у пакой і адразу яго пазнаў. У гэты ж пакой мяне заводзілі ў 2006 годзе, калі я з іншымі сутачнікамі абкатваў новы будынак. Пакой быў шырокі — метраў восем на восем, пасярод яго месцілася шэсць састаўленых сталоў, насупраць выхаду цямнелі два закратаваныя вокны, а па баках было па чатыры маленькія камеры — стаканы[6].

Тады, у сакавіку 2006-га, нейкія праваабаронцы прабраліся ў рэжымную ўстанову, завалілі гэтыя сталы гуманітаркай — ежай і вопраткай, а потым прапаноўвалі кожнаму сутачніку ісці і выбіраць сабе што патрэбнае. Гэта было нечувана ні да таго, ні пасля, і я больш такога ніколі не бачыў. Канваіры заводзілі арыштантаў па адным, пакідалі ў пакоі з прадстаўнікамі гуманітарнай місіі, і можна было набраць сабе прадуктаў, рэчаў і пагаманіць. Я нават папрасіў тады тэлефон і набраў некаторым сябрам. Праўда, мне ніхто не паверыў, што гэта тэлефаную я, але ўсё роўна было прыемна.

Цяпер жа я мусіў азнаёміцца з сапраўдным прызначэннем гэтага кабінета. Уздоўж сталоў стаяў канвой — чатыры смаркатыя салдацікі тэрміновай службы. Побач з кожным з іх стаяў дагляданы арыштант, а пастпаючых на этап будучых зэкаў закрывалі па стаканах, дзе тыя чакалі чаргі на шмон[7]. У адзін са стаканаў завялі і мяне. Я прыціснуў вуха да тармазоў[8] – за дзвярыма адбываўся пачарговыператрус этапаваных. Кожны адшмананы выходзіў у калідор і станавіўся ў шэраг тварам да сцяны, а канваір выгукваў прозвішча наступнага арыштанта, які, пачуўшы сваё імя, грукаў у дзверы — і яго выводзілі на надгляд.

«Стрэчань!» — падалося мне знаёмым прозвішча, і я паспрабаваў лацвей прыклеіць вуха да дзвярэй. «Стрэчань!» — гукнулі праз паўзу ізноў, але ніхто не адгукаўся грукатам у дзверы. Потым пракаціўся трохпавярховы, за ім пяціпавярховы, і канваір пайшоў абыходзіць стаканы, ляпаючы ў кожны і запытваючы прозвішча. «Стрэчань!» — ляпнула дубінка і ў мае дзверы. «Не», — адказаў я. «Стрэчань!» — удар у суседнія, на што наведнік стакана незразумела прамармытаў. Дзверы, суседнія з грукатам, адчыніліся і пад раскаты трох-, пяці- і сяміпавярховых брыдкаслоўяў быў выведзены арыштант: «Ты глухі ці як?!» — гаркнулі пад маімі дзвярыма, але ў адказ ізноў пачулася мармытанне.

«Дзіўна, — падумаў я, — супадзенне ці ён?» — «Ды няхай, што тут гадаць, усялякае можа быць», — разважыў я і, упёршыся лбом у дзверы, чакаў свайго прозвішча і гадаў пра будучыя свае лёсы.

«Раздзявайся!» — абыякава кінуў салдацік у празрыстых медычных пальчатках, калі я падышоў да стала. Я скінуў на стол усё і застаўся толькі ў портках, але, не чакаючы наступнай каманды, прыспусціў іх і тры разы прысеў. Было бачна, што служываму прыемна працаваць з дасведчанымі людзьмі, і ён прыязна сказаў: «Адзявайся», — і паклаў на стол бліжэй да мяне шкарпэткі. Пакуль я адзяваў іх, ён узяўся за мае боты і, сагнуўшы адзін напалам, запытаў.

— З супінатарамі?

— Так, — адказаў я.

— Ведаеш, што ў турму ў такіх не прапусцяць?

— Ведаю.

— Трэба выламваць.

— Выламвай, — выдыхнуў я, вылаяўшы сябе за тое, што дарма два тыдні мучаўся ў шкарпэтках на бруднай падлозе. Усё адно выратаваць абутак ад вандалізму было немагчыма.

Салдацік дастаў сцілку, узяў адмысловы разец і прафесійна выкалупаў па чарзе два супінатары з маіх ботаў — цяпер я мог легальна іх насіць, і ніводзін турэмшчык не пабаіцца за сваё жыццё і здароўе. Медычныя пальчаткі пачалі далей правяраць маю адзежу, не вельмі ўважліва прамацваючы швы, а я паступова апранаўся ў санкцыянаваныя рэчы. Хутка было праверана начынне маёй невялічкай торбы, і я атрымаў загад выходзіць на калідор, на якім па правы і левы бок тварам да сцяны стаяла два шэрагі этапаваных. «Сюды, торбу перад сабой, рукі за спінай!» — загадаў

[1] Кіча — абрэвіятура беларускага паходжання, утварылася ад ІЧУ — ізалятар часовага ўтрымання.

[2] Хата — камера.

[3] Кабанчык, кабан — прадуктовая перадача.

[4] Прадол — турэмны калідор.

[5] Шлёмка — талерка.

[6] Стакан — маленькая камера, звычайна каля метра на метр, звычайна адзіночная. Прадугледжана для кароткатэрміновага змяшчэння затрыманага перад шмонам, сустрэчай з адвакатам.

[7] Шмон — дагляд рэчаў ці цела.

[8] Тармазы — дзверы камеры.

мне адзін з наглядчыкаў і тыцнуў дубінкай ля сцяны.

* * *

– Як прэзідэнт едзем — з мігалкамі і суправаджэннем, — паважна расцягнуў словы адзін з насельнікаў нашай клеткі.

— Вось прэзідэнта хай бы і вазілі, а нас за што?! — абурыўся іншы пад вясёлы гогат не вельмі і сумных арыштантаў.

— Ану цішэй там! — прыкрыкнуў дзеля віду старшынка.

Дзеля віду, бо канваір і інструкцыю перавозкі зэкаў выканаць мусіць, і сам разумее, што зрабіць ён з намі наўрад ці нешта можа — так шмат нас сюды ўціснулі.

Дзеля эканоміі паліва ўпіхнулі нас у аўтазак чалавек 25. Іншы скажа, што бывала і болей — і я згаджуся, сам 30-м у клетку заціскаўся. Вядома, кожны беларус, яки паважае сябе, ведае колькасць камер аўтазака, але, зважаючы на мажлівых чытачоў іншай народнасці, мусім паўтарыць, у аўтазаку 5 камер. Калі стаяць у ім тварам да кабіны, то дзве адна-, двухмясцовыя за жалезнымі дзьвярыма — справа, а за імі адразу — дзверы ў аўтазак, дзве недзе двух-, трохмясцовыя з жалезнымі дзвярыма злева, і адна васьмі-, дзесяцімясцовая з кратаванымі дзвярыма ў канцы аўтазака — разам на зэкаў 14 ці 20 самае большае. Але дасведчаныя кажуць, што зьмяшчалася і 35, прычым разам з кешарамі[9]. Калі паверыць сядзельцам на слова, то мы і сапраўды як прэзідэнты ехалі — у люксавых умовах. Хаця той зэк меў рацыю — хай бы прэзідэнт у гэтым люксе і ехаў. Але як ён пакуль тут не ехаў, то ехаць мусіў я з сябрам маім Эдам Лобавым.

Я паспрабаваў агледзецца ў клетцы, каб знайсці Эдуарда, але гэта было немагчыма. «Эдуард», — гукнуў я ціха і не атрымаў адказу. Відаць, не такія лохі канваіры, каб падзельнікаў[10] садзіць у адну клетку, бо цягам этапа яны маглі дамовіцца па ўсіх нюансах справы. І хаця памылкі здараюцца, але гэтым разам мне на яе не пашчасціла.

«Братва, ёсць што закурыць?» — паўшэптам запытаў арыштант, які сядзеў побач са мной на лаве. Адказваць яму не спяшаліся, бо ўсім было не да курыва — нас было як селядцоў. Але любіцель тытуню не супакойваўся: «Ё што закурыць?» — перапытаў ён у навіслых над намі арыштантаў, якія не парадавалі яго сваім адказам.

— Ё сігара? — кінуў ён павярнуўшыся да мяне.

— Не, няма, — адказаў я.

— Што... няма?

— Так, няма, — пацвердзіў я ізноў.

— Ты шо, па-беларуску балякаеш?

— Ну а як мне яшчэ балякаць? — паўжартам адказаў я.

— Дык ён пастаянна па-беларуску, — заступіўся за мяне іншы селядзец, у якім я пазнаў наркамана, з якім мы перасякаліся ў адной з камер. — Гэта ж апазіцыя наша, ён пастаянна на мове балакае.

— Н-да, — хмыкнуў курыльшчык, — ёсць у цябе закурыць?

— На, — адказаў наркаман і праціснуў над галовамі руку з цыгарэтаю.

Змучаны без тытуню зэк цяжкімі рухамі расштурхаў заціснутых пасажыраў і закурыў-такі. Белае воблака паплыло над галовамі, а арыштант закатваў вочы і прагна зацягваўся.

– Браток, дай даб'ю, — ціха прагучаў голас наступнага курца, які насуперак сваёй волі быў адарваны ад цыгарэт і таму некалькі сутак курыў дубцы з мяцёлкі.

— На, — праціснуў той на дзве траціны скураную цыгарэту, якая была схоплена нервовым рухам рукі.

— Ну што, браткі, едзем на вясёлую турмачку! — выдаў палагаднелы курыльшчык. — Глядзіце, парадкі такія, што праз тыдзень на «Валадарку»[11] маліцца будзеце.

— І што там такога? — не даваў веры наркаман. — Турма як турма.

— Пабачыш, як падмалодзяць[12] разоў пару.

— Мяне гэтым не здзівіш, — хмыкнуў той. — Я во ў РУУСе адсядзеў без ежы трое сутак і кожны дзень на падмалодцы. З намі чэла нейкага ўзялі і не маглі ў яго прозвішча даведацца, дык скруцілі на ластаўку[13] і лупасілі суткі. Мы, канечне, давай ім равець «Підарасы, што вы з чалавекам робіце?!» Ну, нас і падмалоджвалі за кампанію ўсе трое сутак. А ты кажаш — Жодзіна.

— Так, мусары паўсюль аднолькавыя, — выдыхнуў курэц.

Аўтазак змоўк, і кожны сам сабе разважаў над тым, што радаснага нас у Жодзіне нічога не чакае: мусары паўсюль аднолькавыя.

– Канчайце там з курывам! — гаркнуў канваір, калі дым пайшоў па ўсім аўтазаку.

— Старшой, ужо няма чаго! — адказаў другі курэц, робячы апошнюю зацяжку і ўціскаючы акурак у падлогу.

Канваір устаў са свайго крэсла і адкрыў люк аўтазака — халоднае навагодняе паветра ўдарыла ў нашыя ссумавалыя па кіслародзе лёгкія.

* * *

«Выходзім! Рукі за спінай! Не размаўляць! Не аглядацца! Адзін за адным!» — выдаваў устаноўкі маёр — начальнік прымаючага боку. Прымаючы бок — турма №8 горада Жодзіна, вядомая ў народзе пад назовам «Чорны бусел». Турма гэтая мае сярод зэкаў славу самай жорсткай і шалёнай турмы Беларусі. У цяперашнія часы таго разгулу міліцэйскага гвалту мо і неназіраецца: не любяць яны чытаць прозвішчы свае і бачыць фоткі ў незалежных СМІ, але раней, сведчаць бывалыя, з пакоя прыёму зэкаў выпаўзалі.

Уздоўж шэрагу брахлівых сабак мы адзін за адным заходзілі ў лёгкія пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі, і турма паглынала нас — кагосьці на некалькі месяцаў, кагосьці на доўгія гады. Шэраг за шэрагам мы станавіліся тварам да замызганай сцяны. «У лепшыя гады яна ўся была чырвоная», — шэпча мне сусед. Я сам сабе хітаю галавою і радуюся, што патрапіў сюды ў гады горшыя.

Стоячы за чатырма шэрагамі патыліц, галоўны канваір трымаў у руках нашыя тэчкі — набор дакументаў на кожнага арыштанта. Зачытваючы прозвішчы, ён чакаў у адказ імя і імя па бацьку ды задаваў сустрэчнае пытанне, якое імкнуўся не паўтараць. Аднаго пытаў адрас жыхарства бацькоў, другога дату затрымання, трэцяга — імя дзяцей і г.д. Робіцца гэта дзеля таго, каб не трапіў сярод этапаваных які злодзей, што таемна прабраўся ў аўтазак ды хоча на халяўку пасядзець у турмачцы.

«Падыходзім па адным! Называем імя і імя па бацьку! Рэчы трымаем у рукох! Рукі трымаем за спінай!» — дае наступныя ўстаноўкі канваір, і будучыя зэкі пачынаюць вучыцца патыліцай адчуваць устаноўкі начальства.

– Рэчы ўзяць у рукі! — раўнуў канваір на арыштанта, што паставіў перад сабой добра набіты кешар і трымаў рукі за спінай.

— Як мне тады трымаць яго? — абурана запытаўся небарака, і меў на тое поўнае права, бо як устаяць на нагах, калі за спінай трэба трымаць кешар, што важыць так жа, як і ты?

— Ты што, не зразумеў?!

— Я не зразумеў, — спакойна, але цвёрда адказаў будучы, відаць, брадзяга[14] і тут жа адхапіў дубінкай па плячах.

«Во падонкі», — гунуў я з шэрагу не вельмі гучна, але дастаткова, каб пачулі канваіры.

«Хто сказаў?!» — гаркнуў нехта з іх.

Я маўчаў. Канваір аздобіў сваё патрабаванне пяціпавярховым, але я працягваў маўчаць. Выстаўляць сябе героем тут было бессэнсоўна — засцелюць у бетон і нікому да гэтага не будзе справы. Крык абурэння — гэта ўсё, што я мог дазволіць сабе, гэта ўсё, што я мог зрабіць, каб адцягнуць увагу зграі ад абранае ахвяры.

Нас размеркавалі ў адстойнікі — пякельныя камеры любой турмы. Гэтыя камеры з'яўляюцца пераналачнымі, размеркавальнымі пунктамі для зэкаў, тут рэдка затрымліваюцца больш, чым на суткі. У адстойнік змяшчаюць пры дастаўцы ў турму для шмону і далейшага пераводу ў камеры, якія зэкі называюць ужо не брыдкім словам «адстойнік», але пяшчотна-ласкавым «хата».

Адстойнік для чалавека, не звыклага да затрымання, выглядае па-дзікунску, але для дасведчанага апазіцыянера гэтая камера ўсяго толькі нагадвае пра старыя добрыя часіны спецпрыёмніка-размеркавальніка. Добрыя, бо тады ты ведаў, што праз 15 сутак з гэтага адстойніка выйдзеш на волю. А калі ты выйдзеш з турэмнага, не ведаў ужо ніхто. Адстойнік уяўляе сабой камеру, сцены якой пакрыты бетонным футрам, на ўсю шырыню, ад правай да левай сцяны, збудавана драўляная сцэна — гэткі ляжак з паўметра вышынёй ад падлогі, перад уваходам у камеру невялікая прастора — пятак, а ў адным з бакоў — рукамыйніца і нічым не агароджаны, адкрыты пляскаты ўнітаз на подыуме. Чаму ўнітаз на подыуме, ніхто не ведае. Такая ўжо яна — фантазія турэмшчыкаў.

Пакой для шмону ў жодзінскай турме таксама ўтрымлівае камеры-стаканы. Шмон прымаючага боку заўсёды больш пільны і працяглы: не жартачкі, сюды заязджаюць і маньякі, і серыйныя забойцы, і нават апазіцыянеры.

— Картачныя даўгі ёсць? — запытаў у мяне малады опер, да якога прывялі мяне пасля шмону.

Ягоная задача — падабраць табе камеру, у якой была б мінімальнаю імавернасць фізічных разборак — боек, панажоўшчыны і г.д. — мусарам трэба толькі падкантрольныя канфліктныя сітуацыі.

— Не, — адказаў я.

— Непаняткі па жыцці[15]?

— Што? — перапытаў я, не зусім разумеючы гэты слэнгавы выраз. Опер здзіўлена паглядзеў на мяне і нервова патлумачыў жодзінскага разліву феню:

— Рамсы петушыныя[16] ёсць?

— Не.

— Хто па ладзе жыцця?

— Мужык[17].

— Трэці адстойнік, — загадаў опер канваіру пры дзвярох і дадаў: — Наступнага!

***

Я зайшоў у перапоўнены адстойнік і кінуў: «Здаровенька».

«Здаровенька, здароў!» — атрымаў я ў адказ пару галасоў.

«Пасунься траха!» — буркнуў адзін зэк другому, які сціснуўся і, глянуўшы на мяне, кіўнуў: «Уладкоўвайся».

Я прысеў на кукішкі, пасунуў да сябе невялікую сваю торбу, прытуліўся да сцяны — расслабіўся.

Па целе пайшла прыемная хваля ад цягліцаў. Азірнуўшы камеру, зразумеў, што гэта і не адстойнік увогуле — ад наплыву ахвотных засяліцца ў навагоднюю ноч у турэмныя нумары пад адстойнік адвялі ізалятар. Пакуль я яшчэ не ведаў, колькі гэтым тэрмінам мне давядзецца выкатаць шызо[18] і адзіночак, і таму цікаўна ўсё азіраў.

Гэта была невялікая камера — ізалятар-двушка, метра 2,5 у шырыню і метры 4 у глыбіню. На сценах было дзве нары, што прышпільваюцца, і ніжняя была адкінута — на ёй тулілася зэкаў восем. Каля ўвахода меўся той жа пляскаты ўнітаз з кранам над ім. Гэтую ўніверсальную канструкцыю я ўпяршоў убачыў у 2006-м у адстойніках Валадаркі. Я яе называю «тры ў адным» — гэта вынаходніцтва айчыннай інжынернай думкі. Канструкцыя выконвае функцыю ўнітаза, рукамыйніка і душавой кабінкі. Бо калі ты прывык мыцца не раз на тыдзень, калі афіцыйна на 10 хвіль вядуць у душ, ты становішся на гэтую канструкцыю і паліваеш сябе чым атрымаецца. Калі ёсць бутэлька — ты прымаеш шыкоўны душ! Калі кубак — душ цудоўны! А як я ў многіх выпадках не меў нічога, дык паліваў сябе з футарала з-пад мыла — таксама душ, хаця і не шыкоўны.

Зэкі нешта радасна абмяркоўвалі. Асабліва два себручкі, што даўно не бачыліся, і вось турэмная камера звяла іх ізноў.

– Дык што, ты вычысціў усю краму? — здзіўлена пытаў адзін, траха азызлы і зарослы шчацінай зэк.

— А не, блін, я буду глядзець на яе! — радасна адрапартаваў другі, паджары, увесь пругкі, як конік, зэк, нават шыя і рукі якога былі забіты татухамі.

— І што, адзін?

— Не, мы гастралявалі па раёне з сябрам, бо ў горадзе на хвасце пастаянна мусары. Зайшлі ў крамку адну, і пакуль карашок[19] мой, Пятруха Кіслы... Ведаеш яго, з Розачкі[20]?

— Не.

— Дык вось, хлапак — Кашпіроўскі адпачывае, — пакуль ён загаворваў зубы прадавачцы, я выносіў краму — проста перад яе носам цэлік вынес!

— Ды ты гоніш[21]!

— Я це кажу, пачытаеш маю дзялюгу потым!

— Дык а ўзялі як?

— Узялі па глупасці, мы тавар аптавіку аднаму скідвалі. А тут бубкамі[22] ўмазаліся[23] з Пятрухам, і я той манітор сам пацягнуў на барахолку кентафурыку[24] аднаму. Нафіга гэта было — сам не разумею, бо на кішэні лавэ было дастаткова — тыдзень з кумароў[25] можна было б не выходзіць. Ну там нас і ўзялі.

— Н-да, — здзіўлена матляў галавой азызлы, пакуль уся камера дзівілася вялікаму таленту радаснага хударлявага зэка.

— Ну нічо, хоць з кумароў злезу. Два гады ў сістэме, і адчуваю ўжо, што падрывае мазгі. Зара гадкоў пару вазьму, дык ачуняю траха. Я заўсёды казаў: дзякуй роднай нашай міліцыі, што перыядычна на годзік-другі выдзірае нас на камандзіровачку[26], а тое і да сарака фіг хто дацягнуў бы.

З ляскатам адчынілася кармушка — пад'ехаў баландзёр[27] на сваёй калымажцы.

«Пайка!» — радасна кінуў паджары. Па ўсім было відна, што ён сапраўды прыехаў у турму раскумарыцца[28] і папраўіць здароўе. «Давай, бяры шлёмкі і перадавай!» — загадаў ён вясковаму хлопцу ля дзвярэй, якога выдавала гаворка.

Атрымаў сваю пайку і я — палоўнік пярловай кашы і палова перамолатай рыбы побач. На маё здзіўленне, усе накінуліся на ежу так, быццам гэта навагодні пачастунак з найлепшай сталічнай рэстарацыі. «Дзён праз колькі і я гэтак жа прагна буду паглынаць гэныя кішкі рыбіны з косткамі, — думаў я, гледзячы, як напорыста і дакладна рухаюцца скіўіцы згаладнелых за дзень сядзельцаў, — але не цяпер, цяпер мне нічога не лезе».

– Эх, закурыць бы нішцяк[29], ды ўжо галяк[30]! — пацягнуўся на шконцы[31] паджары. — Ё закурыць у каго?

— Ёсцека ў мяне, — няўпэўнена адказаў вясковы, што было расцэнена ўсяго толькі як нежаданне дзяліцца каштоўным у турме тытунём.

— Дай жа пару штук на братву — закурым, — паблажліва падбадзёрыў яго азызлы.

Вясковец дастаў дзве цыгаркі азызламу, потым да яго пацягнуліся рукі, і ён раздаў яшчэ два разы па дзве — і вельмі хутка маленькую хату напоўніла шчыльная тытунёвая хмара. Я прысеў ніжэй і ўткнуў нос у складзеныя на каленях рукі.

Заляскалі засаўкі, і ў камеру ўвайшлі два арыштанты. Адзін застаўся пры дзвярах, а другі рушыў далей — у мой бок. Я падняў галаву і аж скалануўся, пазнаўшы ў шэрай, высокай, але згорбленай постаці Валодзю Стрэчаня. «Валодзя, здароўкі! — абрадаваўся я. — Хадзі сюды!» Я прыўстаў і махнуў яму рукою. Валодзя ж амаль безуважна праціснуўся наперад, стаў побач і нешта невыразнае прамармытаў у вітанне.

– А ты не на «Магілёве» сядзеў у восьмым годзе? — так, каб чулі іншыя, запытаў у вясковага малады хлапец, што зайшоў у камеру разам з Валодзем і застаўся ля дзвярэй.

— Не, — схамянуўшыся адказаў вясковы.

— Як не, — настойваў малады, — у пятым атрадзе не ты быў?

У камеры рэзка павісла цішыня, і ўсе ўтаропіліся ў бок дзвярэй, дзе разгортвалася драма.

– Табе ж Фядос-сматрыла[32] статус вызначаў, — спакойна, гледзячы на вясковага, казаў далей маладзяк.

— Ах ты, підарская морда! — разарваў цішыню роў хударлявага.

Азызлы хуткім рухам рукі схапіў куртку, якую вясковец перад тым паклаў на нару, і кінуў яе на парашу[33]. Хударлявы скокнуў да вяскоўца і змаху даў яму ў галаву, ад чаго той ляснуўся аб дзверы і аб'ехаў.

**Працяг на старонцы 22.**

9 Кешар — торба зэка.

10 Падзельнікі — зэкі, якія праходзяць па адной крымінальнай справе.

11 Валадарка — менская турма №1 па адрасе: вуліца Валадарскага, 2.

12 Падмалоджваць — збіваць, мяць косткі.

13 Ластаўка — міліцэйскі прыём, калі зэка кладуць на жывот, а за спінай рукі кайданамі прышпільваюць да ног.

14 Брадзяга — так сябе называе блатны, зэк, які супрацьстаіць турэмнай сістэме ідэйна.

15 Непаняткі — тут канфлікты з-за сацыяльных турэмных статусаў зэкаў.

16 Петушыныя рамсы — канфлікты з-за сацыяльнага турэмнага стутуса зэка.

17 Мужык — зэк, які не з'яўляецца блатным, асноўная катэгорыя асуджаных, якія складаюць адсоткаў 95 любой зоны.

18 Шызо, альбо кіча — камера ўтрымання зэкаў, што яшчэ і ў турме ў чымсьці вінаватыя, звычайна — гэта парушэнне рэжыму ўтрымання. Абрэвіятура паходзіць ад «штрафны ізалятар».

19 Карашок, кораш — сябар, знаёмы.

20 Розачка — слэнгавая назва мікрараёна ў Менску, які месціцца ў раёне вуліцы Розы Люксембург.

21 Гоніш, гнаць — тут у значэнні «падманваць».

22 Бубкі, бубасы, семкі — рассыпны мак, з якога вараць наркатычны сродак.

23 Умазацца — укалоцца наркотыкамі.

24 Кентафурык, кент — сябар, знаёмы.

25 Кумары — ломка наркамана.

26 Камандзіроўка — зона, у больш шырокім значэнні — адседка ўвогуле.

27 Баландзёр — зэк, які раздае ежу ў турме ці зоне.

28 Раскумарыцца — прыйсці ў сябе, пазбавіцца ад наркатычнай ломкі — перарываць яе ці ўкалоцца.

29 Нішцяк — добра.

30 Галяк — няма.

31 Шконка — нара.

32 Сматрыла — блатная катэгорыя зэка, які глядзіць за «зладзейскім парадкам» на даверанай яму тэрыторыі.

33 Параша, даліна, светка, святлана — камерны ўнітаз.

**Працяг са старонкі 21.**

# Навагодняя ноч

Паджары схапіў цела, прыпадняў левай рукой і, як вясковы прыкрываў твар дрыжачымі рукамі, выдаў яму пад дых, потым па руках, якімі той прыкрываў твар, і штурхануў збітага на парашу. Усё гэта суправаджалася бязладнай лаянкай і пагрозамі.

– Ты што, петушыная морда, не курсуеш[34] братву[35]?! — равеў паджары, падымаючыся на прыступку да парашы.

Вясковы зэк нічога не адказваў і толькі, сагнуўшыся, прыкрываў твар і жывот састаўленымі разам рукамі. Паджары быў хлапак здаровы — стоячы на прыступку ніжэй, ён быў у адзін узровень з вясковым і, не дачакаўшыся адказу, пачаў малаціць твар вясковага сваімі вялікімі далонямі, каб менш заставалася пабояў. Хата моўчкі назірала, а паджары выбіваў правай, левай...

Невядома, ці то ён з задавальненнем малаціў гэту няшчасную ахвяру, якая пабаялася папярэдзіць астатніх пра свой турэмны статус, альбо паджары проста адпрацоўваў тое, што яму загадвалі турэмныя законы. Спачатку, канечне, ён спаганяў сваю злосць і злосць усёй камеры, але проста спагнаць у такім выпадку было мала — па «зладзейскіх» паняццях «пеўня», які не папярэдзіў пра сябе іншых, можна нават забіць. Калі ж той ці іншы зэк, выкрыўшы зэка з нізкім сацыяльным статусам, нічога не зробіў — яму самому потым могуць прызначыць той жа статус. Таму паджары малаціў, а азызлы падліваў алею ў агонь: «Підар гробаны!», «Адбіць петушыную галаву!»

Астатняя ж хата моўчкі назірала, назіраў і я, хоць карціна была ці не самая мярзотная, якую я цягам дзвюх адседак бачыў у турме. Заступіцца перад мусарскімі дубінкамі за зэка, зразумеў я цяпер, гэта быў не ўчынак, як здалося мне адразу, — гэта былі проста эмоцыі, усяго толькі злосць на беззаконне, намяшаная з прагаю адпомсціць. А хто смелы знайшоўся б заступіцца за гэту загнаную ахвяру, якая адна супраць усіх: і людзей, і мусароў, і зэкаў?

...правай, левай малаціў паджары, а постаць вясковага хісталася пад ударамі і білася то аб адну, то аб другую сцяну, па куце якой ён праз некалькі хвілін і пачаў аб'язджаць.

– Ды няхай, харэ — зара абрубіцца, — кінуў азызлы, калі паджары і сам ужо стаміўся.

— Підар гробаны, ты павінен курсаваць, што певень, як толькі заходзіш у хату! Зразумеў? — роў паджары, глыбока дыхаючы і схіліўшыся над целам вясковага.

— Зразумеў, — прасіпеў той дрыжачым голасам, ужо седзячы на парашы і ўсё яшчэ прыкрываючы галаву рукамі.

«Валодзя, як ты?!» — павярнуўся я да сябра свайго, калі шок ад убачанага трохі адпусціў мяне.

«Нармальна», — неяк незразумела хмыкнуў той, і толькі тут я звярнуў увагу на яго апухлыя, сіне-зялёныя рукі і такія ж ногі, больш падобныя да калодак, якія тырчэлі з расхрыстаных ботаў.

«Бог мой, што яны з табой зрабілі?..» — выдыхнуў я, і мне тут жа прыгадалася тая гісторыя са скручаным у ластаўку зэкам, якую распавядалі ў аўтазаку.

«Дакладна, гэта яго і пратрымалі суткі на ластаўцы ды малоцячы, бо ён усяго толькі не мог назваць сябе», — думаў я, з жахам гледзячы на яго рукі і ногі.

У аўтазаку я падумаў, што гісторыя перабольшана, але па стане Валодзі, які нават праз некалькі сутак так жахліва выглядае, можна было прыйсці да высновы, што зэк нават недагаварыў усіх нюансаў трохсутачнага ўтрымання ў РУУСе.

«Цябе як увогуле?» — кіўнуў азызлы на Валодзю, але ён не назваўся.

«Ты што, ігнаруеш, — азлобіўся той, — у ця вашчэ ўсё роўна па жыцці[36]?»

«Ды ўсё ў яго роўна, заступіўся я, — ты ж бачыш, мусара адбілі як, ды яшчэ, відаць, і на кумарах ён».

Зэк глянуў на Валодзевы калоды і больш пытанняў не задаваў.

Праз некалькі хвілін мяне і яшчэ некалькіх чалавек выклікалі на калідор. Я ўзяў свой пакунак у левую руку і правай хацеў было паціснуць ягоную, але зразумеў, што гэта не найлепшая ідэя. Трэ' было хаця б абняць Валодзю, але прадольны ўжо падганяў, і я адно толькі махнуў яму рукою: «Давай, Валодзік, трымайся!»

* * *

Мы ішлі доўгімі буслоўскімі пераходамі то ў адзін, то ў другі кірунак — канваіры разводзілі навасёлаў па розных карпусах гатэльнага комплексу. Турэмныя пераходы жодзінскае турмы знаходзяцца пад зямлёй, і, я мяркую, у свой час гэта можа быць някепскі такі жодзінскі метрапалітэн — пару станцый сюды зойдзе лёгка. Нас ішло зэкаў сем, а таксама спераду і ззаду па канваіру. Уздоўж усіх калідораў нацягнуты дрот сігналізацыі, а кожныя метраў 50 знаходзяцца вялікія жалезныя дзверы, якія першы па хадзе канваір кожны раз адмыкае ўніверсальным ключом, а апошні па хадзе — за сабой замыкае. Калі мы падняліся на трэці паверх апошняга корпуса, нас засталося два арыштанты.

— Так, што не паголеныя?! — адразу злобна кінуў старэйшы начальнік, падышоўшы да сцяны, дзе стаяў я.

— Дык толькі ж з ізалятара, — спакойна абурыўся я.

Начальнік у цяльняшцы пільна паглядзеў на мяне і загадаў:

— Сёння ўжо кладзіся спаць, а самым ранкам — галіцца! Зразумела?

— Зразумела, — адказаў я.

— Бяры матрац — і налева па калідоры, — махнуў ён мне рукой і загадаў прадольнаму: — У 348-ю!

Дзверы камеры адчыніліся, і я зайшоў у 6-мясцовую чыстую камеру. Злева стаяла адна двайная нара, справа — дзве двайныя, і ля сцяны агароджаны металёвай канструкцыяй пляскаты ўнітаз з асобнай рукамыйніцай, пасярэдзіне хаты стаяў даўгі стол. Дзве крайнія нары былі вольныя, гэта значыла, што я магу нават легчы на ніжні ярус — так на «Валадарцы» спяць толькі асабліва прыблатнёныя.

— Тваё месца справа ніжняе, — кінуў мне паставы, замыкаючы дзверы, і я ўзгадаў аповеды пра тое, што на «Жодзіне» спальнае месца таго ці іншага зэка вызначае адміністрацыя.

— Здаровенька, — цяжка павітаўся я, паставіўшы ля сцяны пакунак, і кінуў на яго вату[37].

— Здаровенькі! — раздалося пару галасоў.

— Усё роўна па жыцці? — падскочыўшы да мяне, запытаў мужычок год сарака пяці, невысокі і слізгавы, як вызначыў я яго для сябе адразу.

— Усё роўна.

— На якой камандзіроўцы чаліўся[38] раней?

— На «Шклове»?

— У якіх гадах? — не пераставаў мяне дапытваць слізкі.

— З 6-га па 8-мы.

— Дакладна па жыцці ўсё роўна?

— Паслухай, я ж табе сказаў, што роўна, — ужо азлобіўшыся, выдаў я, гледзячы слізгаваму проста ў вочы.

— Ладна, Вась, угаманіся, — кінуў слізгаваму высокі хлопец гадоў 30 з ніжніх левых нараў.

Ён, як я зайшоў, так і працягваў сядзець у начной піжаме на разасланай ужо шконцы.

— Чалавек з этапа, дай яму мо раскласціся ды дупля адстраліць[39].

— Усе спаць! — ляснуў прадольны дубінкай па дзвярах і, выключыўшы дзённае асвятленне, уключыў начнік.

— Цябе як? — кіўнуў мне зэк у піжаме, і па ўсім было зразумела, што гэта будзе кіраўнік нашай суполкі.

— Зміцер.

— Я — Саня, гэта Вася, — паказаў ён на ніжнюю шконку насупраць сябе, дзе сядзеў слізгавы і лыбіўся. — Гэта Пятруха і Махмед, — паказаў ён на верхнія нары, на якія, як толькі ўключылі начнік, пазаскоквалі маладзенькія невысокія хлапакі.

І не трэба было нават тлумачыць, дзе Махмед — неславянскае аблічча глядзела на мяне са шконкі над слізгавым. — Раскладайся, зара будзем Новы год святкаваць.

Я разаслаў матрац, заправіў яго і падушку, расправіўся і залез пад халодную тонкую коўдру. Сукамернікі мае пачалі абмяркоўваць сённяшні дзень: як кармілі, як яны не дачакаліся кабанчыка, як перавялі з камеры двух зэкаў, каб вызваліць месца мне — усё гэта я слухаў краем вуха і тое ўрыўкамі. Перад маімі вачыма стаялі сіне-зялёныя калодкі Валодзі, ягоны разгублена-абыякавы выраз твару.

Валодзя Стрэчань, ці Стрэчан, як я называў яго, кіруючыся жаданнем палепшыць гучанне, быў не проста маім суседам у трэцім атрадзе шклоўскай калоніі, са Стрэчанам мы разам сямейнічалі. Сямейнікі — гэта зэкі, якія разам харчуюцца. Вялікая камера турмы можа быць разбіта да дзве ці болей сям'і, і кожная сям'я харчуецца асобна. Бываюць такія выпадкі, калі адна сям'я мае што есці, а астатнія ледзь не ў прогаладзь, тады дзеляцца нейк — «ад душы душэўна ў душу», як кажуць ці тое паўжартам, ці тое ўсур'ёз зэкі. У зоне сем'і драбнейшыя звычайна — гэта насельнікі аднаго хадка[40]. Калі адзін атрымоўвае кешар — ядуць усе разам ягоны, калі іншы — то іншага. Гэта не з'ядуецца правілам, і многія харчуюцца самі па сабе, час ад часу дзелячыся чымсьці з тым ці іншым зэкам.

Я ўжо і не памятаю дакладна, як мы засябравалі з Валодзем. Магчыма, нас аб'ядналі суседнія месцы на лаве ў сталоўцы і выхад у адной брыгадзе на прамзону шклоўскай калоніі. Ранкам мы разам заварвалі гарбатку і перад снеданнем пілі яе з мёдам, ашчадна ахоўваным мною ад перадачы да перадачы. Па абедзе мы дзялілі пару кавалкаў сала ці цыбулі, а пры дзівосным збегу абставінаў — і сала, і цыбулі адначасова.

Перад сканчэннем працы мы на промцы разам рабілі фізічныя практыкаванні — ішлі за гараж і выцягвалі выпрашаную ў карыстанне штангу. Штанга была невялікая — кілаграмаў 60—70 — як і мы са Стрэчаном, але як зробіш з ёю падыходаў некалькі станавай цягі, падыходаў колькі на турнік ды прэс — то станавілася добра. Хаця, трэба прызнацца, Валодзя не быў пастаянны і любіў саскочыць. Тыдняў пару ён займаўся, потым кідаў і сядзеў паліў у бытоўцы, пакуль я рабіў падыходы ў адзіночку. Мне прыходзілася жартаваць з ім, пужаць незваротнымі зменамі ў лёгкіх, упрошваць — і ён праз тыдзень на паўмесяца-месяц вяртаўся на нашу трэніровачную базу.

Валодзя Стрэчань быў харошы хлопец, гадоў на той час дваццаці. Яго пасадзілі на 5 гадоў за касяк травы. Сітуацыя жахлівая і для нашай краіны класічная. Бяруць наркота якога са шпрыцом і пытаюць: — Сядзець хочаш? — Не, — адказвае той. — Працаваць на нас будзеш? — Буду, — хітае галавой небарака і афармляецца як нажыўка. Яму даюць заданне: ідзі да таго і таго, іншага наркота, і выпрасі ў яго дозу. Вось нажыўка падрульвае ў зручнай абстаноўцы да такога Валодзі і кажа яму: — Набудзь мне травы. — Ды сам ідзі і набудзь. — Ну я не ведаю, дзе якасная! Набудзь ты — мае грошы, а дубасім[41] на дваіх.

Валодзя можа згадзіцца адразу, можа доўга не згаджацца, але амаль заўсёды дастае надакучліваму дозу, і ў момант перадачы тавару іх бяруць абодвух. Нажыўка, натуральна, тут жа афармляецца сведкам і вызваляецца ад крымінальнай адказнасці, а Валодзя едзе ў зону на гадоў хаця б некалькі. «Для чаго ўсё гэта робіцца?» — здзіўлена запытае разумны чалавек. Адказ вельмі просты: усе пункты гандлю наркатой абсалютна вядомы сілавым структурам, але іх закрываць нельга, бо яны прыносяць прыбытак. Аднак разнарадка з планам па пасадцы наркадылераў зверху спускаецца кожны квартал, што ў такім разе рабіць? Трэба выдумаць іншых, фэйкавых наркабаронаў — і пакаваць іх. Вось і цякуць шырокай плынню Валодзі Стрэчані ў зону за адзін толькі касяк травы. У нармальнай краіне даць бы ім бізуна ды выпусціць да мамкі, але не ў нашай. У нашай задача — загнаць цябе на тры метры пад зямлю, каб ты, раз трапіўшыся, не выбраўся з гэтай багны ўжо ніколі.

І вось ляжаў я на нарах, заклаўшы руку пад галаву, ды думаў. Я думаў над тым, ці прыклаў я якія высілкі, каб Валодзя Стрэчань па вызваленні не занырнуў у наркату ізноў? Пра што мы з ім гаварылі? Ці сведчыў я яму пра Шлях збаўлення? Канечне, надта ці я хаваў веру, але і ніяк не мог прыгадаць, што я пра яе распавядаў.

— Ты верыш у Ісуса Хрыста? — напэўна, запытаў я ў яго неяк. — Так, веру, — напэўна, адказаў мне Валодзя. — Дык чаму ты тады не мяняеш сваё жыццё? — напэўна, працягнуў я. — Ладна, Дзімон, давай купца[42] заварым. — Давай! — напэўна, згадзіўся я, і сведчанне было скончана.

Нехта скажа, што гэтага дастаткова, чалавеку бо нельга надакучваць. Яно мо і так, але Біблія кажа зусім іншае. Апостал Павал піша свайму адданаму вучню Цімафею:

«Заклінаю цябе перад Богам і Ісусам Хрыстом, Які будзе судзіць жывых і памерлых, праз прыход Ягоны і Ягонае валадарства: вучы, настаўляй у час ці не ў час, даказвай, умольвай, сварыся з усёй цярплівасцю сваёй і навукай» (2Цім.4:1-2).

«І вось я, — ляжаў я на нарах і думаў, — замест таго, каб у час ці не ў час настаўляць, умольваць і сведчыць, — я варыў купец».

Мне зноў узгадваліся тыя ногі-калодкі і рукі сіне-зялёныя, я спрабаваў уявіць, як Валодзю прышпільвалі бранзалетамі рукі да ног і білі, а ён, абкураны ці абколаты, не мог назваць ім сваё імя — і яго білі яшчэ болей. Як, як я магу не сведчыць яму? Як я мог прамаўчаць увесь год нашага сямейніцтва? Няўжо я не разумеў, да чаго дойдзе Валодзя Стрэчань, калі самым радыкальным чынам не навернецца да Таго, Хто сведчыць пра Сябе: «Я — шлях, праўда і жыццё» (Яна 14:6)? Бо ці аповеды пра сцяг і дэмакратыю трэба таму, хто гіне? Таму, хто гіне, трэба найперш аповед пра выратаванне. І толькі тады, калі ногі ягоныя будуць цвёрда ўмацаваныя не на фальшывым, а на сапраўдным Шляху, калі жыццё ягонае будзе мець вечны працяг у жыцці Ісуса Хрыста — толькі тады яму можна гаварыць аповеды пра сцяг і дэмакратыю. Бо які сэнс, што ён прыхільнікам сцяга згіне раней часу ці пойдзе ў пекла?

– Давай, даставай чыф[43], без дзесяці дванаццаць! — гукнуў Санёк, і Пятруха з Махмедам палезлі ў батарэю, дастаючы адтуль змятыя пластыкавыя бутэлькі з чорнай вадкасцю. — Яшчэ гарачы! — пяшчотна выгукнуў Махмед, прыкладваючы пляскатую бутэльку да адной і другой шчакі. — Разлівайце! Зміцер, давай, падцягвайся!

Я прыпадняўся і, абапершыся локцем на нары, агледзеўся. Гарбата была наліта ў два кубкі, і мы, не злазячы з нар, перадавалі іх адзін аднаму. Я апусціў руку пад нару і пакапаўся ў пакунку — дастаў адтуль шакаладку, якую пад ухвальныя прыгаворванні сукамернікаў паламаў і параздаваў усім па пары кавалкаў. І тут загрукала ўсё навокал: грукаталі сцены справа і злева, знізу, і звінелі шыбы ў акне, Пятруха з Махмедам таксама адбівалі святочны рытм па сценах — трэслася ўся турма. Гэты феерверк адбіваўся літаральна пару хвілін — і на турму ізноў апусцілася ціша. Канваіры на калідоры нават не спрабавалі супакоіць зэкаў, відаць, гэтыя гарэзлівыя 90 секунд — тое адзінае, на што адміністрацыя турмы заплюшчвае вочы.

«Круці[44], ты больш гора бачыў», — жартам кінуў Санёк і, прыўстаўшы з нар, перадаў мне кубак з рэшткамі чыфу. Я зрабіў дужкі глыток і крыва ўсміхнуўся — сапраўды, як не гора, то роспачы я сёння пабачыў болей. Сіне-зялёныя рукі-калодкі і ногі-калодкі дагэтуль стаяць у мяне перад вачыма. Тады, на той жодзінскай нары, у навагоднюю ноч, я прыняў рашэнне: у любой камеры, у час ці не ў час, уважнаму слухачу ці безуважнаму, але сведчыць пра Таго, Хто ёсць адзіным выратаваннем для гэтых змучаных людзей, для ўсіх нас, для нашай краіны — пра Ісуса Хрыста.

[34] Курсаваць — паведамляць, папярэджваць.

[35] Братва, брацігі, блатныя — кіруючая каста зэкаў, у больш шырокім значэнні панятак «братва» можа ўжывацца да ўсяго зэкаўскага калектыву.

[36] Ці ўсё роўна па жыцці? — пытанне, якой азначае, ці няма ў зэка петушыных рамсоў (гл. 16).

[37] Вата — матрац з падушкай і пасцельнай бялізнай ці без іх.

[38] Чаліцца — сядзець.

[39] Адстраліць дупля — зразумець, што адбываецца.

[40] Хадок — праход у зонаўскім бараку паміж нарамі.

[41] Дубасіць — курыць наркотык.

[42] Купец — моцная гарбата.

[43] Чыф, чыфір — вельмі, вельмі моцная гарбата.

[44] Круці — тут дапівай.

# Самалёцік для Лімеля

**Стэфан Корф.** Калядная казка.

— Хутчэй, Толін, да пачатку чатыры хвіліны!

— Яшчэ цэлыя чатыры хвіліны. Адна — каб адказаць табе, адна — каб прайсці да цэху, адна — каб пераапрануцца, і яшчэ цэлая хвіліна — каб сядзець і нічога не рабіць. Як шмат часу...

— Што ты сказаў? Я цябе дрэнна чую...

— Нічога. Я не спазнюся. Бывай.

Той, каго назвалі Толінам, рушыў у бок вялікага будынка, незадаволена буркаючы сабе пад нос. Гэтыя дзве сотні крокаў ад хаты да працы ён пераадольваў ужо, мабыць, мільён разоў. Мільён разоў чысціў боты ля ўвахода, мільён разоў здымаў капялюш і зялёны шалік, мільён разоў садзіўся за стол ды раскладаў інструменты.

Тры лыжкі цукру, жменька арэхаў,
Шчопцік імберцу, трошкі карыцы —
Будзе дарослым і дзеткам пацеха
У хаце вясковай і ў сталіцы.

Звыклы ранішні спеў змяніўся рознакаляровым шоргатам. Шмат маленькіх ручак схапілася за лыжкі, малаткі, цвікі, кубкі, пілы, напільнікі, пэндзлікі, маслёнкі ды сякеры. Тут рабілі амаль усё: распраўлялі паперу ды пергамент, змешвалі фарбу ў вялікіх драўляных цэбрах, накручвалі канцы банцікаў ды загіналі ім ражкі, выводзілі роўныя літары на абгортках; пілавалі ды габлявалі дрэва, шліфавалі бакі лялек, кроілі тканіну і шылі прыгожыя сукенкі, адлівалі гузікі ды зашпількі; замешвалі карамель ды ўзбівалі вяршкі, намазвалі каржы крэмам, рабілі ядомыя сады і клумбы на тартах. Сям-там над маленькімі столікамі падымаліся светлячкі, якія ціха гулі тую ж мелодыю, якую пелі рабочыя на пачатку дня. Вось і наш герой пагладзіў казурку, пачаставаў яе кавалачкам цукру і падкінуў угару. Да яго адразу падляцела нешта падобнае да вялікага чмяля. Але гэта быў амаль звычайны фей са службы дастаўкі: жоўтыя куртка са штанамі, шапка з ліхтарыкам, вялікі плецены кораб у руках. Незвычайным у фею быў толькі яго памер — цяжка было ўявіць той закон фізікі, згодна з якім гэты вялізны аб'ём мог лятаць з дапамогай такіх невялічкіх страказіных крылаў. А ён не толькі добра лавіраваў паміж трубаў ды сталоў, але і вясёла пахрумкваў сельдэрэем.

— Вітаю. Як справы? Што сёння робіш?

— Раблю, як заўсёды, Шумпа. Забірай гэтую партыю паравозаў, а мне патрэбныя новыя дэталі.

— Зараз. Што думаеш пра куфаль цёплага малака пасля працы?

— Можна. Але зараз мне ўсё ж патрэбныя новыя дэталі.

Чмель-фей хутка, але асцярожна паклаў сем паравозікаў у свой кораб і ажыццявіў вертыкальны ўзлёт. Толін не паспеў устаць і пацягнуцца, каб пахрумсцець косткамі, як на яго стале ізноў была горка рознакаляровых калёс, труб, корпусаў, дзвярэй ды рэек. Іх трэба было зноў ператварыць у тое, чым будуць гуляцца дзеці. А горка потым ізноў вырасце. А дзеці зламаюць усё і выкінуць.

* * *

— ... і ён, ён... Ведаеш, я тады чытаў Райтаў, будаваў мадэлі. Той самалёт мог лятаць, мог пляніраваць, а калі нацягнуць адзін тросік — ён рабіў мёртвую пятлю... — эльф адпіў адаграванага малака з куфля і працягнуў: — Ведаеш, як цяжка было знайсці той канкрэтны тросік, ведаеш?!

— Веда... ік... даю, — адказаў яму ўжо трохі захмялелы фей.

— Ай, нічога ты не ведаеш. Цягаеш сабе дэталі да цацак кожны дзень, як той рознарабочы ў казках пра людзей... А мяне тады нават узялі паглядзець, як дзіця распакуе падарунак.

— Сам Клаўс узяў?

— Амаль. Яго жонцы тады вельмі спадабалася мая праца, і яна ўпрасіла майстра Клаўса. А гэты хлопчык узяў самалёцік і запусціў яго ў акно. У акно!.. На мароз. У снег! З трэцяга паверха!.. Ён... Вось скажы, Шумпа, дзеля чаго пісаць лісты ды прасіць ляльку, а потым яе адразу ў акно? Дзеля чаго мы кожны год прыносім ахвяры гэтым зласлівым істотам? Каб яны потым усё зламалі і выкінулі? Каб на наступны год захацелася яшчэ?

— Каб яны былі шчаслівыя... Каб яны радаваліся і віншавалі адзін аднаго. І калі там будзе добра, — пры гэтых словах Шумпа тыцнуў рукою з кубкам у бок поўдня, — калі будзе весела, то і ў нас будзе з кожным годам усё лепш і лепш...

— Лухта... Яны толькі і робяць, што плююць на нас. Я бачыў, што яны твораць. Я ведаю... У акно... Карчмар, яшчэ адно адаграванае малако з мёдам. Калі б я гэтых істот сустрэў...

— А мне з імбірам. Толін, спытай у місіс Клаўс. Можа, яна дапаможа табе ізноў пракаціцца з калядным гуртом. Убачыш, як людзі радуюцца, як ім добра ад падарункаў... А тое кінь.

Так яны сядзелі і размаўлялі. Пад канец вечара добра захмялелыя сябры кульнулі па напарстку какавы і сабраліся па хатах. Фей апрануў жоўтае, як цэнтр рамонка (гэтую міфічную кветку тут ніколі не бачылі, але Шумпа любіў думаць, што гэта той самы колер) паліто і чырвоныя, з белым арнаментам, рукавіцы на крылы. Эльф закруціўся ў даўгі шалік і нацягнуў капялюш са званочкамі.

Прыйшоўшы дадому, Толін заснуў вельмі хутка. Сніліся яму чырвоныя сані, дванаццаць аленяў ды ён. Ён сядзеў за вялікім снежкамётам «Максім», прымацаваным ззаду саней. Снежкі са свістам вылятаі з яго зялёнага ствала ды імгненна білі ў цэль. Злосныя людзі з паламанымі паравозікамі ды самалёцікамі падалі адзін за адным. Але хутка сані падбілі калядную гусь, якая вылецела з коміна. Эльф скокнуў з саней, выкарыстоўваючы дзіўны рамонак замест парашута, і дыстанцыйна падарваў сані... «Больш ніводзін эльф не будзе сумаваць», — праз сон сказаў Толін.

* * *

На наступны дзень у нашага героя ўжо быў план. На працы ён адліў клею і лаку ў бутэльку. Збіраў цацкі ён трошкі менш пільна, чым раней. Бо дзеля чаго старацца, калі задумаў такое. Пасля канца працоўнага дня ён сарваў некалькі шышак з елкі і ўзяў ліхтарык з цэнтральнага дрэва Чароўнай Вёскі. Нейкі гном, які праходзіў міма, спытаў, дзеля чаго яму патрэбна гэтая маленькая зорка. Толін адказаў, што жадае зрабіць калляднае дрэва ў сябе дома больш святочным і яркім. Але ліхтарык так і не апынуўся на яго ялінцы. Нават самога дрэва ў хаце эльфа не было. Засталося толькі пайсці да адзінокага будынка за вёскай.

— Майстра Кнорум, адчыніце!

— Хто такі?

— Я са зборшчыкаў. Мне трэба парамантаваць тут... Мне казалі, вы можаце дапамагчы.

— Цішэй, не гарлай так. Праходзь.

У майстэрні Галоўнага Механіка было цёмна. У цэнтры стаяў стары варштат. Інструменты былі раскіданыя па ўсёй прасторы: пілкі ды напільнікі віселі на сцяне, на палічках ляжалі рубанкі, пад нагамі купінамі сустракаліся абцугі і тэблі, у столь былі ўторкнутыя адкруткі, на варштаце ляжаў і дрыжаў малаток.

— Механізмы. Яны любяць цемру. Нездарма мы заўсёды іх хаваем у карабы ды кажухі. Яны баяцца святла, істот, пылу, вады. Яны як малыя дзеці, — сказаў стары гоблін, хаваючы дрыжачы малаток на паліцу. — Дык што табе трэба аднавіць?

Толін замест адказу выцягнуў з кішэні яловае зярнятка і з размаху кінуў на варштат, якраз у тое месца, дзе толькі што ляжаў малаток. Ён не схібіў — бухнула так, быццам нехта з другога паверха праваліўся на першы разам з печкай, ручным сланянём ды ваннай, у якой яны разам прымалі душ. Гоблін адляцеў да сцяны, а адкруткі на стале загнуліся ў розныя бакі. Эльфу нельга было марудзіць. Ён скокнуў да Галоўнага Механіка, які намагаўся перамагчы звон у сваіх вялізных вушах, і схапіў яго за каўнер.

— Дзе пыл?

— Які.. кхе.. пыл? Не... — Кнорум спрабаваў вырвацца.

— Магічны пыл. Дзе ён? Ты павінен чысціць сані пасля Каляд. Дзе пыл, які ты здымаеш кожны раз?

— Я... яго спальваюць. Гэта забаронена!

— Ведаю. Але няўжо ты не забіраеш частку забароненага сабе? Ведаеш, што гэта? — Толін дастаў з кішэні наступнае зярнятка і працягнуў: — Гэта елка. Яе частка, дакладней, дзіцёнак елкі, калі так можна казаць. З клеем і лакам. А тут кавалачак чырвонага шкла. Сам здагадаешся, адкуль... Ведаеш, чаму тут так грукнула?

— Чаму... Як... Адкуль ты ведаеш гэты рэцэпт?

— Я яшчэ многа чаго ведаю. Сімвал Каляд, тое, што аб'ядноўвае, тое, што ўпрыгожвае, і кавалак зоркі. Зверху магія — вось табе і крытычная маса... А яшчэ я ведаю, што ты крадзеш магічны пыл. У цябе ўвесь варштат у ім. Што ты робіш? Зброю? Новыя сані для сябе? А можа, ты проста прадаеш яго? Дзе астатні пыл? — эльф ізноў схапіў механіка за каўнер і як мага мацней затрос яго.

— Ён... Ён за лесвіцай... — здаўся Кнорум. — Але я буду скардзіцца. Цябе знойдуць...

— Не будзеш. Іначай табе прыйдзецца тлумачыць, чаму я сюды прыйшоў.

* * *

Астатнія часткі плана здзейсніць было лягчэй. Зборшчык узгадаў час, калі ён быў адным з найлепшых майстроў па дрэве і зрабіў прыгожую палічку з сасновымі кветачкамі. Так, на поўначы сосны ды елкі квітнеюць вялікімі белаблакітнымі бутонамі, якія пахнуць карыцай ды агеньчыкам свечкі. Прадмет інтэр'еру ён падараваў прывабнай эльфійцы Ёлі, якая за гэта пачаставала яго смачным яблычна-арэхавым пірагом. Рэцэпт гэтага шэдэўра кулінарыі выпытаць было не вельмі цяжка. Два кубкі гарачай гарбаты, якая для эльфаў значна лягчэйшая за малако, ды радаснае «Да сустрэчы». Не, ён мог абысціся і без гэтага кроку ў сваім плане, але чамусьці яму вельмі хацелася падараваць нешта Ёлі і сказаць: «З надыходзячым».

Далей была прыгатаваная копія Ёлінага пірага і прэзентаваная місіс Клаўс. Пірог, які згатаваў Толін, нагадваў арыгінал гэтак жа, як выразаная з паперы сняжынка на акне нагадвае сапраўдную. Але пірог быў усё адно смачным, і місіс Клаўс паабяцала пахадайнічаць у мужа за кулінара. Таксама Толін атрымаў цёплыя каўпачкі для вушэй у падарунак.

* * *

І вось надышоў той дзень. Майстра Клаўс запрог дванаццаць аленяў на галоўнай плошчы. Мяхі падарункаў ляжалі каля саней, а эльф Толін стаяў поруч з калядной групоўкай — шаснаццаццю гномамі дастаўкі. Кожны з гномаў меў за спінай дадатковыя чатыры жалезныя рукі, якімі мог таксама добра валодаць. На паясах у гномаў віселі розныя косткі, клубочкі ды шкарпэткі, каб нейтралізаваць хатніх жывёл. На лбах у іх былі спецыяльныя акуляры, якія адлюстроўвалі ўсю патрэбную інфармацыю аб людзях: век, ступень дабрыні, які падарунак і колькі абдыманак яму належыць. Эльф яшчэ раз памацаў заплечнік — ці не забыў ён нешта дома. Шышкі, біты ліхтарык, клей, лак ды пыл — усё ляжала ў асобных мяшэчках.

Місіс Клаўс пацалавала мужа і выдала кожнаму з гномаў невялічкую ссабойку — сэндвіч з аленевым сырам (сыр гэты робяць алені з птушынага малака) і бутэльку імбірнай гарбаты. Сані загрузілі падарункамі, і яны ўзляцелі.

— Хоў-хоў-хоў! Толін, падыдзі сюды, — сказаў галоўны на гэтых санях.

— Так, майстра.

— Мая жонка вельмі прасіла за цябе. І гэта ўжо ў другі раз. Ведаеш, я вырашыў, раз ты ёй так спадабаўся, вазьму цябе з сабою на дастаўку. Хоў-хоў-хоў!

— Дзякую, майстра Клаўс, — адказаў эльф, шукаючы вачыма на зямлі чалавечы горад. — А хутка мы будзем над Кантоверам?

— А... Кантовер. Памятаю, у мінулы раз на гэтых санях ты сам дастаўляў падарунак хлопчыку Лімелю. Жадаеш яго ізноў убачыць?

— Так. Убачыць. Апошні раз.

— Хоў-хоў-хоў! Гэта добра. Але ён там ужо не жыве.

— Як не жыве? — разгубіўся эльф. — Як гэта... Але... Гэта... Але я, мабыць, убачу той дом. І проста горад, які бачыў раней...

— А гэта можна. Дарэчы, я прыхапіў гэта з сабою спецыяльна для цябе. Гэта пісьмо Лімеля, якое ён даслаў сёлета. Гэта, канешне, не зусім па правілах, але я мяркую, гэта зараз табе трэба. А цяпер наперад! Хоў-хоў-хоў! Хутчэй, мае любыя парнарагатыя!

Толін узяў памяты аркуш і разгарнуў яго. Колькі прайшло гадоў з таго разу? Дзесяць, пятнаццаць, дваццаць? Час у Чароўнай Вёсцы ідзе па-іншаму...

«Любы Санта Клаўс.

Я табе не пісаў ужо амаль пяцьдзясят год.

...Эльф уздыхнуў. Пяцьдзясят год не пісаў... Значыць, гэтаму хлопчыку цяпер ужо больш за шэсцьдзясят-семдзясят дакладна. Колькі ж часу прайшло, а ён памятае і злуецца...

Дзякуй табе, што заўсёды прыходзіў на Раства. Спадзяюся, табе падабаліся мае печыва і какава. Дзякуй, што заўжды наведваеш майго сына ды яго дзяцей.

Я нічога не прашу для сябе. Я ўжо стары, а маладосць ты не пакладзеш пад елку.

Памятаеш той самалёт, які ты падараваў мне на сем гадоў? Я толькі тады навучыўся пісаць і марыў пра неба. Гэты аэраплан быў самым цудоўным з усяго, што я атрымліваў. Я гуляў з ім амаль кожны дзень. А потым была лётная школа, курсы ды дзясяткі іншых самалёцікаў. І кожны мне нагадваў той, з сінімі кругамі на крылах. Я памятаю, як на першы свой самастойны палёт узяў яго з сабою. І мы ляцелі ўдваіх: я на вялізным боінгу і шурпаты пілот на маленькім кукурузніку.

...Эльф адразу згадаў, як размалёўваў таго пілота — надта цяжка было зрабіць яму пышныя вусы...

Гэты вусаты пілот пабываў на ўсіх шасці кантынентах, зімаваў на ільдзіне з мядзведзямі і танчыў вакол вогнішча на востраве. Зараз ён выглядае не лепш за мяне, але і не горш.

Таму падары, калі ласка, маім унукам таксама іх «самалёцікі». Хай то будуць машынкі, паравозікі, дзіцячыя інструменты ці гітары. Але хай гэта стане іх шчаслівым і цікавым жыццём.

З Калядамі!

Лімель Канінскі».

— Ну, як табе? — майстар Клаўс выцягнуў эльфа з яго думак.

— Я... Не ведаю... Ён... Я думаў...

— Ты думаў, што ён выкінуў твой падарунак? Не здзіўляйся — Шумпа мне ўсе распавёў. Трымайся гэтага сябра — ён за цябе вельмі хвалюецца... Не, Лімель не выкінуў самалёт, ён пабег за ім босымі нагамі па снезе. А потым ляжаў тыдзень з тэмпературай. Не пужайся, усе памыляюцца. Клей, лак і пыл у цябе ў заплечніку?

— Так, але... Можна мне...

— Не, нельга, гэта не па правілах.

— Але ж, майстра Клаўс, вы нават не пачулі, што я хацеў спытаць...

— А мне і чуць не трэба. Табе нельга прабірацца праз дымаход у кватэру Лімеля, з дапамогай рэчаў у заплечніку рамантаваць самалёцік, нельга забіраць з сабою печыва. І ні ў якім разе мы не будзем чакаць цябе над дахам. І тым больш, хоў-хоў-хоў, ніхто з гномаў не будзе табе дапамагаць... Нічога не забыў, хлопцы?

— Яго інструменты, — сказаў гном у чырвоным каўпаку, які прывязваў канат да краю саней і рыхтаваўся да спуску.

— Так, і канешне ніхто, і канкрэтна Елік, не захапіў твае інструменты... А цяпер я пасяджу тут, вып'ю гарачага глінтвейну і пагляджу на зоры. Хвілін пяць...

— Але як я...

— А можа, і дзесяць... Хоў-хоў-хоў.

Эльф разгублена паглядзеў на добрага барадатага велікана. Елік у чырвоным капелюшы нецярпліва вісеў на краі саней.

— З Калядамі вас, майстра Клаўс... І... і дзякуй! — сказаў радасна Толін і, схапіўшыся за жалезную руку гнома, скокнуў уніз, у дымаход.



**Стэфан Корф**

нар. у 1990. Жыве ў Мінску, працуе праграмістам.



Мінскі фатограф Сяргей Макшун зрабіў гарачыя фоты дзяўчыны з кнігай Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».



Малодшы сын кіраўніка Беларусі Мікалай даў першае ў жыцці інтэрв'ю. Ён пагаварыў з маладым журналістам з Далёкага Усходу Жэнем Грышыным. Паміж хлопчыкамі толькі год розніцы, але знешне яны адрозніваюцца вельмі моцна. Коля Лукашэнка граў на фартэпіяна, гуляў у хакей, карміў кароў і трусоў. Сын Лукашэнкі сказаў, што не вельмі хочацца стаць прэзідэнтам, а лепш — доктарам ці вайскоўцам.



У мінчука Алеся Крата адмовіліся прымаць дакументы на пашпарт, бо на фотаздымку ён быў у вышыванцы. У пашпартным стале сказалі, што гэта незарэгістраваная сімволіка. Алесь пачаў пісаць скаргі, і праз тыдзень яму патэлефанаваў начальнік з прабачэннем. Здымацца ў вышыванцы на пашпарт можна.




Сярод моў, на якіх віншавалі ў Парыжы з Новым годам, была і беларуская.



У самага вядомага беларускага футбаліста XXI стагоддзя Аляксандра Глеба нарадзілася дачка. Глебу 35 гадоў, летась ён пабраўся другім шлюбам з мінчанкай Святланай Губарэвіч.



## Анекдоты і жарты

### Што аб'ядноўвае Беларусь і ЗША

У іх Флінт пад Дэтройтам — і ў нас Аўтазаводскі раён у Мінску. У іх азёры — у нас азёры. У іх бізоны — у нас зубры. У іх белы арол — у нас чорны арол. У іх кукуруза — у нас кукуруза нават у Мінску расце. У іх прэзідэнт любіць усё вялікае — у нас таксама. Яны аб'ядаюцца ўсёй сям'ёй на святы — і ў нас застоллі. У іх даляр — у нас даляр. У іх канстытуцыя... ну, давайце не ўсё адразу.

**Мардэхай В.**

* * *

Хто б мог падумаць яшчэ некалькі гадоў таму, што водгук пра электрачайнік на поўным сур'ёзе можа зьмяшчаць сказ: «Недахопы — няма Wi-Fi».

* * *

Рэальную свабоду мы набываем тады, калі з'ядаем усе навагоднія салаты.

***

— Вовачка, кім працуе твой тата?
— Трансфарматарам.
— Гэта як?
— 380 атрымлівае, 220 аддае, на астатняе гудзе...

* * *

— Гэта рай?
— Рай.
— А чаму нікога няма?
— Бо ў вас адзіночная камера.

### «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Забастоўка парыкмахерскіх работнікаў скончылася, бо гаспадары згадзіліся на ўсе трэбаванні сваіх работнікаў. Забастоўкай камандавала Беларуская сацыялістычная грамада. Вось трэбаванні парыкмахерскіх работнікаў: 1. Даваць отпуск на тыдзень кожны год. 2. Святкаваць жыдам ад 1 гадзіны ў дзень у суботу, хрысціян — у нядзелю ад 1 гадзіны ў дзень. 3. Увялічыць плату за работу на 5—15 працэнтаў. 4. Штрафы аддаваць на агульныя патрэбы. 5. За працу ў цеатры, апроч звычайнай платы, за кожны раз даваць па 75 капеек.

**«НН». №3. 1907.**

**Сола на трубе.** Перафразоўваючы паэта і казачніка Джона Дона: ніводная краіна не існуе самотна, як Востраў, сама па сабе; кожная краіна — часцінка Мацерыка, частка сушы, калі Мора змывае хоць бы адзіны Уцёс, меншае Еўропа... І калі нехта грае на трубе з газам ці нафтай, гэтую музыку чуе ўвесь кантынент. А таму не пытайся, каму перакрылі нафту, — нафту перакрылі табе!

**З эсэ Андрэя Хадановіча**
**«НН». №2. 2007.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.01.2017.
Замова №117.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

